ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛіМ

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

24 верасня 1993г № 38 (3708) Кошт 10 руб.





Яна пазірае нам у вочы — працаўніца, маці пяцярых дзяцей Ніна Васільеўна Яраш. У яе паглядзе запытанне, трывога, дакор. Так, напэўна, і дакор. Бо сорак гадоў адпрацавала жанчына на не вельмі жаночай рабоце — токарам; бо ўсяго набачылася і гора, мабыць, зведала, досыць; бо наўрад ці спадзяецца яна лепшай і лягчэйшай пабачыць долю дзяцей і ўнукаў. Вялікае цярпенне на гэтым спакутаваным мацярынскім твары. І — дараванне?..

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

*Саўгас «Лошыца» Мінскага раёна*

## Кола дзён

***21 верасня Барыс Ельцын нанёс рашучы ўдар па сілах, якія не толькі перашкаджалі ажыццяўленню рэформ у Расіі, але і былі яднаючым цэнтрам пракамуністычных рухаў, што паставілі сабе мэтай аднаўленне СССР у былых межах. Зноў чалавецтва ўважліва сочыць за развіццём падзей у Расіі, бо тут сёння вырашаецца лёс і будучыня не толькі былых рэспублік СССР, але і, без перабольшвання, усяго свету. І таму сваю падтрымку дзеянням Б. Ельцына адразу выказалі кіраўнікі вядучых краін Захаду — ЗША, Вялікабрытаніі, Японіі і інш., а таксама «блізкага замежжа» — Беларусі, Украіны, Казахстана... Нам падзеі ў Расіі цікавыя яшчэ і тым, што ўвесь апошні тыдзень урадавыя і камуністычныя газеты стракацелі разнастайнымі заявамі, зваротамі, рэзалюцыямі «з'ездаў», артыкуламі і інтэрв'ю прыхільнікаў «вяртання ў СССР», пабудовы «аднаўленага Саюза», ці, у крайнім выпадку, «канфедэрацыі Расіі і Беларусі». Што заспяваюць аматары ўз'яднання заўтра, калі Ельцын пераможа — а ўсё ідзе якраз да гэтага — і хасбулатаўскі савет канчаткова знікне з палітычнай арэны? Ці па дарозе ім з ельцынскай Расіяй? Ці не схопяцца яны зноў, як было гэта аднойчы, за выратавальны круг суверэнітэту і незалежнасці, каб захаваць свой «аазіс» ці дакладней — балота? І ці знойдзецца на Беларусі чалавек, які зможа асушыць гэтае балота і расчысціць шлях да карэннага пераўтварэння краіны гэтак рашуча, як зрабіў Ельцын? Спадзяёмся, што атрымаем адказы на гэтыя пытанні вельмі хутка.***

### СЕНСАЦЫЯ ТЫДНЯ

Указ Прэзідэнта Расіі Барыса Ельцына аб прыпыненні паўнамоцтваў Вярхоўнага Савета Расіі і правядзенні датэрміновых выбараў у Федэральны сход 11—12 снежня гэтага года стаў галоўнай нечаканасцю тыдня. Супрацьстаянне паміж дзвюма асноўнымі галінамі ўлады Расіі дасягнула піка напружанасці і развязка павінна была наступіць рана ці позна. Але што адбудзецца гэта такім чынам — не чакаў ніхто, у тым ліку, відавочна, і Хасбулатаў, і Руцкой. Прэзідэнт перахапіў ініцыятыву, яго падтрымаў увесь цывілізаваны свет, урад краіны і «сілавыя» міністры. Парламент вымушаны абараняцца. Пакуль, дзякуй Богу, з дапамогай чырвоных сцягоў вакол Белага дома і пастаноў аб адмене прэзідэнцкіх указаў, прызначэнні свайго прэзідэнта — Руцкога, сваіх міністраў і запалохванне тых, хто падтрымлівае Ельцына, пятнаццаццю гадамі зняволення або расстрэлам. Па апошніх паведамленнях Расійскага тэлебачання, якое таксама падтрымала законна выбранага прэзідэнта — Ельцына, абстаноўка ў краіне нармальная, уводзіць надзвычайнае становішча пакуль што няма неабходнасці.

### ЧАЛАВЕК ТЫДНЯ

На мінулым тыдні здарылася тое, чаго даўно чакалі ўсе, каму неабыякавы лёс нашае маладое беларускае дзяржавы, яе незалежнасці: Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч адкрыта перайшоў з цэнтрысцкіх, «згодніцкіх» пазіцый на пазіцыі партый і рухаў, якія ставяць на мэце пабудову незалежнае Беларусі. Пра гэта сведчаць ягоныя інтэрв'ю, прэс-канферэнцыі, выступленні па тэлебачанні на апошнім тыдні, дарэчы, яшчэ да падзей у Маскве, пра гэта сведчыць ягоная падтрымка ўказаў Барыса Ельцына, пра гэта сведчыць і канфрантацыя з прыхільнікам адноўленага Саюза, прэм'ер-міністрам Беларусі В. Кебічам, якая пашыраецца на вачах. Што ж, мажліва, у дэмакратычных рухаў Беларусі з'явіцца свой лідэр, які зможа аб'яднаць іх і павесці за сабою.

### ЛІЧБА ТЫДНЯ

80 долараў ЗША ўжо вінаваты краінам СНД, найперш Расіі, а таксама іншым дзяржавам свету кожны грамадзянін Беларусі, нават немаўля. Знешні доўг Беларусі, па звестках БелаПАН, складае зараз 880 мільёнаў долараў. «Добрую» памяць пакіне пасля сябе нашым нашчадкам, ды і нам, урад Кебіча. Крэдыты бярэ і скарыстоўвае невядома як ён, а аддаваць іх давядзецца нам.

### ЗДАРЭННЕ ТЫДНЯ

20 верасня ў 21.10 каля свайго дома ў цэнтры Гародні быў забіты старшыня Гарадзенскага аблвыканкама Дзмітрый Арцыменя. Мяркуючы па дакладнасці выстралу з пісталета ў прыцемках, забойца быў прафесіяналам. Злачынцы зніклі з месца здарэння на аўтамашыне. Расследаванне забойства ўзначаліў Генеральны пракурор рэспублікі Васіль Шаладонаў. Інфармацыя з праваахоўных органаў пра ход следства пакуль не паступае. Аднак, па неафіцыйных звестках, ёсць меркаванне, што «злачынства тыдня» можа перарасці ў «разборку тыдня».

### СХОДКА ТЫДНЯ

Дзіўную пазіцыю займае Міністэрства абароны Рэспублікі Беларусь: забараняе дзейнасць Згуртавання беларускіх вайскоўцаў і заплюшчвае вочы на працу ў войсках прарасійскі настроенага Саюза афіцэраў Беларусі, які вядзе адкрыта антыбеларускую, антынезалежніцкую, а значыць — антыканстытуцыйную палітыку. Гэта пацвердзілася і на другім з'ездзе Саюза, што адбыўся на мінулым тыдні. Рэй на ім вялі «патрыёты» з Расіі, у тым ліку і Сажы Умалатава. Саюз парэкамендаваў ВС Беларусі ануляваць Белавежскія пагадненні і зняць з пасады С. Шушкевіча, як аднаго з галоўных віноўнікаў развалу СССР, адназначна выступіў за адноўлены СССР. Ці можна абараніць інтарэсы незалежнае Беларусі з войскам, у якім кіруюць такія афіцэры? Пытанне, вядома, рытарычнае.

### НЕВЕРАГОДНАСЦЬ ТЫДНЯ

Як паведаміла «Звязда», народны суд Кастрычніцкага раёна Гародні разгледзеў справу аб 20 цыстэрнах з жоўтым фосфарам, якія доўгі час стаялі на станцыі Свіслач. Груз канфіскаваны ў даход дзяржавы. Яго арыенціровачны кошт, цяжка нават даць веры, — адзін мільярд долараў...

### КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Зварот да кіраўнікоў дзяржаў, парламентаў і ўрадаў незалежных дзяржаў — былых рэспублік СССР з прапановай аб утварэнні канфедэрацыі, падпісаны кіраўнікамі больш чым 20 палітычных і прафесійных аб'яднанняў Беларусі, мае, так бы мовіць, эпіграф-прызначэнне: Ельцыну, Хасбулатаву і Чарнамырдзіну. Зварот быў надрукаваны ў рэспубліканскім друку 22 верасня, калі названыя кіраўнікі ў Маскве стаялі ўжо па розныя бакі барыкад і пад рознымі сцягамі. Аб'яднаць неаб'ядноўваемае ў эпіграфе не ўдалося, мажліва, не ўдасца і ўвогуле. Дзіўна, аднак, было бачыць сярод падпісантаў гэтай халопскай і здрадніцкай заявы, якія, крый Божа, не маюць на мэце «аднабаковую выгоду для свайго народа» і выступаюць за стварэнне, калі не новага, «глыбока гуманнага саюза», то хоць бы «канфедэрацыі Расіі і Беларусі», прозвішчы І. Чыгрынава, М. Яроменкі, Л. Екеля, Я. Кавалеўскага.

Кола дзён

## З нагоды

# У ПРАДЧУВАННІ СВЯТА

Кожным разам, калі набліжаецца 17 верасня, зноў у прамой ці ўскоснай форме паўстае пытанне: свята гэта ці не свята, і калі свята — дык для каго? Зноў пачынаюць балець старыя раны, прыгадвацца старыя крыўды. Па праўдзе кажучы, хоць 17 верасня і ўнесена ў афіцыйны каляндар, сапраўдным дзяржаўным святам /такім, як, скажам, 9 траўня альбо 3 ліпеня, Дзень абвяшчэння БССР альбо Дзень Канстытуцыі/ гэтая дата ніколі не была. У 1939—41 гг. не паспела скласціся традыцыя святкавання, ды і ўлады нашыя ставіліся да Дня ўз'яднання неяк насцярожана.

У часе вайны, якую мы называем Вялікай Айчыннай, Польшча з ворага СССР /такой яна была ў 1939 годзе/ паступова трансфармавалася ў саюзніка. А паміж саюзнікамі не прынята прыгадваць крывавыя разборкі, што мелі месца ў мінулым. Пасля вайны па абодва бакі дзяржаўнай мяжы кіруючыя камуністычныя партыі дамовіліся не варушыць старое: ні Пілсудскага, ні Тухачэўскага, ні амаль дваццацігадовай акупацыі палякамі Заходняй Беларусі і Заходняй Украіны, ні 17 верасня 1939 года, ні Катыні. Акрамя таго, Дзень уз'яднання мае выразную беларускую нацыянальную афарбоўку, а мы ведаем, як камуністы ставіліся і ставяцца да беларушчыны.

Так што свята нібыта было і нібыта не было...

Цікавасць да 17 верасня рэзка ўзрасла ў «перабудовачныя» гады. Калі Масква аслабіла лейцы ў адносінах да сваіх сацыялістычных сатэлітаў. Калі стала зразумела, што ў СССР непазбежныя сацыяльныя змены і магчымы тэрытарыяльны падзел. У Польшчы і ў асяроддзі польскай дыяспары ўзняліся галасы за «аднаўленне гістарычнай справядлівасці», за вяртанне Польшчы яе «ўсходніх крэсаў». Пры гэтым палякі баязліва азіраліся на Германію: ці не захоча і яна вярнуць свае «крэсы ўсходнія» — Данцыг, Брэслаў, Штэцын, Аленштайн /Гданьск, Вроцлаў, Шчэцін, Ольштын/ і г. д.

Польскі палітычны рамантызм — рэч вядомая. Але і ў сённяшняй Расіі, здаецца, кепска разумеюць, што адбылося 17 верасня 1939 года. Газета «Известия» за мінулую пятніцу піша: «Апошні расійскі салдат пакідае Польшчу ў той самы дзень, калі 54 гады назад Сталін уварваўся ў гэту краіну». І няўцям аўтару нататкі, што не ўрываўся Сталін у Польшчу 54 гады назад; што Чырвоная Армія не пераступіла тую мяжу, дзе пачынаецца Польшча; што Сталін забраў у Польшчы толькі тое, што ёй ніколі не належала — беларускія і ўкраінскія землі, акупаваныя палякамі ў 1920 годзе.

І дарма далей у нататцы прыведзены словы польскага навукоўца: «Што такое 17 верасня?.. Зразумела, гаворка ідзе аб злачынстве, аб чарговым падзеле Польшчы... Я пажадаў бы рускім людзям лепей ведаць гісторыю».

Гісторыю трэба лепей ведаць і палякам. Як можна гаварыць аб «падзеле Польшчы», калі польская зямля трапіла пад нямецкую акупацыю цалкам? Сталін жа не атрымаў ніводнага метра польскай тэрыторыі.

Як у свой час адраджэнне польскай дзяржаўнасці стала мажлівым у выніку паразы Германіі ў Першай сусветнай вайне і падзення Расійскай імперыі, так і Дзень уз'яднання для беларусаў і ўкраінцаў стаў магчымым толькі ў выніку паразы Польшчы ў верасні 1939 года. Бо добраахвотна земляў ніводная дзяржава за ўсю гісторыю не аддавала. Давайце папросім у Польшчы: «Вярні Беласток», альбо ў Расіі: «Аддай Смаленск». Аддадуць?

Я не хачу, каб мяне зразумелі, нібыта я радуюся трагедыі Польшчы 1939 года. Я проста канстатую факты і раблю высновы.

Сёлета 17 верасня апошні расійскі салдат пакінуў тэрыторыю Польшчы. Павіншуем з гэтай падзеяй братнюю краіну. Спадзяюся, што ў хуткім часе такое свята будзе і на Беларусі.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# КАНЕЦ «ЗГОДЫ»?

«Згода» — любімае слова ў палітычным лексіконе Станіслава Шушкевіча. Гэта ягонае крэда. Але — згода да пэўнай мяжы. Калі патрабуюць абставіны, ён можа быць рашучым і нават жорсткім.

Канфлікт паміж Старшынёй Вярхоўнага Савета і прэм'ер-міністрам выспяваў доўга. І ў аснове яго не асабістыя матывы, а супрацьстаянне розных поглядаў на палітыку, эканоміку. Шушкевіч лічыць асноўнымі каштоўнасцямі — незалежнасць і нейтралітэт. Кебіч — прыхільнік шчыльнага /аж да пераўтварэння Беларусі ў расійскую губерню/ саюза з Расіяй, «коллективной безопасности» і эканомікі, пабудаванай на «тэлефонным праве». Старшыня Вярхоўнага Савета ўпэўнены, што гандляваць суверэнітэтам — злачынна; прэм'ер-міністр не бачыць у такіх гандлёвых аперацыях нічога заганнага.

Кебіч не лічыць патрэбным каардынаваць свае дзеянні з вышэйшай заканадаўчай уладай. Часам надараецца, што пра чарговую вандроўку прэм'ер-міністра ў Маскву і падпісаныя там дамовы Старшыня Вярхоўнага Савета даведваецца з газет.

Непрыязь прэм'ера да спікера чытаецца паміж радкоў падкантрольных Саўміну газет. Скажам, сустрэчы Кебіча з Марыяй Сортэ надаецца больш увагі, чым візіту Шушкевіча ў ЗША і ягоным перамовам з прэзідэнтам Клінтанам. А ўрадавая «Рэспубліка» нават напісала, што прыезд на Беларусь мексіканскай актрысы — падзея не менш важная, чым візіт Станіслава Шушкевіча ў Злучаныя Штаты.

Апошнім часам Старшыня Вярхоўнага Савета ў публічных прамовах досыць празрыста намякаў на тое, што менавіта выканаўчая ўлада, зыходзячы са сваіх інтарэсаў, цісне на тормаз, калі трэба рухацца наперад, стварае штучныя заслоны на шляху рэформ. 20 верасня гэта адкрыта прагучала з вуснаў Станіслава Шушкевіча ў адкрытым эфіры. Такім чынам — канец «згоды»? Паступіць так Старшыню Вярхоўнага Савета прымусіла актывізацыя імперскіх сіл, замахі на краевугольны камень ягонай палітыкі — Белавежскія пагадненні.

Як Шушкевіч не хоча назад у СССР, так Кебіч не можа наперад, у Незалежнасць. Не цяжка прадбачыць рэакцыю большасці ў Вярхоўным Савеце на выступленне Шушкевіча, дзе ён нарэшце назваў рэчы сваімі імёнамі. Але Старшыня Вярхоўнага Савета свой выбар зрабіў. Прынамсі, хочацца ў гэта верыць.

**П. В.**

# УЗНАГАРОДА МАЙСТРУ

Народны мастак Рэспублікі Беларусь, лаўрэат прэмій Аляксандр Кішчанка ўзнагароджаны медалём Ф. Скарыны. Узнагароду яму ўручылі міністр культуры Я. Вайтовіч і міністр інфармацыі А. Бутэвіч. Так адзначыла дзяржава творчы ўклад мастака ў беларускую культуру.

Аляксандру Кішчанку споўнілася сёлета 60 год. Неаднаразова ўдзельнічаў ён у выставах як жывапісец, але шмат увагі аддаваў дэкаратыўна-ўжытковаму мастацтву, мазаікам, габеленам. Манументальныя пано мастака ўпрыгожваюць пляцы і вуліцы /узгадайце мікрараён Усход альбо Юбілейны пляц/, а габелены — інтэр'еры грамадскіх будынкаў. Створаны ў мінулым годзе габелен для штаб-кватэры ААН у Нью-Йорку стаў сапраўднай сенсацыяй.

Уражвае вытканая ніткамі прыгажосць твораў мастака. Але застаецца нявырашанай праблема, дзе можна было б экспанаваць вялізныя па памерах габелены. Прыспела неабходнасць знайсці памяшканне для выставы А. Кішчанкі і адкрыць музей ягонай творчасці, пра што і гаварылася ў майстэрні мастака пасля заканчэння ўрачыстай цырымоніі.

**Н.К.**

*Фота С.ГРЫЦА*



## АД КАМІТЭТА ПА ДЗЯРЖАЎНЫХ ПРЭМІЯХ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Камітэт па Дзяржаўных прэміях Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры напамінае, што прыём на атрыманне Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь 1994 года праводзіцца да 1 лютага 1994 г.**

**Работы прадстаўляюцца ў Камітэт у адпаведнасці з Палажэннем аб прэміях, зацверджаным пастановай Прэзідыума Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 19 мая 1992 года N 1671-XII.**

**Па ўсіх пытаннях, звязаных з вылучэннем работ і афармленнем прадстаўлення, звяртацца ў камітэт, які змяшчаецца ў Доме літаратара: 220600, Мінск, вул. Фрунзе, 5, пакой 304 /III паверх/, тэлефоны: 36-50-69, 36-90-76; адказны сакратар У. Юрэвіч.**

# МУЖНАСЦЬ І РАШУЧАСЦЬ

Падзеі ў Расіі... Сёння гэтыя два словы ва ўсіх на слыху, выклікаючы розныя пачуцці, розныя асацыяцыі. Мне, напрыклад, чамусьці адразу прыгадваецца нядаўні вояж групы нашых народных дэпутатаў з парламенцкага аб'яднання «Беларусь» у Маскву да цяпер ужо былога Старшыні Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі Р. Хасбулатава. Пасля ўказа Прэзідэнта Расіі Б. Ельцына, якім прыпынена дзейнасць Вярхоўнага Савета Расійскай Федэрацыі і з'езда народных дэпутатаў, абвешчаны маючыя адбыцца ў снежні г. г. дэмакратычныя выбары ў федэральны сход, а затым і выбары самога прэзідэнта, указа, якім нарэшце рассечаны Гордзіеў вузел заблытанага, даведзенага да крытычнай масы процістаяння заканадаўчай і выканаўчай улад, якое вось-вось магло выліцца ў грамадзянскую вайну, сяму-таму з нашых парламентарыяў, духоўных пабрацімаў Хасбулатава і К°, ёсць пра што падумаць, ёсць што ўзважыць, з чаго «извлечь» урокі. Хоць, кажучы шчыра, спадзяванні на тое, што яны гэта зробяць, досыць прывідныя.

А пакуль прадстаўнікі так званага «народнага руху Беларусі», які аб'ядноўвае каля двух дзесяткаў розных партый і аб'яднанняў камуністычнай арыентацыі /напладзіліся, як мухаморы пасля дажджу/, борздка пабеглі пад чырвонымі сцягамі пікетаваць расійскае пасольства ў Мінску ў знак «пратэсту» супраць указа Барыса Ельцына, «узурпіравання» ім улады, «попрания» дэмакратычных свабод і канстытуцыі. Лозунгі, якія як дзве кроплі вады падобныя на тыя, што сёння лунаюць над дзвюма-трыма сотнямі чалавек, што тусуюцца таксама пад чырвонымі сцягамі каля «Белага дома» ў Маскве, «ахоўваючы» палітыканаў з дэпутацкімі значкамі, якія працягваюць займацца «заканадаўчай» дзейнасцю. Як сведчаць апошнія звесткі адтуль, дзейнасцю досыць зласлівай. Так, напрыклад, па прапанове аднаго з лідэраў пракамуністычнай «непрымірымай апазіцыі» Бабурына /яго, між іншым, нядаўна цёпла сустракалі ў Мінску ідэйныя хаўруснікі/ дэпутаты прынялі закон аб крымінальнай адказнасці прыхільнікаў прэзідэнта Б. Ельцына, які прадугледжвае доўгія тэрміны зняволення, не выключаючы і смяротнага пакарання. Ні больш, ні менш!

Гэты фарс у цытадэлі расійскага «парламентарызму» трапна назваў «спектаклем, пастаўленым нікчэмнымі рэжысёрамі», спікер беларускага парламента Станіслаў Шушкевіч. У гэтыя напружаныя дні не можа не выклікаць глыбокай павагі і яго дэманстратыўнае, абвешчанае на ўвесь СНД дыстанцыраванне ад так званага мемарандума Хасбулатава аб стварэнні нейкага агульнага эсэндаўскага парламента, і яго тэлеграма Барысу Ельцыну вечарам 21 верасня з пажаданнямі поспеху і мужнасці ў гэтыя лёсавызначальныя для Расіі /і не толькі для яе/ дні.

Хацелася б дадаць да гэтага, што ў такіх жа пажаданнях мае патрэбу і Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч. Мужнасць і рашучасць хай спадарожнічаюць і яму ў час недалёкіх ужо парламенцкіх баталій, якія ў значнай ступені вырашаць, па якім шляху пойдзе далей Рэспубліка Беларусь. Бо ёсць пагроза, што слова Рэспубліка нас прымусяць зноў пісаць з малой літары.

**М. ЗАМСКІ**

# МЕСЦА СУСТРЭЧЫ — АГЛОНА

***Як вядома, многія католікі з Беларусі пабывалі на сустрэчы з Папам Рымскім Янам Паўлам II у Вільні. Але паколькі колькасць беларускіх пілігрымаў была абмежавана літоўскім бокам, то многія паехалі на спатканне ў Латвію. Тут гэткага абмежавання не было.***

Санктуарыюм Маці Божай у Аглоне даўно вядомы сярод беларускіх католікаў. 15 жніўня, у дзень Унебаўзяцця Найсвяцейшай Панны Марыі, сюды штогод прыходзяць ды прыязджаюць пілігрымы з Беларусі. Прынамсі, вернікі з Мёршчыны і Браслаўшчыны тут бываюць часта. Дакладней, бывалі. Як яно будзе надалей, пасля ўзнікнення дзяржаўных межаў, пакажа час. Але сёлета, 8 верасня, у дзень нараджэння Маці Божай, у Аглону мелі магчымасць паехаць усе, хто пажадаў. Пілігрымы з Браслава, Глыбокага, Даўгінава, Полацка, Віцебска, Мінска прыехалі ў Аглону, каб удзельнічаць у набажэнстве, якое правёў Ян Павел II.

Сонечны вераснёўскі дзень. Мора людзей на пляцы перад касцёлам. Паўсюль чутна латышская, польская, руская, зрэдку — беларуская мовы. Папа Рымскі правёў набажэнства палатышску, з сінхронным перакладам на латгальскую мову. У часе казані ён звярнуўся да прысутных і папольску, і па-руску. Некаторыя з беларускіх католікаў выказалі пасля крыўду, чаму не пачулі яго словы, звернутыя да іх. Тым больш, што ўжо сродкі масавай інфармацыі перадалі аб тым, як Папа Рымскі прамаўляў у Літве па-беларуску. Відаць, на гэты раз ён не ведаў, што беларусы прыедуць і сюды на сустрэчу з ім. А можа, гаспадары па звычцы аднеслі беларускіх пілігрымаў да «русскоязычного населения»? Гэта засталося загадкай. Праўда, у часе набажэнства прыгожы дзявочы голас сказаў некалькі слоў і па-беларуску. Як кажуць, дзякуй і за гэта.

І яшчэ адно назіранне. Над людскім натоўпам амаль не было дзяржаўных сцягоў, апроч аднаго польскага, які трымалі турысты з Гдыні, і... беларускіх /іх было ці не з дзесятак/. З гэтае прычыны хлопцы з Полацкай уніяцкай суполкі жартавалі: «Відаць, таму, што ён нам гэтак цяжка дастаўся і мы ніяк не можам ім нацешыцца. А можа, баімся расстацца, каб не страціць чарговы раз? Таму і носім яго ўсюды з сабой і спадзяёмся, што калі не ўлады, то Бог дапаможа нам яго захаваць?»

Пасля набажэнства людзі яшчэ доўга не разыходзіліся з пляца: гутарылі, дзяліліся ўражаннямі, спявалі. Многія не трапілі надзеі трапіць у касцёл, але гэта ўдалося толькі тым, хто ахвяраваўся выехаць з Аглоны ажно ўвечары. Бо гаспадары праявілі пільнасць не толькі тады, калі пілігрымы ўранні заходзілі на касцельны пляц, і калі кожнага з іх абшуквалі з дапамогай сучасных тэхнічных сродкаў, але і пасля ўрачыстасці. Таму многія пілігрымы так і не пабачылі на свае вочы абраза Маці Божай Аглонскай, які славіцца сваімі цудамі. Але затое той, хто выстаяў чаргу да крынічкі з цудадзейнай лекавай славай, павёз з сабою яе празрыстую гаючую ваду. Павёз з надзеяй, што яна разам з пачутымі пранікнёнымі словамі Яна Паўла II аб тым, як важна нашым сучаснікам зберагчы ў сабе веру, надзею і любоў, як важна не паддацца наступу зла, дапаможа яму быць добрым хрысціянінам і добрым чалавекам.

**І. ЖАРНАСЕК**

З пошты тыдня

# НЕ ЗАБУДЗЕЦЦА «ГРУНВАЛЬД»...

Прайшло лета — час вакацыяў і адпачынку, час светлых і вясёлых хвілін, цікавых і пазнавальных дзён. Мне давялося працаваць у жніўні ў адзіным беларускамоўным летніку «Грунвальд», што ў Дзяржынскім раёне. Таму мушу падзяліцца некаторымі думкамі ад убачанага.

Прыемна канстатаваць, што ў нашай незалежнай краіне на працягу вось ужо чатырох гадоў дзеці з беларускіх школ і класаў маюць такую цудоўную магчымасць адпачыць і цікава правесці час у моўным асяроддзі, сярод сваіх равеснікаў. І ўсё гэта дзякуючы намаганням бацькоўскіх камітэтаў школ. Шкада толькі, што не ўсё задуманае можна здзейсніць. На дзяржаву, якой кіруе старое камуністычнае мысленне, спадзявацца не прыходзіцца, і справа трымаецца на імпэце сапраўдных адраджэнцаў.

Незаўважна праляцеў жнівень у летніку «Грунвальд». Сістэма правядзення імпрэзаў, фэстаў, спланаваная самімі выхавацелямі, сама атмасфера відавочна рознілася ад той, якую мы прызвычаіліся бачыць за савецкім часам.

Вось, напрыклад, асноўная імпрэза летніка — тэатралізаванае відовішча-свята «Грунвальд». Ужо самім рэжысёрскім зместам і гістарычнай ідэяй яно ўвасабляе старонкі мінуўшчыны Беларусі, неўміручыя падзеі барацьбы народа з захопнікамі, непахісную веліч і славу. Свята насіла не толькі забаўляльны характар, змест не толькі захапляў, а з'яўляўся і добрым павучальным сродкам выхавання патрыятызму і нацыянальнай годнасці, якіх так не стае зараз. Неабходна заўважыць, што калі раней адчувалася хоць нейкая дапамога для свята «Грунвальд» /касцюмы, сцэнарый, арганізацыя і г. д./, то сёлета быццам бы забыліся на існаванне адзінага беларускамоўнага лагера. Не было амаль не тое што «афіцыйных», але і «неафіцыйных» гасцей-адраджэнцаў, акрамя саміх бацькоў ды сваякоў грунвальдцаў. З горыччу згадваліся леташнія размовы пра неабходнасць адкрыцця па краіне некалькіх падобных летнікаў, пра паўсюднае стварэнне моўнага асяродку для школьнікаў беларускамоўных школ і ліцэістаў /у адным Мінску зараз іх звыш 20 тысяч/. На жаль, на справе атрымліваецца ўсё інакш. Увачавідкі, што ідэя ідэяй і засталася, а можа, і наогул загінула. Далей гучных слоў і заклікаў не пайшло. Толькі няёмка, калі паўсюдна чытаеш ды чуеш пра нястачу сродкаў і немагчымасць адпачынку дзяцей у Германіі, Кубе ці Польшчы. Дык навошта ж ехаць так далёка пры агульным жабрацтве і гістарычным бяспамяцтве, калі на нашай зямлі ёсць выдатны прыклад арганізацыі добрага і карыснага адпачынку? І ці варта тады будзе звяртаць увагу на лямант камуністаў пра нацыянальнае раздзяленне? Куды ж зніклі нашы дзеячы культуры: паэты, мастакі, барды, пісьменнікі? Дзе ж захапленне ідэяй і шчырае слова, проста ўвага?

Вельмі чакалі дзеці і святара на рэлігійнае свята Яблычны спас. Развучвалі песні, з захапленнем чыталі выдатна выдадзеную «Дзіцячую біблію», праўда, не ўсё разумеючы. Але і святар не завітаў. Відаць, што, акрамя супрацоўніцы радыё Р. Гамзовіч і старшыні бацькоўскага камітэта А. Шамака, нікому больш не цікава было пабачыць летні асяродак дзяцей — надзеі нацыі.

Працуючы ў летніку музычным кіраўніком, давялося адчуць сапраўдную прагу дзяцей да беларускае песні. Шмат хто браў удзел у імпрэзах і чуўся спеў, шчыры, без ціску і фармалізму. Спадзяюся, што застануцца ў іхняй свядомасці і памяці сапраўды патрыятычныя песні: «У гушчарах», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа», «Пагоня» і іншыя. Мяккія і добрыя пачуцці-ўспаміны аб летніку нагадаюць спетыя сучасныя і народныя песні. Можа, менавіта яны пабудзяць у юнацкіх душах высокія духоўныя ўяўленні аб жыцці, а не расейскі ці савецкі шырспажыў, які і зместам, і мастацкімі якасцямі значна ніжэйшы за айчынны. Таму што чужы. Шкада, аднак, што нашы музычныя дзеячы да гэтага часу не нараджаюць на свет паўнавартасныя дзіцячыя музычныя зборнікі і спеўнікі. Менавіта з такой праблемай штогод сутыкаюцца выкладчыкі школаў і ліцэяў.

І ўсё ж прайшло лета, наступіла восень — пара спадзяванняў і добрых спачынкаў. Застанецца ў памяці «Грунвальд» і людзі, адданыя сваёй справе. Тыя, хто заўсёды абароніць справу адраджэння нацыі і назаўжды спрычыніўся да яе.

**Алесь ГУСЕЎ,**
**студэнт 5 курса МІК**

Падпіска-94

# «ЦАНЮ, ПАВАЖАЮ, ВЫПІСВАЮ...»

Ідзе чарговая падпісная кампанія. Гэтым разам — усяго толькі на першы квартал наступнага года. «ЛіМ» верыць у свайго чытача і спадзяецца, што мы і надалей будзем разам.

Пра гэта сведчаць і тэлефонныя міні-інтэрв'ю, узятыя аддзелам пісьмаў і грамадскай думкі ў некаторых нашых даўніх і паважаных чытачоў /само сабою, і падпісчыкаў/. Просьба да іх была адна: патлумачыць, чаму яны сярод іншых выданняў выбіраюць і наш «ЛіМ», а заадно выказаць заўвагі і пажаданні штотыднёвіку і ягонаму рэдакцыйнаму калектыву.

Сёння змяшчаем інтэрв'ю Васіля БЫКАВА /гэта ягоныя словы вынесены ў загаловак/ і Івана ШАМЯКІНА .

## Васіль БЫКАЎ, народны пісьменнік Беларусі:



— Я паважаю «ЛіМ» не толькі як пісьменніцкую газету, што само сабой зразумела, бо гэта газета, якая вядзе пэўным чынам літаратурны працэс, займаецца ўсімі літаратурнымі справамі.

«ЛіМ» — гэта паслядоўна-дэмакратычная, антыкамуністычная газета, што асабліва важна ў наш час, час рэстаўрацыі камунізму. Калі да гэтага яшчэ дадаць, што «ЛіМ» паслядоўна адстойвае справу нацыянальнай і дзяржаўнай суверэннасці, змагаецца за аўтарытэт нацыянальнай мовы, дык стане зразумела самакаштоўнасць гэтага літаратурнага выдання. Апроч таго, мне здаецца, што ў рэдакцыі сабраўся вельмі здольны калектыў аднадумцаў, якія разумеюць свой абавязак перад літаратурай, перад беларускім народам. За ўсё гэта я паважаю, цаню, выпісваю і чытаю «ЛіМ».

## Іван ШАМЯКІН, народны пісьменнік Беларусі:



— «ЛіМ» — наша адзіная пісьменніцкая газета, і таму не выпісаць яго нельга. Нават і сёння, калі з'явілася столькі многа новых выданняў і на ўсе так узраслі цэны.

Што мне хацелася б бачыць у «ЛіМе»? Вядома, каб было больш літаратуры. Хоць, хачу зазначыць, літаратурныя матэрыялы цікавыя, заўсёды шырока прадстаўлена паэзія, шмат вершаў маладых. І гэта добра.

Штотыднёвік выконвае свае задачы, адпавядае назве — газета творчай інтэлігенцыі. «ЛіМ» заўсёды аператыўна адгукаецца на палітычныя падзеі, праўда, часам аднабакова, не хапае на старонках плюралізму думак, асабліва ў поглядах на гісторыю, прытым не даўнюю, тут нібыта ўсё добра, а на блізкую. Думаецца, газета толькі выйграла б, каб прадстаўляла на сваіх старонках розныя думкі, розных аўтараў.

Не ў роўным становішчы цяпер «ЛіМ» знаходзіцца з іншымі выданнямі. Але трэба трымацца. І я праз газету звяртаюся да ўрада Беларусі падтрымаць нашу адзіную літаратурную газету ў такі цяжкі час.

# «СПРОСИТЕ У БЕЛОРУССКИХ ТОВАРИЩЕЙ...»

Даведаўся пра вальяжнае кітаялюбства аднаго саўмінаўскага дзеяча /«Будзем паважаць канстытуцыю», «ЛіМ», 10 верасня/ і парупіла запытацца: чаму б яго чулліваму сэрцу да Беларусі й беларушчыны не пагарнуцца? Няхай тэрмасы нашы кепскаватыя, затое м о в а! Як ні калечылі, ні нішчылі, а яна, мілагучніца родная, жыве, бруіцца ручаінаю свежаю, чыстаю. Трывучая! Хоць на шляху ейным чародны завал...

А справа вось у чым. Прыйшоў масквіч-беларус на маскоўскую пошту выпісаць беларускую газету, а яму — ад варот паварот. У падпісным каталогу Расійскай Федэрацыі на 1994 год аніводнага выдання Беларусі. Летась тут фактычна быў выключаны толькі беларускамоўны друк, сёлета ж — аніякіх, ні беларускіх, ні рускіх перыёдыкаў з Бацькаўшчыны. Рэспубліка Беларусь у каталогу адсутнічае, хаця іншыя, сумежныя з Расіяй дзяржавы заяўлены — Азербайджан, Грузія, Казахстан, Украіна. Словам, «Брусель» беларускі еўрапеізуецца ці, каму больш даспадобы, рашуча інтэрнацыяналізуецца, нават куды больш рашуча, чым пры ўладзе бездакорных інтэрнацыяналістаў-бальшавікоў. Мажліва, два мільёны расейскіх беларусаў ды многія расіяне — прыхільнікі беларушчыны не ў абсягу клопатаў саўмінаўскага чынавенства? То навошта тады ўрадавы аддзел друку? Няўжо толькі дзеля прапаганды ягоным загадчыкам кітайскіх тэрмасаў?

Гэта я к таму, што няхай бы адказны таварыш з Саўміна «борзел» сабе на здароўе, але не коштам беларускіх дзяржаўных сродкаў, тым болей, не на шкоду Беларускаму Слову, Беларускаму Нацыянальнаму інтарэсу. Разумею, патэтыкай справы не вырашыш. Вырашаць жа трэба. А іменна, чаму беларусу ў Маскве /пра Сібір, Курылы маўчу/ недаступныя «Голас Радзімы», «ЛіМ» і г. д., тады як падпісчык у Менску клопатаў з «Правдой», «Советской Россией», здаецца, не мае?

Маскоўскія паштавікі шчыра мне паспачувалі ды ласкава параілі: «Спросите у белорусских товарищей, почему их Республики в каталоге не оказалось». Вось і пытаюся ў шаноўнага загадчыка саўмінаўскага аддзела друку: што скажаце, параіце? «Борзеть» следам за Вамі і вашым «народом» /сотня-другая наменклатурных крэслаў/?

А можа, ёсць другое, лепшае выйсце? У інтарэсах Беларускага Народа.

**Аляксей КАЎКА**

*г. Масква*



# МІЖ БЕРАГАМІ...

## НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА АДЗНАЧЫЛА 90-ГОДДЗЕ

Яе імя сёння, без перабольшання, на слыху ў многіх людзей. Нават у тых, хто далёкі ад літаратуры, паэзіі. Па-першае, змянілася наша стаўленне да эміграцыі, а яна ж, Н. Арсеннева, адзін з самых яркіх прадстаўнікоў беларускага замежжа. Па-другое, у грамадстве /а так, дарэчы, было часта/ прыдзірліва-крытычнае стаўленне да тых, хто пакінуў Радзіму. У біяграфіі ж Н. Арсенневай ёсць моманты, што даюць мажлівасць па-рознаму ацэньваць тое, што яна рабіла ў гады вайны. А па-трэцяе, — і гэта ці не самае галоўнае, што спрацавала на папулярнасць Н. Арсенневай, — жаданне многіх бачыць у якасці Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь яе верш «Малітва»:

**Магутны божа! Ўладар сусветаў,**
**вялізных сонцаў і сэрц малых,**
**над Беларуссяй ціхой і ветлай**
**рассып прамене Свае хвалы.**

Адным словам, Н. Арсеннева — з'ява ў нацыянальнай культуры, нацыянальнай гісторыі. І калі да пражытага ёю можна ставіцца па-рознаму, дык у адным сумнення няма: яна — паэт. Яна творца, якім мусіць ганарыцца нацыя. У дадзеным выпадку талент узнімаецца над усім астатнім, дамінуе над ім. А жыццё...

Жыццё складанае, пакручастае, якое вяло ад прыстані да прыстані, кідала ў такія віры, з якіх не кожны і выкараскацца можа. Нарадзілася 20 верасня 1903 года ў горадзе Баку, «але, — як сведчыць Н. Арсеннева ў аўтабіяграфіі, — месцам майго нараджэння лічыцца ўлюбёная Вільня, дзе я практычна расла й гадавалася ад першых месяцаў свайго жыцця...» А пасля, як вядома, была першая сусветная вайна. Сям'я апынулася ў эвакуацыі ў Яраслаўлі. Наталля на той час мела дванаццаць гадоў і пачала вучыцца ў мясцовай гімназіі.

Вучобу прадоўжыла ў 1920 годзе ў Першай Віленскай беларускай гімназіі. І раней пісала вершы /бацька яе, між іншым, паходзіў з таго самага роду Арсенневых, што даў па жаночай лініі М. Ю. Лермантава/, а тут сама атмасфера спрыяла таму, каб сур'ёзна брацца за пяро. Выкладчыкамі працавалі Максім Гарэцкі, Антон Луцкевіч, Браніслаў Тарашкевіч, Аркадзь Смоліч і іншыя — цэлае сузор'е беларусаў-адраджэнцаў. Асабліва ёй падабаліся ўрокі беларускай мовы і літаратуры, якія даваў М. Гарэцкі. Васьмікласніцай яна і асмелілася паказаць яму некалькі сваіх твораў. Вершы Максіму Іванавічу спадабаліся, ён назваў сваю вучаніцу «новай Канстанцыяй Буйло». А сама яна зачытвалася творамі М. Багдановіча, Я. Купалы і, зразумела, М. Лермантава.

З гэтага моманту і пачалася літаратурная дзейнасць Н. Арсенневай. Адзін з яе вершаў «Восень» М. Гарэцкі змясціў у газеце «Наша думка», якую сам рэдагаваў. Пасля творы яе з'явіліся ў іншых перыядычных выданнях, а ў 1927 годзе ў Віленскім выдавецтве Б. Клецкіна пабачыў свет першы зборнік Н. Арсенневай «Пад сінім небам» /дарэчы, летась ён вытрымаў два факсімільныя выданні — яго перавыдала «Мастацкая літаратура» і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына»/.

Рэдкі выпадак, каб на першую кнігу з'явілася так шмат водгукаў. А яны былі і ў заходнебеларускім друку, і ў тагачасным савецкім. Спадабаліся многія творы Н. Арсенневай і яе таварышам па пяры. У прыватнасці, М. Танк у «Лістках календара» пакінуў такі запіс: «са сваіх інтымных пачуццяў яна ўмее вязаць прыгожыя карункі» /меў на ўвазе і новыя вершы паэтэсы, што былі змешчаны ў часопісе «Калоссе»/. Н. Арсеннева к таму часу ўжо скончыла гімназію, курсы настаўнікаў беларускай народнай школы і настаўнічала ў Польшчы, ды пастаянна наведвалася ў родную Вільню, прыязджала да мужавых бацькоў на Валожыншчыну /яшчэ ў 1922 годзе выйшла замуж за Ф. Кушаля/.

Пасля ўз'яднання Заходняй Беларусі не без дапамогі М. Танка ўладкавалася карэктарам у «Вілейскую газету». Перад гэтым паспела падрыхтаваць да друку другі зборнік вершаў «Жоўтая восень». На жаль, ён так і не паспеў пабачыць свету.

13 красавіка 1940 года Н. Арсенневу арыштавалі. Пра выпрабаванні, якія давялося пасля гэтага перажыць, яна падрабязна расказала ва ўспамінах «У казахстанскай ссылцы», апублікаваных яшчэ ў красавіку 1952 года ў газеце беларускага замежжа «Бацькаўшчына» /передрук у часопісе «Беларусь», 1993, N 6/. З далёкага Казахстана выклікалі ў Маскву: «Энкавэдоўцы стараліся намовіць на мяне, каб я падпісала развод з маім мужам, але я адмовілася». Аказваецца, муж у гэты самы момант таксама знаходзіўся на Лубянцы, «можа, праз якую сцяну ад мяне, а я і не падазравала гэтага!»



На гэты раз, як кажуць, абышлося. Дапамагалі хадайніцтвы Я. Купалы, М. Танка. Дазволілі вярнуцца на Радзіму. А неўзабаве пачалася Вялікая Айчынная вайна... Працавала ў «Беларускай газэце», кіравала аддзелам літаратуры Беларускага культурнага згуртавання. Прымала ўдзел у рабоце Другога Усебеларускага кангрэса. І пісала вершы, якія склалі кнігу «Сягоння», што выйшла ў 1944 годзе ў Мінску. Перад гэтым яны змяшчаліся на старонках тагачасных выданняў, выхад якіх быў дазволены немцамі.

Як і многія, жадала Беларусі лепшай, шчаслівай долі. Як і многія, напачатку верыла, што сапраўднае нацыянальнае вызваленне могуць даць гітлераўцы. Ды пакрысе пачала адчуваць, што і на гэты раз Беларусь не зможа заняць «свой пачэсны пасад між народамі». Расчараванне прыйшло, калі пачала даведвацца пра масавыя забойствы людзей.

А тут асабістае гора: у час адной з акцый мінскіх падпольшчыкаў загінуў яе старэйшы сын Яраслаў. Як жа хацелася пасля ўсяго гэтага быць «над вайной»?! Ды з віру, у які апынулася, нялёгка было выбрацца! Магчыма, шмат у чым і наіўным гэта падасца, але ёй хацелася прымірыць захопнікаў і абаронцаў Радзімы. Найлепей гэты матыў прагучаў у вершы «Паўшым»:

**... Пад крыжам, без крыжа,**
**нацятаю галінай**
**на жорсткі, гойстры жвір спаць**
**ці адзін прылёг.**
**Змяшалася з пяском чупрына маладая,**
**боль выпіў сінь вачэй і свежых**
**вуснаў кроў.**
**Васковаю свячою над імі восень тае,**
**і сніць**
**адзін пра Рэйн, а іншы — пра Дняпро.**
**Не рупіць іх нішто... Жахлівыя змаганні,**
**магутны чар вайны, крывавыя світанні**
**больш не хвалююць іх...**
**Яны прайшлі свой шлях.**

Пасля вызвалення Беларусі да 1949 года жыла з мужам у Германіі, а адтуль пераехала ў ЗША. Па сённяшні дзень жыве ў гарадку Рочэстэры. Разам з сынам і ўнучкай /муж памёр/.

Шмат часу прайшло пасля выхаду з друку тома выбранай паэзіі «Між берагамі» /1979/. І, вядома, не пішацца ўжо, як пісалася раней. Тое ж, што створана, пазначана высокай мастацкасцю, філасофскай напоўненасцю радка, праўдзівасцю пачуццяў і перажыванняў лірычнай гераіні, у якіх, канечне ж, шмат свайго, асабістага.

Найбольш гэтае выпакутаванае дало аб сабе знаць у вершы «Між берагамі», напісаным яшчэ ў 1971 годзе:

**Няцямным немаўлём я пяты памачыла**
**упершыню ў кіпень ракі майго жыцця.**
**І вось — другі ўжо бераг шэры неўпрыцям**
**расце перад вачмі...**
**Ён прыме на спачынак.**
**А я б — яшчэ плыла,**
**няхай між берагамі**
**каменне, і віры, і дна глыбінны жвір...**
**Ці раз параненая імі да крыві,**
**не паддалася ўсё ж, не пала я ў змаганні.**

Між берагамі — лепей і не скажаш. Яна і на самай справе апынулася між двума берагамі. Як і ўсе тыя, хто ў розны час пакінуў Бацькаўшчыну. І далёка бераг ад берага. І так цяжка наводзіць між імі масты.

А трэба ж! Каб адтуль, з чужыны, «крочыць» на зямлю родную, зямлю блізкую, каб сэрцам дакрануцца «Беларусі ціхой і ветлай». Адзін, бадай, падыходзіць будаўнік у гэтым выпадку — уласнае сумленне. І хочаш таго ці не, але рана ці позна, а перад ім трэба трымаць споведзь.

Наталля Арсеннева пачала гэта рабіць даўно. Яшчэ першымі вершамі, напісанымі ў эміграцыі.

Ну, а мы, нарэшце, зразумелі, што ў нас ёсць яшчэ адзін самабытны ПАЭТ.

**З.В.**

З пошты "ЛіМа"

## АРШАНСКІ ВАРЫЯНТ

Тое, што г. Орша — буйны чыгуначны вузел, ведаюць амаль усе. Па ўсіх напрамках ідуць праз яго цягнікі. З нейкага часу пачынаеш адчуваць, што гэта — беларускі горад. Сям-там з'явіліся ўказальнікі на дзяржаўнай мове. Расклад руху цягнікоў таксама напісаны па-беларуску, толькі з процьмай памылак. Напрыклад: час мясцов**ый**; па пятніц**ам,** па нядзел**ям** і г. д. Але аб'явы па радыё тут робяцца па-ранейшаму на расійскай мове. На будынку вакзала з'явілася /раней я яе не бачыў/ выява з металу правадыра сусветнага пралетарыяту з надпісам, што той знаходзіўся ў Оршы праездам. Зусім блізка ад будынка вакзала знаходзіцца вялізная постаць яшчэ аднаго дзеяча бальшавізму — Кірава /супраць Палаца культуры чыгуначнікаў, які носіць яго імя/. Не ведаю, ці быў Кіраў у Оршы і што ён наогул зрабіў для нашай дзяржавы, але шануюць яго не менш, чым Заслонава. Можна колькі хочаш гаварыць пра незалежнасць, дзяржаўнасць, самастойнасць і г. д., але ні аднаго , ні другога, ні трэцяга ў нас не будзе пры такіх адносінах да дзяржаўнай мовы, гісторыі, спадчыны.

**В. ШАЎРОЎ**

## ПАГРАЖАЛЬНЫЯ СІМПТОМЫ

Хацеў бы засяродзіцца на аспекце, які радзей за многія іншыя трапляе ў поле зроку палітыкаў, асабліва тых, хто сёння пры ўладзе.

Я маю на ўвазе дэмаграфію. Ствараецца ўражанне, што ўладныя структуры наогул не маюць ніякай канцэпцыі ў пытаннях дэмаграфічнай палітыкі на Беларусі. А, між тым, дэмаграфічная тэндэнцыя набывае паграмальны для нашай нацыі характар. Няўмольна набірае ход паступовае старэнне народа, зніжаецца доля актыўнага, працаздольнага насельніцтва, расце доля ўтрыманцаў, што несумненна выкліча ў хуткім часе дадатковую напружанасць у эканамічнай і сацыяльнай сферах.

На чым грунтуецца гэты змрочны прагноз?

Згодна статыстыцы, сярэднегадавыя тэмпы прыросту насельніцтва на Беларусі складалі ў перыяд з 1959 да 1969 года — 1 %, з 1970 да 1988 года — 0,7 %, а ў 1990 годзе ўсяго толькі 0,01 %. На абшарах былой імперыі горш было з гэтым толькі ў Эстоніі ды ў Латвіі. Беларусь вызначаецца таксама найбольшым змяншэннем колькасці сельскага насельніцтва. У параўнанні з 1940 годам яно зменшылася больш, чым на палавіну ў выніку вайны, чарнобыльскай катастрофы, міграцыі, рэзкага падзення натуральнага прыросту. Дарэчы, сельская мясцовасць Беларусі ўступае гарадам па агульным каэфіцыенце нараджальнасці, які к канцу 70-х гадоў стаў ніжэй узроўню смяротнасці і не змог забяспечыць нават простае ўзнаўленне сельскага насельніцтва. Паколькі абсалютная большасць сельскіх мігрантаў — асобы маладога ўзросту, то страта іх прывяла да старэння сельскага насельніцтва, якое пазбавілася свайго ранейшага ўзнаўленчага патэнцыялу. Такі тэмп змяншэння колькасці сельскага насельніцтва мае негатыўны характар не толькі з эканамічнага і дэмаграфічнага пунктаў гледжання, але і з этнічнага, бо сельскае насельніцтва з'яўляецца карэннай асновай беларускага этнасу.

Маладых мігрантаў гоніць у горад беспрасветная занядбанасць вёскі, самавольства чырвоных памешчыкаў, цяжкія ўмовы працы, неадпаведная аплата за яе, амаль поўная адсутнасць сацыяльнай інфраструктуры. Адарваўшыся ад сваіх каранёў, яны міжволі ствараюць дадатковую сацыяльную напружанасць у новым, часта чужым для іх асяроддзі, а таксама папаўняюць люмпенізаваныя слаі насельніцтва.

Вось некалькі яскравых лічбаў, якія характарызуюць дэмаграфічную сітуацыю ў рэспубліцы. Па перапісе 1989 года суадносіны паміж працаздольнымі і ўтрыманцамі былі: 5686 тысяч да 4466 тысяч чалавек. На схіле гэтага года павінен закончыцца выхад на пенсію чарговай узроставай групы колькасцю каля 630 тысяч чалавек, а на змену ёй у разрад працаздольных пяройдуць каля 560 тысяч чалавек /пры ўмове, што ўсе яны працаўладкуюцца/. Такім чынам, разрыў паміж працаздольнымі і ўтрыманцамі зменшыцца яшчэ на 70 тысяч чалавек, а ў сельскай мясцовасці — на 150 тысяч.

Можа, гэта часовая з'ява, і ў хуткім часе становішча палепшыцца? Жыццёвыя рэаліі не даюць падстаў для аптымізму. Няўхільна скарачаюцца аб'ёмы вытворчасці, інфляцыя расце як на дражджах, рэальная зарплата падае, медыцына дыхае на ладан, усюды наглядаецца заняпад культуры, народнай асветы і г. д. Будуць новыя страты самага працаздольнага люду ад п'янства, атручванняў, пажараў, траўматызму і нізкай прафесійнай падрыхтоўкі, будзе працягвацца нараджэнне нездаровых дзяцей, знішчэнне генафонду нацыі.

Час патрабуе прыняцця неадкладных мер па аздараўленні дэмаграфічнай сітуацыі ў краіне. Думаецца, што гэтая праблема павінна стаць прадметам сур'ёзнага абмеркавання ў беларускім урадзе з прыцягненнем вопытных дэмографаў, сацыёлагаў, іншых спецыялістаў. Трэба, нарэшце, выпрацаваць канцэптуальную дэмаграфічную праграму. Ад гэтага ў многім залежыць будучыня нашай нацыі, нашай Бацькаўшчыны.

**М. ГРЫНЦЭВІЧ,**
**намеснік старшыні нацыянальна-дэмаграфічнай партыі Беларусі**

## «ПАРАТУНАК» ЁСЦЬ

Паважаная рэдакцыя! Прабачце, калі ласка, што я стары вясковы каваль урываюся не ў сваю сферу дзейнасці. Бо, як сказана каля дзвюх тысяч гадоў назад: Богу Богава, а кесару кесарава. Але вам, мабыць, цікава ведаць думкі простых людзей.

Прачытаў я кнігу Міколы Гайдука, беларуса з польскай дыяспары, — «Паратунак». Вельмі надзённая кніга і можа быць дапаможнікам нават для вышэйшай школы /прабачце, што зноў не туды лезу/, але ў нашай адукацыі гісторыю Беларусі выкладаюць не па вышэйшаму рахунку. Кнігу Міколы Гайдука можна паставіць поруч з творамі К. Тарасава і М. Ермаловіча. Толькі шкада, што нешта іх не чуваць даўно. А пра У. Караткевіча-мастака трэба гаварыць асобна.

Жадаю спадару М. Гайдуку надзейнага плёну, многіх год жыватворнай працы, яшчэ некалькі тамоў нашай далейшай гісторыі аж да цяперашняга «Адраджэння»!

Жыве Беларусь!

**Васіль КНІГА,**
**каваль**

*г. Ваўкавыск*

***Мастацка-дакументальная аповесць Л. і А. Класкоўскіх «Станіслаў Шушкевіч», фрагменты якой публікавала «Звязда», натуральна, прыцягнула да сябе ўвагу. На яе аператыўна адгукнуліся многія перыядычныя выданні, у тым ліку і «ЛіМ». Мы, нагадаем, са шкадаваннем адзначалі, што ў цяперашняй сітуацыі сам факт публікацыі аповесці можа пайсці не на карысць аўтарытэту лідэра беларускага парламента.***

***Нельга, вядома, непасрэдна спалучаць звяздоўскую публікацыю і, скажам, зварот камуністычнага «кангрэса народаў Беларусі» з патрабаваннем адстаўкі С. С. Шушкевіча, і ўсё ж... Імідж палітыка — справа далікатная, на яго могуць уплываць нават самыя, здавалася б, нязначныя нюансы. Гэта трэба ўсведамляць, улічваць.***

***Напрыклад, не варта, відаць, перабольшваць узровень цывілізаванасці нашага палітычнага жыцця, дзе «скандальчык» можа ўзнікнуць амаль з нічога, на роўным месцы.***

***А што да самой аповесці «Станіслаў Шушкевіч» — давайце пачытаем. Фрагмент, які мы сёння прапануем, узнаўляе падзеі лістапада 91-га ў Віскулях, падзеі, рэха якіх не аціхае і сёння, вакол якіх па-ранейшаму ідуць зацятыя спрэчкі . На нашу думку, гэтыя старонкі аповесці найбольш адпавядаюць жанру палітычнага партрэта, палітычнай біяграфіі чалавека, які воляй лёсу і дзякуючы асабістым якасцям апынуўся на вяршыні ўлады. У той час, калі дзяржава перажывае час найвялікшых расчараванняў і надзей.***

Людміла КЛАСКОЎСКАЯ, Аляксандр КЛАСКОЎСКІ

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

## СТАРОНКІ МАСТАЦКА-ДАКУМЕНТАЛЬНАЙ АПОВЕСЦІ «СТАНІСЛАЎ ШУШКЕВІЧ»

* * *

... Хвіліна чакання — і вось на тым канцы тэлефоннага дроту, за тысячу кіламетраў ад Белавежы, слухаўку зняў Гарбачоў.

Калі вырашалі, хто з траіх патэлефануе ў Маскву, Ельцын і Краўчук ледзь ці не ў адзін голас сказалі яму, Шушкевічу: давай, маўляў, табе прасцей — ты ж заўсёды размаўляў з Гарбачовым так шчыра. Прагучала гэта нават з нейкімі жартаўлівымі ноткамі, бы справа ішла аб запрашэнні на сумеснае паляванне. Цікава, яны сапраўды адчуваюць сябе гэтак спакойна ці то зайздроснае ўменне валодаць сабою?

Урэшце, як ні дзіўна, сам ён зусім не хваляваўся. Роўным, будзённым тонам давёў Гарбачову сэнс сумеснага рашэння. На афіцыйнай мове толькі што падпісанага кіраўнікамі трох рэспублік «Пагаднення аб стварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў» гэта гучала так: «... канстатуем, што Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне». І напрыканцы: «Афармлена ў горадзе Мінску 8 снежня 1991 года ў трох экземплярах кожны на беларускай, рускай і ўкраінскай мовах, прычым тры тэксты маюць аднолькавую сілу».

Мінск згадалі ў тэксце ці то па інерцыі, ці то для большай важкасці — хто там надта ведае пра тыя Віскулі, беларускую ўрадавую рэзідэнцыю, схаваную ў нетрах Белавежы? Ды і ва ўсіх газетных публікацыях напярэдадні сустрэчы яна фігуравала менавіта як «мінская». Зрэшты, якраз жаданне вызваліцца з-пад жорсткага журналісцкага прэсінгу стала далёка не апошнім матывам, каб аблюбаваць гэты ўтульны двухпавярховы дамок сярод хвойнага гушчару за тры з гакам сотні кіламетраў ад беларускай сталіцы.

Праўда, Ельцын, прыляцеўшы ў Мінск раней за Краўчука, мусіў-такі правесці досыць часу перад мікрафонамі. Але ягоная публічная заява наконт таго, што дні «трохбаковых кансультацый» могуць стаць гістарычнымі, наўрад ці выклікала фурор: больш дэвальваванага эпітэта, чым «гістарычны», у лексіконе айчынных кіраўнікоў, бадай, і не знойдзеш... Ды і сам тэрмін «трохбаковыя кансультацыі» бы акрэсліваў нейкія нябачныя межы, далей якіх вынікі сустрэчы сягнуць не маглі. Беларуская «Народная газета» прагназавала іх так: «Сустрэча ў Мінску з'явіцца генеральнай рэпетыцыяй новай сустрэчы ў вярхах — 4 + 1, якая ўжо ў панядзелак адкрыецца ў Маскве. Тады да кіраўнікоў славянскіх дзяржаў далучацца прэзідэнт Казахстана Н.Назарбаеў і саюзны прэзідэнт М.Гарбачоў. Без папярэдняй сустрэчы і прапрацоўкі пазіцый у Мінску было б цяжка скласці прадуктыўны дыялог Украіны з Цэнтрам у Маскве».

Панядзелак — гэта заўтра, 9 снежня. Журналісты яшчэ не ведаюць, што ніякай сустрэчы «4 + 1» не будзе.

Усё вырашана, масты спалены. І ў гэтую хвіліну прэзідэнт Савецкага Саюза выслухоўвае па тэлефоне рэзюме «трохбаковых кансультацый»: «... Саюз ССР як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне... Афармлена ў горадзе Мінску... тры тэксты маюць аднолькавую сілу».

Маюць сілу? Няўжо і сапраўды вось гэтыя росчыркі пяра здольныя падвесці рысу пад амаль што сямідзесяцігадовай гісторыяй каласальнай звышдзяржавы, моц якой прымушала скаланацца ўвесь астатні свет?

### АДСТУПЛЕННЕ.
### АЎТАРСКІ «ДОПЫТ»

*(люты 1993 г.)*

**— Ці было ў вас тады адчуванне, што Цэнтру кінуты надзвычай рызыкоўны выклік, наступствы якога могуць быць непрадказальнымі, можа, нават трагічнымі для Вашага лёсу? Усё ж Гарбачоў быў і Вярхоўным Галоўнакамандуючым, увогуле ўсе так званыя сілавыя структуры падпарадкоўваліся менавіта яму. Дастаткова было загадаць, і...**

*— Ведаеце, калі шчыра, то я не лічыў Гарбачова настолькі моцнай — у сэнсе рашучасці — асобай, каб ён быў здольны на такія дзеянні, такія контркрокі. Яму заўсёды шанцавала, і даволі-такі лагоднымі захадамі ён шмат чаго дамагаўся. А тут трэба было праявіць сталінскі характар... Гэта не ў яго натуры, ён усё ж палітык іншага складу, і, нягледзячы ні на што, па-чалавечы я паважаю яго і сёння.*

*Мяркую, што намераў ужыць грубую сілу ў Гарбачова тады не было — ва ўсякім разе, падчас той тэлефоннай гаворкі я нават намёкаў такіх не адчуў. Хоць, скажу шчыра, пэўныя прэвентыўныя крокі там, у Белавежы, мы зрабілі.*

*Не, я маю на ўвазе не тую лухту, якую потым пачалі несці асобныя журналісты: быццам там, у пушчы, вакол рэзідэнцыі, ледзь ці не дывізія акапалася... Была звычайная ахова, як і належыць пры сустрэчах такога рангу.*

*Я ж хачу сказаць пра іншае. Пра інфармаванне сусветнай супольнасці аб нашых рашэннях. І перш за ўсё — званок Бушу. То была, скажу шчыра, ініцыятыва Ельцына. Сам я пра гэта, мусіць, і не падумаў бы... Толькі потым разважыў, што такі крок зусім не пашкодзіў — ці мала што... Тут трэба аддаць належнае палітычнаму вопыту Барыса Мікалаевіча. Хутчэй за ўсё, гэта была ягоная, як кажуць, хатняя загатоўка...*

*Карацей, мы дамовіліся: Ельцын тэлефануе Бушу, я — Гарбачову. Дарэчы, тэхнічнаму ўзбраенню расійскай дэлегацыі ў Віскулях можна было пазайздросціць. Мы, напрыклад, друкавалі тэксты дакументаў на звычайнай машынцы, а ў іх — суцэльная электроніка... І калі дайшла справа да тэлефонных перамоў, то Ельцына з Амерыкай звязалі імгненна. Я толькі яшчэ з думкамі збіраўся — як размову з Гарбачовым распачаць, — а ўжо чую: Барыс Мікалаевіч дыялог вядзе і Козыраў яму з англійскай перакладае. Прынамсі, гэта мне задачу аблегчыла. Калі Гарбачоў, выслухаўшы, запытаўся — дарэчы, то быў першы выпадак, калі ён звяртаўся да мяне па тэлефоне на «вы», раней увесь час гучала «ты» — дык вось, калі Гарбачоў запытаўся, а ці ўпэўнены мы, што замежжа нас зразумее, — я адказаў: так, з Бушам, напрыклад, перагутарылі ўжо... Міхаіл Сяргеевіч потым не раз публічна выказваў крыўду: маўляў, амерыканскаму прэзідэнту патэлефанавалі раней, чым мне. А тады... Тады я адчуў, што на тым канцы тэлефоннай лініі — нешта накшталт гогалеўскай нямой сцэны.*

**— Хто-ніхто сцвярджае, што Гарбачоў выказаў тады жаданне неадкладна вылецець у Беларусь і сустрэцца з «белавежскай тройкай», каб неяк уладкаваць справу... З-за гэтага, маўляў, нават ад'езд Ельцына і Краўчука на пэўны час адклалі.**

*— Не, гэтая версія недакладная. Гарбачова мы там не чакалі. Чакалі Назарбаева. Хацелі, каб пад белавежскім пагадненнем быў і ягоны подпіс. Як вы ведаеце, казахстанскі прэзідэнт якраз у той дзень вылецеў у Маскву: назаўтра планавалася наша сумесная сустрэча з Гарбачовым. У нас была сувязь з самалётам Назарбаева. Сам я з ім перамовы не вёў, але ведаю, што той быў праінфармаваны аб белавежскай сустрэчы і абяцаў далучыцца да яе.*

*Нашы службы ўжо і паветраны калідор забяспечылі, каб ягоны лайнер мог бесперашкодна прызямліцца на адным з вайсковых аэрадромаў непадалёк ад Белавежы. Знайшлі казахстанскі сцяг, каб сустрэць па пратаколу. Тым часам паступалі новыя паведамленні: Назарбаеў прызямліўся ў Маскве... праз паўгадзіны вылятае... вылет трохі адсоўваецца, надта доўга запраўляюць самалёт... І нарэшце: не чакайце... Магу толькі версіі будаваць, чаму ён так і не наважыўся. Хутчэй за ўсё, адыграла сваю ролю заўсёдная, скажам так, асцярожнасць казахстанскага прэзідэнта, які лічыць за лепшае рабіць свой выбар тады, калі зыход той ці іншай палітычнай калізіі ўжо прадвызначаны...*

*Тое ж, што пагадненне падпісалі напачатку толькі Расія, Украіна і Беларусь, адразу дало журналістам падставу ахрысціць СНД «саюзам славянскіх дзяржаў». Вярнуўшыся ў Мінск, я на першай жа прэс-канферэнцыі рашуча запярэчыў супраць такога азначэння. Мы зусім не збіраліся проціпастаўляць сябе неславянскім рэспублікам былога Саюза. Дарэчы, пазней, у Алма-Аце, з боку іх лідэраў адчувалася напачатку пэўная крыўда і спатрэбіліся намаганні, каб яе пераадолець, перш чым пад пагадненнем з'явіліся новыя подпісы.*

**— Давайце вернемся ў Віскулі. Белавежскія дакументы датаваны 8 снежня, але ж вы сабраліся там яшчэ вечарам 7-га. Вы адразу ж, без доўгіх ваганняў, дамовіліся «разваліць», як кажуць Вашыя палітычныя апаненты, Саюз?**

*— Не! Мы адразу ж дамовіліся **стварыць новую Садружнасць**. І гэта катэгарычна важная розніца! Саюз ужо быў разбураны. Па сутнасці, ягоныя перспектывы перакрэслілі якраз тыя, хто ўпарта імкнуўся захаваць любой цаной моцную імперскую структуру.*

* * *

Так, адразу ж пасля паражэння путчу ў жніўні 91-га і наступнай забароны КПСС гіганцкая дзяржава, груба і адвольна скроеная ў свой час па лякалах бальшавіцкай «нацыянальнай палітыкі», пагрозліва затрашчала ледзь ці не па ўсіх сваіх швах, што раней былі жорстка змацаваны магутнасцю таталітарнай партыйна-дзяржаўнай улады Цэнтра.

«Працэс пайшоў».

Цяпер гэтае ўлюбёнае заклінанне Гарбачова, якім ён доўга імкнуўся пераканаць усіх, што перабудова рухаецца акурат па ягонай задуме, у жаданым рэчышчы адзінага «сацыялістычнага выбару» ўсіх народаў СССР, — цяпер гэтае заклінанне цытавалі з непрыхаваным сарказмам. Газетныя каментатары іранічна канстатавалі: хутка, відаць, рэальныя ўладанні прэзідэнта краіны абмяжуюцца тэрыторыяй Крамля.

І сапраўды, лаяльных да Цэнтра «суб'ектаў федэрацыі» ўсё меншала і меншала...

Прыбалтыка яшчэ да путчу стала лічыцца адрэзанай лустай. На ўпартых літоўцаў, латышоў і эстонцаў, падобна было, махнулі ўжо рукой нават самыя зацятыя адэпты імперскай дактрыны. Студзеньская ж 91-га года спроба запалохаць Вільнюс танкамі і дэсантнікамі не прынесла Маскве нічога, акрамя ганьбы і сусветнага скандалу, а кроў невінаватых ахвяр толькі пашырыла адчужэнне і яшчэ адной плямай лягла на рэпутацыю Гарбачова.

Кроў мірных жыхароў, што сканалі пад ўдарамі сапёрных лапатак дэсантнікаў, добра запомнілі і ў Тбілісі... А па суседстве кроў цякла ўжо рэкамі: армяне і азербайджанцы бязлітасна знішчалі адзін аднаго ў вайне за Нагорны Карабах, і абедзве былыя «рэспублікі-сёстры» слалі чорныя праклёны бездапаможнаму, разгубленаму, не здолеўшаму папярэдзіць бойню Цэнтру.

Захвалявалася Малдова... Ну, а Украіна пасля жніўня 91-га і зусім стала на дыбкі. Там аб'явілі рэферэндум аб незалежнасці і пра рашучы разрыў з Саюзам гаварылі ўжо адкрытым тэкстам.

Гарбачоў вярнуўся пасля фароскага зняволення ў сапраўды іншую краіну. Урэшце, у прэзідэнта СССР заставаліся надзейныя, на яго думку, плацдармы. Адным з іх уяўлялася Беларусь.

На фоне амаль што татальнага бунту «ўскраін» (ды ці толькі «ўскраін» — Расія, выбраўшы сваім прэзідэнтам Ельцына, таксама паказала нораў!) Беларусь здавалася асабліва рахманай. І дзівам тое зусім не выглядала. Рэспубліканскія начальнікі даўно ўжо заслужылі ў Крамлі рэпутацыю самых надзейных, адданых хлопцаў, якія ў блін разаб'юцца, але найузорнейшым чынам выканаюць любую дырэктыву «адтуль». Урэшце, лічыла Масква, і ўвесь народ там такі: хоць вяроўкі з яго ві — не пікне...

Вядома ж, хвалі жнівеньскіх падзей дакаціліся і да гэтай ціхай затокі. Шакіраваная правалам маскоўскага путчу, камуністычна-наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета Беларусі пад магутным націскам малалікай, але бліскуча скарыстаўшай момант апазіцыі мусіла, як у благім сне, міжволі падняць рукі, галасуючы за наданне Дэкларацыі аб суверэнітэце рэспублікі статута канстытуцыйнага закона, а таксама за часовае прыпыненне дзейнасці КПБ — КПСС. Закіданы камянямі жорсткіх абвінавачванняў з боку той самай апазіцыі, капітуляваў парламенцкі спікер — былы сакратар ЦК кампартыі Мікалай Дземянцей.

У выніку нервовай, з мноствам закулісных перыпетый, барацьбы дэпутацкіх плыняў Вярхоўны Савет Беларусі ўзначаліў намеснік Старшыні — Станіслаў Шушкевіч.

Урэшце, гэта наўрад ці выклікала ў Крамлі асаблівую трывогу, хоць пазіцыя Шушкевіча на мінулых з'ездах народных дэпутатаў СССР давала ўсе падставы лічыць яго, карыстаючыся тэрміналогіяй Гарбачова, адным з «так званых дэмакратаў».

За «перабудовачныя» гады Цэнтр упэўніўся: жорны беларускай наменклатурнай улады па-ранейшаму спраўна трушчаць кволыя зярняткі дэмакратыі. І ўся гэтая «суверэнізацыя» Беларусі падавалася не болей чым бутафорыяй.

* * *

«Ён так нічога і не зразумеў!»

З кожным чарговым пасяджэннем Дзяржсавета ў Крамлі Шушкевіч усё ўмацоўваўся ў гэтай выснове: Гарбачоў сапраўды не ўсведамляе, што краіна пасля путчу стала зусім іншай. Кіраўнікоў рэспублік ён збіраў толькі для таго, каб у чарговы раз навязаць сваю ідэю фікс: маўляў, мы, таварышы, павінны ўдыхнуць другое жыццё ў нова-агароўскі працэс, перапынены жнівеньскімі падзеямі, і дамагчыся заключэння новага Саюзнага дагавора. Усе ж пярэчанні наконт таго, што праект дагавора, нягледзячы на касметычныя карэктывы, па-ранейшаму захоўвае імперскую мадэль супердзяржавы, Гарбачоў адмятаў, што называецца, з парога.

Вяртаючыся ў Мінск, Шушкевіч мусіў раз за разам выносіць на суд беларускіх парламентарыяў прапанаваныя прэзідэнтам СССР варыянты фармулёвак Саюзнага дагавора, нязменна шытыя, аднак, аднымі і тымі ж белымі ніткамі. Безумоўна, апазіцыя адразу разбівала гэтыя фармулёўкі ў пух. Рыкашэтам трапляла і самому Шушкевічу. І паспрабуй тут дакажы, што напярэдадні ў Маскве ці Нова-Агарове даводзіў Гарбачову тое ж самае, ды толькі ўсё — як гарохам аб сценку! Бо Гарбачоў са свайго боку з упартасцю, вартай лепшага прымянення, дамагаўся, каб «працэс пайшоў» у патрэбным яму кірунку.

Але чым далей, тым выразней было бачна, што ідзе гэты працэс хіба што ў поўны тупік.

Тым часам Шушкевіч пакрысе асвойваўся ў кампаніі кіраўнікоў рэспублік, да якой далучыўся пазней астатніх. Усё часцей — асабліва калі збор быў не ў Крамлі, а ў Нова-Агарове, дзе абстаноўка выглядала больш інтымнай, — завязваліся размовы тэт-а-тэт. Адчуў, што гарбачоўская «непрабівальнасць» паступова ўзмацняе «крамолу», падштурхоўвае найбольш рашучых рэспубліканскіх лідэраў да пошукаў нейкага альтэрнатыўнага выйсця.

Падчас адной крамлёўскай размовы з Ельцыным узнікла думка: а што, калі неўзабаве ўзяць ды сустрэцца на Беларусі, каб вальней ды грунтоўней абмеркаваць разам сітуацыю? Трохі пазней, у Нова-Агарове дамовіліся ўжо больш канкрэтна.

Дарэчы, убачыць Ельцына ў Мінску хацела і кіраўніцтва беларускага ўрада. «Суверэнізацыя» дзвюх рэспублік пачала жахліва блытаць, а то і рваць ніці традыцыйных гаспадарчых узаемадачыненняў між Беларуссю і Расіяй. Выйсце бачылася, у прыватнасці, у заключэнні двухбаковага пагаднення аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва.

Украінская ж тэма ў тыя дні не сыходзіла з першых старонак газет. Рэспубліка, што дагэтуль славілася кансерватыўным, замшэлым камуністычным кіраўніцтвам, раптоўна «пайшла ўразнос», ахопленая парывам да поўнай незалежнасці... Былы сакратар ЦК кампартыі Украіны Краўчук, цалкам аддаўшыся змаганню за пасаду прэзідэнта, проста ігнараваў усе гарбачоўскія захады ды і самі пасяджэнні Дзяржсавета. А грунтоўна пагутарыць з ім хацелася... Дык калі таму так не даспадобы Масква, можа, якраз і сустрэцца ўтрох у Мінску?

Згода была атрымана хутка. Пасля гэтага Шушкевіч, размаўляючы па тэлефоне з Ельцыным, паўжартам запытаўся: можа, тады і Міхаіла Сяргеевіча запрасіць на Беларусь, каб сапраўды «саміт» атрымаўся? «Ну, не, з ім я ўжо досыць нагутарыўся!» — пачулася ў адказ.

Пра тое, што ў Мінск прылятае і Краўчук, журналісты даведаліся літаральна за пару дзён да падзеі. Увогуле Шушкевіч стараўся як мага меней афішаваць падрыхтоўку да сустрэчы. Але апазіцыя ўсё адно ўсчала шум: ну, вось, «вялікія браты» злятаюцца на «міжсабойчык»,

*(Працяг на стар. 12-13)*

# «А ДУША ПРАГЛА ВОЛІ...»

## ГАРТАЮЧЫ ДЗЁННІК ВАРЛЕНА БЕЧЫКА

У ЖО З ПЕРШЫХ радкоў гэтай кнігі-дзённіка задаецца маральны тон, характэрны для духоўнага складу Варлена Леанідавіча Бечыка, усяго далейшага ягонага развіцця як асобы. Маральнасць была дамінантаю жыццёвага і творчага шляху выдатнага беларускага крытыка. Яна, маральнасць, будзе прысутнічаць скрозь, ва ўсім праяўляцца, прасякаць сабою ўсе ягоныя думкі, пачуцці, учынкі і душэўныя парыванні. У рускай мове ёсць яшчэ адно адпаведнае слова, неперакладаемае літаральна на беларускую — **совестливость.** А разам з гэтым суседнічаюць заўсёды і духоўныя пакуты, сумненні, самааналіз, самы строгі суд сумлення найперш над самім сабою. Такі ён быў. Такім паўстае і ў сваіх самых запаветных, прызначаных у першую чаргу для сябе запісах. І ў той жа час штосьці шчымліва вярэдзіць душу: не, такім ты яго не ведаў. Значна паўней і выяўней паўстае вобраз гэтага чалавека са старонак ягонага дзённіка, чым ты яго ведаў у жыцці. Няўжо, напраўду, каб да канца ўведаць чалавека, патрэбна з ім навекі развітацца? Парадоксы і тупікі нашае свядомасці, таемнасць і трагізм жыцця...

Першыя запісы. 1959 год. Адразу кідаецца ў вочы гэтае адметна-Бечыкава, сцішана-шчырае: «Хочацца напісаць: «Давайце яшчэ раз пагаворым аб роднай мове!» Толькі ўбіралася тады ў сілу татальная русіфікацыя. І вось — гэтыя кранальна-наіўныя, юначыя радкі, у якіх і прыхаваная трывога за лёс роднага слова, і вера ў ягоную вытрываласць.

Нідзе ён не афішаваў сваю любоў да мовы, не біў сябе прылюдна ў грудзі. Ды гэта было б і не ў ягоным духу. Але, думаецца, якраз у гэтых радках ягоная любоў да роднай мовы /не дэкларатыўная, а натуральная, як дыханне/ выявілася ўжо стала і, што яшчэ важней, запраграмавалася на ўсё далейшае жыццё. Часам думаецца: а мог жа ён далучыцца і да суседняй, мацнейшай культуры, да рускамоўнай творчасці. Многія з нас у свой час «ваганіся»; такі шлях нашай інтэлігенцыі — праз выпрабаванні «спакусамі». Ды гэтага, на наша шчасце, не здарылася. Захаваўшы назаўсёды зацікаўленасць і блізкасць да рускай літаратуры /найперш паэзіі/, ён якімсьці — можа, падсвядомым — чуццём адчуў спрадвечную роднасць сваю з каранямі. «У роднай мове — асаблівае, светлае цяпло. Па-руску я магу напісаць лірычна, але гэта ўжо, як горныя высі — не відаць усіх гэтых узлескаў, горак, не чутно роднай гаворкі, няма самай натуральнай арганічнасці — адпаведнасці слова дыханню, першаснаму прадвытоку думкі і пачуцця».

Мова крытыка. Здаецца, такога кшталту доследаў у нас не было. А між тым мова сапраўднага, а не дзяжурнага крытыка — гэта заўсёды з'ява мастацкая. Літаратурны крытык, асабліва крытык паэзіі /слоўнай музыкі/ павінен валодаць тонкім музычным слыхам, эстэтычным чуццём, густам у адносінах да слова. Дысгармонія, «нагрувашчванне слоўнай няўдобіцы» рэжа яму слых, прыносіць пакуты ледзь не фізічныя. «Апісаным ім персанажам — гэтыя тры - м - вязкія і наводзяць на сумненні адносна яго паэтычных перакладаў...» — так выказаўся Бечык у дзённіку пра моўную глухату аднаго з перакладчыкаў. Чытаць жа дзённік самога аўтара было мне цікава, акрамя ўсяго іншага, яшчэ і з моўнага боку — радавацца і здзіўляцца дакладна падшуканаму слову-нерушу.

Зрэшты, апошняя кніга Варлена Бечыка не столькі літаратуразнаўчыя або мовазнаўчыя штудыі, гэта кніга, разгорнутая ў само жыццё. Хоць, вядома, крытык не быў бы крытыкам, каб і на жыццё ён не глядзеў пераважна **праз** літаратуру, паэзію. У тым жа, далёкім пяцьдзесят дзевятым, цытуючы верш Міхаіла Святлова, Бечык заўважыў: «Чытаючы такія вершы, хочацца думаць не пра паэзію, а пра жыццё». Гэта вельмі істотны момант у канцэпцыі жыцця і творчасці Варлена Бечыка, і таму хачу звярнуць на яго ўвагу. Для літаратурна-крытычнай дзейнасці Варлена Леанідавіча была характэрна шырыня погляду на літаратуру. У паэзіі, прозе ён бачыў не толькі факты вузкалітаратурнага значэння, заўжды выходзіў у сваіх развагах па-за межы ўласна літаратурнага вопыту.

Ёсць дзве крайнасці ў сучаснай крытыцы. Адна з іх — трымацца, як п'яны плота, паддоследнага тэксту, не адыходзячы ад яго ні на крок. Такі падыход скоўвае развіццё крытычнай думкі, хоць, вядома, ёсць у ім і свае перавагі, а менавіта: набліжэнне да твора, адчуванне яго знутры. Другая ж крайнасць — гэта безагляднае сацыялагізаванне. У гэтым выпадку твор толькі падстава для агульных разваг аб жыцці. У першым выпадку — скрупулёзнае даследаванне структуры мастацкага тэксту, аўтаравай паэтыкі. У другім — падрабязны разгляд паводзінаў і дзеянняў герояў адносна акаляючага іх свету; мастацкі свет у такім разе пераўтвараецца ў самую рэальнасць, падмяняецца ёю. Бечык усведамляў недахопы кожнага з азначаных спосабаў крытычнага засваення мастацкай рэчаіснасці. «Дзіўна ж аналізуюць творы ледзь не ўсе нашы крытыкі, — робіць ён запіс у дзённіку, — разглядаюць асаблівасці формы, кампазіцыю, сюжэт, стыль, нейкія якасці зместу як самацэнна галоўныя, істотныя, а не вытворныя. Для мяне галоўнае — духоўнаэмацыянальны змест, маральнае дзеянне твора». Дадамо: тая аўра, якая апаясвае твор, і сам двухбаковы працэс ягонага тварэння-ўспрымання. Злагоджвае ў творчым метадзе Варлена Бечыка тую разбежнасць у падыходзе да мастацкага твора і яшчэ адна істотная акалічнасць: **захопленасць** паэзіяй, слоўнай творчасцю. Тут будзе акурат дарэчы гэтае высокае слова — **захопленасць**. Якая раўназначная любові. «Я не паэт, не празаік, не крытык і як чалавек — мнагазначны мінус... — з уласцівай яму бязлітаснасцю самасуду, зразумела, з нашага цяпер погляду зусім несправядлівага, піша Бечык і дадае, — але літаратуру я люблю, ёю жыву. Любоў гэта большая за лагічную неабходнасць адмовіцца ад кніжак і пашукаць нелітаратурнай сферы прылажэння сіл».

«Адмовіцца ад кніжак» кніжніку немагчыма. Гэта ягоны лёс, наканаванасць. Але аднаго кніжнага жыцця недастаткова. Між кніжным жыццём, рамантычнымі парываннямі і рэальнасцю — у гэтым прагале-прасторы і крыляла ягоная збалелая, патрывожаная душа. «Не раз хочацца сказаць: жыццё, прынось мне столькі радасці і шчасця, колькі кнігі», — парывалася гэтая душа на шырэйшы прастор. Хацелася «супражэння свайго жыцця з кніжным». Палохала і вабіла «бязмежжа няведання». Як споведзь, як літанне, гэтае ўзнёсла-неспакойнае пачуццё перададзена ў наўздзіў празрыстых, узвышаных словах: «...душа ўзнімалася ад кнігі пра Блока да верхавінаў дрэў, і хацелася самому пабегчы міма, каб згубіць, згубіцца, растрэсці стому дарosласці ў самых простых і наіўных радасцях «звычайнага» існавання». І яшчэ, і яшчэ... Як рэдкая радасць і празарэнне, усклік-прызнанне: «Я не ў кнігах, а ў свежым паветры». І ўсё ж існаваў толькі адзін-адзіны, назаўжды дадзены ўсім інтэлектуалам і рамантыкам выхад — паяднанне, зліццё кніжнай і жыццёвай стыхіі. Там, на прасторах жыцця, у нетрах любімай ім прыроды знаходзіў ён прымірэнне гэтым раздзіраючым душу супрацьлегласцям, там выспявала думка і паўнела пачуццё: «Такія дні восені — багацце для душы, цяпер бы ў Прылукі, дзе хадзіў я ў лес, глядзеў на дол і ў неба і адкрываў прасторы ў вершах і знаходзіў словы для артыкулаў...»

Не заўсёды, праўда, надаралася такая магчымасць — вырвацца з кругабегу дзён, з будзённай, побытавай мітусні. Колькі радкоў у дзённіку даюць дакладнае ўяўленне пра будні савецкай навукі: «Збор партузносаў. Пратаколы бюро. Пасяджэнне сектара, метадалагічны семінар, праца на будоўлі». Заўсёдны гнёт «планавых заданняў» прыводзіў да стомы душы, ператварыў жыццё ў «ланцуг рэцэнзій, скляпаных высільваннем». Акрамя ўсяго, мастак усё-такі жыў у глыбіні яго душы. Мастак часам спрачаўся, а часам дапамагаў крытыку. Натуральнае імкненне — знайсці шырэйшае праяўленне сваіх сілаў. Багдановіч, Караткевіч, Стральцоў... Колькі прыкладаў такога вось імкнення да шырыні, усёахопнасці. Талент — як вясновая повень, шукае сабе выйсця, выяўляецца ў розных сферах. Прарвалася было ў Бечыка горкае прызнанне-нараканне: «прыглушыў у сабе мастака». А можа, гэта лёс, можа, час «прыглушыў»? Але ці прыглушыў насампраўдзе? Не, ні ў рэцэнзіях нават, ні ў артыкулах, кнігах нішто не магло заглушыць, нейтралізаваць гэтай ад прыроды, ад Бога дадзенай здольнасці ўвасабляць у слове думкі і пачуцці, боль і тугу, роспач і надзеі. «Калі ты здаровы чалавек, то, ходзячы ўвесь час каля аратых і ацэньваючы іх работу, чаму не захацець самому працягнуць крыху плуг», — так, злёгку іранізуючы над сабою, апраўдаў Бечык гэтае імкненне да паўнаты самарэалізацыі.

Вядома, можна толькі шкадаваць, што не давялося да канца выявіцца несумненнаму мастацкаму дару Варлена Бечыка ў чыста мастацкіх рэчах, але дзённікавыя запісы, накіды, развагі, эцюды, сабраныя ў гэтай кнізе, сведчаць не толькі пра нявыкарыстаны патэнцыял, але і пра здзейсненае. Бо гэта своеасаблівая кніга прозы, напісаная таленавіта і пранікнёна. А месцамі ўздымаецца яна і да такога ўзроўню, якога, мабыць, яшчэ не дасягнула беларуская проза. Асабліва гэта праявілася ў псіхалагічных, прыродаапісальных эцюдах з іх па-японску каліграфічнай відарысавай вяззю. «Я пайшоў уздоўж рэчкі, якая набыла тут рух у вузенькім рэчышчы, забруілася ручаінай. Суха дзынкнулі прывязаныя — на павадку дашчыны кладкі; уся вёска пасунулася ўправа, і адкрыўся новы краявід». Яскравая метафара часам высвеціць гэты пейзаж, сагрэўшы ўбачанае прысутнасцю чалавека, паэтычна ўзвысіўшы абыдзёншчыну: «Сонца адтаяла палонку ў воблаках і раскідала пунцовыя промні». Маральны бечыкаўскі максімалізм сумяшчаецца з тонкім псіхалагічным малюнкам, высвятляючы чалавека на раздарожжы, у сутыкненні з прыродаю і самім сабою: «А калі я сёння хадзіў у прырэччы, а потым — у лесе — у мяне чамусьці нішто не разгорталася. Неяк так, без удзелу душы бачыў я сонечны прастор /чамусьці без сонца — сонца не помню/, адчуваў непадаткасць памёрзлай зямлі і лугу, хацеў радавацца /але не радаваўся/ марозцу, чыстаму паветру і магчымасці быць вольна з самім сабою. Але нішто ў душу не ішло, нічога не адбывалася, і недзе спела памалу на самога сябе крыўда, што так папусціўся, так счарсцвеў». А колькі прасветленай, сталай журботы, што вынікае з суладдзя стану прыроды і чалавека ў такой замалёўцы, якую проста нельга не працытаваць: «Майскі вечар, калі неба лягло на шыбы і ваду, і здавалася, зямля люстрылася ў небе, ціхая спакойнасць ішла ў паветра і душы. Але душа не ведала ўжо маладога трымцення, а толькі памятала яго».

Аўтара дзённіка ў такія найбольш духоўна асвечаныя і ўзвышаныя моманты мы застаём у хадзе, руху, у імкненні як бы даласці да якойсьці нязнанай крыніцы абсалютнага ведання, ідэалу. Тое ўсё застаецца ўвесь час на даляглядзе, адступаючы разам з ім, даючы тым самым магчымасць вечнай хады і пошуку. Здаецца, яшчэ адно намаганне... «Ідзеш па дарозе, бачыш навокал узгоркі, дрэвы ў добрай восеньскай прыгажосці і хочацца пайсці да іх, быццам толькі тады дападзеш да гэтага ўсяго і сальешся з ім». Гэтую рысу таксама важна адзначыць — жаданне рэалізаваць сябе, прагу пазнання і духоўнага ачышчэння, пастаяннае імкненне за далягляд — да чагосьці дайсці, дакрануцца рукою. Можа, адным з азначэнняў рамантызму і, калі шырэй, увогуле чалавечай сутнасці і ёсць гэта: кудысьці вабіць, кліча якаясь неспатольная прага...

Неспатоленасць, незадаволенасць існуючым станам, жаданне асягнуць шырэйшыя абсягі, рэалізавацца, развінуць крылы непазбежна ўступала ў супярэчнасць з неспрыяльнымі варункамі бытавання. «Хачу жыцця поўнага, чыстага, святога, а сяджу ў драбязе, лухце, мітусні». Адвечная крыжовая пакута рамантыкаў, наканаванасць, прысуджанасць да жыцця з усімі ягонымі супярэчнасцямі і неадпаведнасцямі. Вялізнасць пастаўленых перад сабою задач, вышыня мэты, як творчай, так і маральнай, ускладняліся ў Бечыка яшчэ і зацяжной, падступна падпаўзаючай немаччу-хваробай, калі, па ягоным выразе, «стома навальваецца на стому», уначы сняцца кашмары, ды яшчэ заядае цякучка, бясконцая плынь набягаючых адна на адну спраў. Прыходзіць у сны чорны чалавек /згадваецца тут ясенінскі двайнік/ і пры адвітанні прызначае наступную сустрэчу. Але гэта будзе ўжо пасля, перад канцом, як цьмянае ды пагрозлівае папярэджанне. Варлен Бечык, які з-за сваёй чалавечай далікатнасці ніколі не скардзіўся, не наракаў на свой лёс, заўсёды маючы на ўвазе, што камусьці зараз яшчэ горш, толькі дзённіку й мог даверыць скруху сэрца. І тое толькі раз і прарвалася: не так нараканне, як канстатацыя, узважванне свайго лёсу — лёсу «дзіцяці вайны»: «Я галадаў і мёрз, я не меў дзяцінства, я дзічэў у адзіноце 43-га — 44-га года...» Да таго ж і побытавыя ўмовы доўгі час вымушалі жадаць лепшага. Да ўласнае кватэры, у якой можна спакойна жыць і працаваць, была доўгая, знясільваючая дарога. Вось красамоўныя пазнакі той дарогі: «Катушок, у які я пасяліўся на Даўгінаўскім завулку, надарае жыццём, несумяшчальным настолькі з маім здароўем, што я быў у роспачы... Вялізны ложак, які служыць сталом. Клетка-камера. Нашу з сабой у папцы кефірную бутэльку. Звечара — духата, пад ранак — холадна».

Міжволі згадаў, чытаючы гэтыя радкі, умовы існавання ў апошнія гады жыцця Кузьмы Чорнага, адлюстраваныя ў ягоным дзённіку. Што за здзек лёсу над нашымі талентамі, геніямі! Чаму ў дадатак да ўсяго ім, якія задумвалі амаль непасільнае чалавеку, патрэбна было трываць яшчэ й дробныя пакуты нішчымніцкага бытавання. Ды, не зважаючы ні на што, не ў быце жылі яны, а ў Быцці. У Сусвет сягалі іхнія думкі. «Входите тесными вратами: ибо широки врата и пространен путь, ведущие в погибель; и многие идут ими: ибо тесны врата и узок путь, ведущие в жизнь, и немногие находят их», — зусім невыпадкова выпіша Варлен Бечык гэтую мясціну са Святога Дабравесця ад Мацвея. А неўзабаве і сам паўторыць, на свой лад, для сябе прызначаную, гэтую думку: «А ісці трэба толькі цяжкім шляхам; асцерагацца спроб і жадання палёгкі».

Працаваць, працаваць, працаваць... Увесь час у дзённіку ён падсцёбвае сябе. Увесь час незадаволены зробленым. Вядома, прыродаю ён быў задуманы на большае. Не хапіла часу, прасторы, літасці лёсу, каб ажыццявіцца ва ўсёй паўнаце. І не толькі час як фізічная катэгорыя вінаваты ў гэтым. Быў час, была эпоха... Гэта насуперак ім вырваўся аднойчы крык: «Кожнае лішняе слова — бруд. Я ўвесь у брудзе. Маўчаць». Якое, між тым, каштоўнае сведчанне адметнасці і глыбіні асобы! Вельмі нямногія, на жаль, маглі ў той час /1976/ нават сам-насам выставіць сабе такі рахунак. Вядома, Варлен Бечык быў сынам свайго часу, і час паклаў на ім і ягонай творчасці свой адбітак. Ды не кожнаму дадзена заглянуць у вочы свайму часу і пры магчымасці ўзняцца над ім. Бечыкава маральная датклівасць, «хвароба на душэўную чэснасць», як сам ён выказаўся аднойчы ў дачыненні да сябра, не дазволілі яму прайсці міма спадчыны сталінізму, зрабіўшы выгляд, што нічога не заўважаеш.

Ён многае прымаў блізка да сэрца, чуйна ўслухоўваўся ў жыццё не толькі свайго народа. Можа, зараз нам, жывучым у крызісны час, падасца трохі нязвыклым тая непасрэднасць Бечыкавага ўспрымання газетнай інфармацыі, яго душэўная прылучанасць да падзей, адлеглых у прасторы. «Гібель Камарова. Столькі забрала ад душы», — піша ён з выпадку смерці савецкага касманаўта. Смерць наогул успрымалася ім надзвычай абвострана. Ён любіў бываць на могілках. Прыходзіць да сваіх сяброў, блізкіх, знаёмых на ціхае, душэўнае сумоўе. Колькі і колькіх увабрала ў сябе ягонае сэрца! У якім «і розныя часы, і велізарны аб'ём жыцця адбіліся ў драматычнай завершанасці і незваротнасці». Сыходзяцца дарагія цені, падступаюць бліжэй — і для кожнага знаходзіцца адпаведная доля ўспамінаў, «душэўнай увагі», каб па-людску ўспомніць,

---

*Варлен Бечык. Радкі і жыццё: Старонкі дзённіка. Мінск, «Мастацкая літаратура», 1993.*

памянуць, судакрануцца з іхнім былым, ужо пазатутэйшым жыццём. «І шкадуеш усіх іх больш, як сябе /падкрэслена мною. — **Я. Г.**/, і мутнеюць вочы, і напружаны пачуцці, і вяртаецца столькі ўспамінаў. Хто тут помніць цяпер маю аднакласніцу Лену Грыневіч? А гэту Міру з Атоліна /апрача сваіх?/. Мельнічонкі, а сярод іх Коля... Чаму? Што за драмы? У каго спытаць?»

Застаюцца за спінаю пытанні. «Іду з могілак, і ўсе ідуць за мной».

Быў між тым сярод адышоўшых адзін чалавек, духоўную прысутнасць якога Бечык адчуваў заўжды. Гэта Ігар Хадановіч. Малады празаік, талент якога, калі б не ранняя трагічная смерць, шмат абяцаў. Дружбу з ім, духоўнае яднанне Бечык пранясе праз усё жыццё як самы каштоўны дар. І адтуль, з-за апошняе рысы, сябра аказваў на яго ачышчальнае ўздзеянне сваімі лепшымі чалавечымі якасцямі. «Я з ім увесь час тут — у гаворцы, успаміне, пісьме, у сонцы і непагадзі і... сказаў бы — **там**, але гэта, мабыць, кашчунна. Не даводзілася бачыць болей паэзіі і чысціні ў адным чалавеку, і такое вынішчэнне дабраты пакуціць бясконца».

Неаднойчы Бечык пералічае імёны сяброў, жыццё якіх абарвалася трагічна рана. Пакаленне, якое, хоць і не гэтак густа, як ваеннае, але ўсё ж сталася даволі прарэджаным. Якое забівала не толькі пасляваенная нішчымніца, але і непрыкаянасць бясчасся. І якое, нягледзячы ні на што, захавала маральны стрыжань, тыя духоўныя арыенціры, жыццё без якіх робіцца існаваннем. «Ніколі не хацеў бы, каб жылося лягчэй, а толькі — каб справядлівей... Нам наканавана жыць лірычна — са смуткам, тугою, скрухаю, журбою, маркотай» — гэта сказана і ад свайго імя і ад імя ўсяго пакалення як духоўны маніфест. Штосьці з духоўных набыткаў гэтага рамантычнага пакалення намі, мабыць, страчана назаўсёды. Асуджанасць пераможцаў? Можа, у чымсьці сама дабрыня, адкрытасць, шчырасць аказаліся нежыццёвымі ў наш час?

Ён яшчэ жыў, дыхаў, радаваўся яснаму сонцу, выснoўваў задумы, журбаваў над тым, што мала здзейснена, — а смерць ужо дзесьці падпільноўвала, стаіўшыся покуль да часу. Смерць, якая ахінала сваім крылом яго і ягоных сяброў з неўладкаванага пакалення. Аддаленая прысутнасць якое праз увесь час адчувалася ім. «Мы зусім мала думаем аб смерці, адсоўваем яе — яна для нас заўсёды застаецца нерэальнасцю, фікцыяй, як у самым няспелым дзяцінстве. А між тым адусюль вее яе суровы холад, яе нефальшывая і неабвержная праўда».

Турбавала непад'ёмная ношка задуманага, таго, што трэба было паспець зрабіць: напісаць, выказаць, з кімсьці сустрэцца, прывітаць, усміхнуцца. Кранальны выпіс, зроблены ім у гэткім прадчуцці: «Торопись обрадовать добрым словом встречного, может быть, в жизни не придется больше повстречаться». Яму шмат трэба было паспець. Яшчэ за нейкіх сем гадоў да канца ён запісвае: «Сёння я не хачу паміраць. Не страх смерці, і не адказнасць за сям'ю — палохае /і патрабуе дзеяння/ **бяздоннасць неажыццёўленага** /падкрэслена мной. — **Я. Г.**/. Сёння мне патрэбна некалькі дзесяткаў год, каб стала вялікай крона».

Ён і ў лякарні, да апошніх дзён, працаваў, думаў, назіраў, занатоўваў. Перад самай аперацыяй скончыў апошнюю справу на гэтай зямлі — прадмову да кнігі Ігара Хадановіча. Нібыта была пастаўлена апошняя кропка ў жыцці, сплачаны астатні доўг. І паспеў яшчэ падсумаваць жыццё. «Што датычыць самога, то можна падбіць рахункі: жыў, як умеў, сумленна і нікому не жадаў зла /хоць, бывала, уступаў з некім у канфлікты, страшэнна канфліктаў не любячы/.

Колькі людзей пражыло менш. Таму зусім не палохае сама смерць — жыцця, калі на тое, было дастаткова. Усё жыццё — тайны, схаваныя думкі, патаемныя ўчынкі. Надта многа адзіноты, але яна патрэбная душы, як паветра».

Што яшчэ можна сказаць? Што дадаць да гэтай праніклівай самахарактарыстыкі? Бадай, толькі тое, што напісанае застаецца. Застаецца тое ж неба. Тыя ж засмужаныя далягляды, зажурбелыя ўзлескі, гаючыя рэкі. Усё тое, ды адначасна не тое. Скажу яшчэ, што кніга жыцця Варлена Бечыка назаўжды цяпер застанецца для мяне настольнаю...

«Сёння ездзіў у Астрашыцкі Гарадок. Калі ўбачыце там, што соўгаецца па вуліцах нейкі дзівак у расхлістаным плашчы, узіраецца ў твары людзей, быццам яму ў нечым яму знаёмыя, разглядае гэтыя прыземістыя і старыя, аселыя ў зямлю хаты, задумліва глядзіць на раку, сажалку і возера, прастойвае без выразнага сэнсу на могілках... — то гэта я»...

А можа, вы напраўду сустрэнеце ў сваіх вандраваннях гэтага чалавека — Варлена Леанідавіча Бечыка, можа, й сустрэнеце, можа...

**Яўген ГАРАДНІЦКІ**

Часопісы ў жніўні

# НЕ ПРАСПІМ СВАЮ ДОЛЮ...

Пісаць па гарачых слядах падзей — справа не зусім удзячная. Гэта тычыцца і аператыўнага водгуку на новы мастацкі твор. Можна паддацца першапачатковаму ўражанню /а яно не пазбаўлена эмацыянальнасці/, лёгка пры аналізе прайсціся па паверхні, не адчуўшы таго важнага, што заўважыцца пры больш пільным прачытанні. Урэшце, няма магчымасці супаставіць уласныя думкі з меркаваннямі калег па пяру. І ўсё ж пра новы раман У. Дамашэвіча /ён змешчаны ў сёмым-восьмым нумарах часопіса «Полымя»/ не магу не напісаць. Справа ў тым, што, на маю думку, гэтым раманам У. Дамашэвіча наша літаратура шмат у чым па-новаму зірнула на падзеі, якія адбываліся ў былой Заходняй Беларусі як падчас знаходжання яе пад уладай Польшчы, так і ў верасні трыццаць дзевятага, калі часці Чырвонай Арміі завяршылі вызваленчы паход.

Вядома, пры прыдзірлівым разглядзе твора няцяжка будзе заўважыць, што месцамі персанажы разважаюць занадта сучасна, закранаюць самыя розныя праблемы нацыянальнага адраджэння, даходзяць нават да таго, што прама ставяць пытанне, а чаму ж гэта рускія ніяк не навучыліся гаварыць па-нашаму, па-беларуску. Месцамі дае знаць у рамане і «лозунгавая» публіцыстычнасць. Аднак не пра гэта хочацца гаварыць, а пра тое асноўнае, што і дазваляе сцвярджаць аб новым павароце ў адлюстраванні заходнебеларускай рэчаіснасці. А новае ў тым, што, як пераканаўча паказвае У. Дамашэвіч, тыя добрыя памкненні, якія падымалі тысячы свядомых беларусаў на рэвалюцыйную барацьбу за нацыянальнае і сацыяльнае разняволенне, у першыя ж дні вызвалення пачалі развейвацца, як дым. Напаверку аказалася: многае адбываецца зусім не так, як хочацца. І тое, пра што марылася, сутыкнуўшыся з жорсткай рэчаіснасцю, становіцца ілюзорным.

Паказальная размова, якая адбываецца ў галоўнага героя Кастуся Пальцэвіча з сябрам Уладзем Грудзінскім. Пасля вызвалення ўжо, калі абодва кіруюцца ў родныя мясціны, Уладзя папракнуў Кастуся за, на яго думку, празмерную канспіратыўнасць:

«— А як ты хацеў? Мы ж не бабы, а падпольшчыкі былі... І ўсё роўна недзе не дагледзелі, пагарэлі... — сумна сказаў Кастусь.

— Што тут ужэ казаць? Не паправіш... Не пераробіш... Не вернеш назад... — уздыхнуў Уладзя. Раптам ён ажывіўся, падступіў бліжэй да Кастуся. — А скажы шчыра, каб зноў далі магчымасць пачаць спачатку, ці пайшоў бы ты па гэтай дарозе, па якой ішоў?».

Як і чакалася Кастуся такое пытанне паставіла ў тупік. Неяк не думалася нічога падобнага, яшчэ не было часу ўзважваць і ацэньваць тое, што перажыў, што рабіў, што, фактычна, пачаў толькі рабіць. Толькі там, у час чакання смерці /у чарговы раз арыштаваныя палякамі, пасля вызвалення ўжо — **М. А.**/, калі яны правялі суткі на мяжы быцця і небыцця, нешта падобнае прыходзіла яму ў галаву».

Уладзя ж не адстае ад сябра, яму хочацца атрымаць пэўны адказ. Сам ён, як высветліцца неўзабаве, паспеў у нечым пераасэнсаваць мінулае, зрабіць пэўнае падагульненне пад колішнім юнацкім максімалізмам, празмернай рамантычнасцю. Яго чарговае пытанне: «Ну, чаго маўчыш?» прымушае нарэшце і Кастуся адказваць прама, як бы дзейнічаў ён цяпер, столькі перажыўшы, калі б зноў апынуўся перад ранейшым выбарам: сядзець ціхенька, што рабіла пераважная большасць, ці змагацца, на што былі здатныя толькі найбольш нацыянальна свядомыя:

«— Што тут сказаць? Я не каюся... Я пайшоў бы, але быў бы трохі разумнейшы, не такі даверлівы, як дзіця...

— Ты пайшоў бы, кажаш... Смелы ты хлопец... А я, скажу табе шчыра, не пайшоў бы, — сказаў Уладзя рашуча».

На чарговае Кастусёва пытанне: «Чаму?» Уладзя адразу прызнаўся: «Цяжка нават сказаць — чаму?..» І тут жа дадаў: «Калі-небудзь сам здагадаешся».

Размова гэтая адбываецца амаль напрыканцы рамана, калі пісьменнікам пра персанажаў ці не ўсё сказана. І неабходна падводзіць нейкую пэўную рысу, ставіць у творы кропку. А зрабіць гэта не так і проста. І не таму, што яшчэ не ажыццёўлена цалкам задума, тут якраз усё ў парадку.

Ды не будзем забываць, што падзеі ў рамане завяршаюцца ўсяго вераснем 1939 года. Наперадзе, як вядома, былі арышты колішніх актывістаў рэвалюцыйнага руху, стварэнне першых калгасаў. Наперадзе — вайна, у якой заходнікам асабліва цяжка было правільна зарыентавацца, вырашыць, чый бок узяць. Наперадзе — і масавая пасляваенная калектывізацыя ў тутэйшых мясцінах. Ды і, пра што замоўчвалася дзесяцігоддзямі, адкрытыя, прытым узброеныя выступленні супраць новых, цяпер ужо савецкіх парадкаў.

Думаеш пра ўсё гэта і міжволі з рамана робіш, так сказаць, «праекцыю» на само жыццё. Вядома, рабіць так — рызыкоўна, і ўсё ж... Так і карціць паспрабаваць высветліць, а хто з гэтых двух персанажаў рамана мог бы пасля апынуцца сярод «бульбашоў». На першы погляд — Уладзя. Хоць бы таму, што ён па-ранейшай дарозе ўжо «не пайшоў бы». У дадатак, як аказваецца, у час аднаго з допытаў зламаўся, стаў даносчыкам. Але ці не сталася б і так, што ў далейшым аказаліся б зламанымі лёсы і іншых персанажаў? Гэта ж вельмі страшна, калі ў юнацкім узросце чалавек пазбаўляецца ідэалаў, якім дагэтуль служыў верна і самааддана і гатовы быў пайсці дзеля ажыццяўлення іх на смерць. На прыкладзе Кастуся Пальцэвіча У. Дамашэвіч і прасочвае гэты пакутлівы шлях разбурэння таго светлага, у што верылі самыя сумленныя і самыя чыстыя.

Паступова адбываецца пераацэнка галоўным героем маральных каштоўнасцей. І што самае важнае, гэтае пераасэнсаванне прыходзіць галоўным чынам пасля таго, як Кастусь у чарговы раз трапіў за краты. Перад гэтым, седзячы за рэвалюцыйную дзейнасць, ён марыў аб адным: хутчэй вырвацца, каб прадоўжыць барацьбу. Што і здзейсніў, калі стаў узводным аднаго з атрадаў рабочай гвардыі. Тады пра смерць неяк не думалася. Барацьба ёсць барацьба... Цяпер жа, адчуўшы смак свабоды, няхай і кароткай, не-не ды і прамільгне іншая думка: «Каму стане лепей на свеце ад таго, што яны памруць?»

Змены ў характары, паводзінах Кастуся адбываюцца яшчэ і таму, што на гэты раз ён апынуўся ў камеры не толькі са сваімі колішнімі сябрамі-таварышамі, з кім разам ішлі падпольнымі дарогамі і з кім усё было даўно перагаворана. Поруч знаходзяцца і людзі больш вопытныя, якія куды болей у жыцці пабачылі. Ад іх і даведваецца Пальцэвіч пра сталінскія рэпрэсіі, пра тое, што і «ворагі народа» былі не сапраўднымі, хоць, па праўдзе кажучы, і раней ён далёка не ўсё прымаў на веру, у нечым сумняваўся.

І ўсё ж пакуль што Кастусь ніяк не можа апусціцца з неба на зямлю. Ён у многім ранейшы рамантык і гэтаксама даверлівы, як і тады, калі толькі далучаўся да рэвалюцыйнай барацьбы. Інакш і не растлумачыш, як гэта прыйшло яму ў галаву запытацца ў лейтэнанта, калі зноў апынуўся на волі, «а ці праўда, што Сталін аддаў пад суд лепшых сваіх маршалаў — Тухачэўскага, Блюхера, Ягорава?». Не сказаць каб і катэгарычны адказ таго: «Поймите раз и навсегда — Сталин не судит. Судит народ, народный суд. И он судит врагов народа» ўнёс шмат яснасці . Сумненняў, наадварот, яшчэ пабольшала.

Шукае Кастусь адказы на пытанні. А іх, пытанняў гэтых, не меншае. Многае ж сведчыць зусім не на карысць таго, пра што думалася-марылася юнаку. Падумаць толькі?! Пасля вызвалення сутыкнуўся з падазронасцю, калі ад яго ледзь не даведку патрабуюць аб тым, што знаходзіўся... у турме; з жорсткасцю, калі чырвонаармейцы зневажаюць бяззбройнага паляка, які нікога не чапае...

І ў рэшце рэшт паўстае асноўнае з пытанняў: а хто ж вінаваты, што адбываецца ўсё не па-людску на зямлі, засланяе іншыя. Думае-разважае Пальцэвіч. Тым больш, што і дарогі сяброў, Кастуся і Уладзі, таксама пачынаюць разыходзіцца: «... у кожнага ўжо свая. У Кастуся — нейкая новая, мо трывалая і доўгая, а мо зусім пакручастая і кароткая, але яна пакуль што лепшая за той тупік, у які прыйшоў яго сябра, лепшы сябра юнацтва. І хіба ён сам вінаваты, хіба Уладзя вінаваты, што так здарылася? А хто ж тады вінаваты? Хто?»

Няпэўнасць перад будучыняй не пакідае Кастуся: «А што, калі тое новае акажацца не тым, да чаго ляжыць яго душа? Калі ён не зможа, калі душа яго заўпарціцца і не прыме новага? Што ж, тады будзе відаць, што рабіць далей, мо не варта забягаць наперад, хутка праверыцца, сёння-заўтра ён будзе ўжо ведаць, ці пойдзе па новай дарозе». У сястры Кастуся Аксенні як быццам усё прасцей: «... будзем спадзявацца на Бога». А ён жа з Богам «расквітаўся» яшчэ тады, калі толькі станавіўся на шлях рэвалюцыйнай барацьбы.

«Кастуся чакалі новыя клопаты. Пачыналася невядомае жыццё. Яно здавалася яму то трывалым і моцным, то віхурыстым, няўстойлівым і зыбкім. Чаго ў ім было больш, Кастусь не ведаў». На гэтым раман і заканчваецца...

І іншыя матэрыялы, змешчаныя ў «Полымі» — найперш хацелася б адзначыць вершы А. Звонака, А. Вольскага, заканчэнне дзённікавых запісаў І. Шамякіна «Дзе сцежкі тыя...», артыкулы А. Петрашкевіча «Паразітызм на патрыятызме», — з таго шэрагу, што прымушаюць у чарговы раз пераасэнсоўваць нашае нядаўняе мінулае. Напісаны яны неабыякава, з грамадзянскай трывогай за дзень заўтрашні. І як бачна, гэта аўтары, якія нямала пражылі, а А. Звонак і перажыў, таму да іхняга голасу нельга не прыслухацца, хоць гэта не значыць, што ўсё неабходна браць на веру. Чаго-чаго, а самастойнасці мыслення кожнаму з нас хапае. Іншая справа, каб, як гэта назіралася ўжо неаднойчы, не кідацца ў крайнасці.

... Нёманаўская публіцыстыка заўсёды вызначалася вастрынёй узнятых праблем. Артыкул Г. Лыча «Мозг памірае апошнім» належыць да такіх публікацый. Аўтар узнімае голас у абарону нацыянальнай навукі, якая сёння, бадай, як ніколі, знаходзіцца ў катастрафічным становішчы.

На тых, хто незнаёмы з беларускамоўнымі публікацыямі В. Кіпеля, разлічана яго выступленне «З думай аб Радзіме», у якім расказваецца пра грамадска-арганізацыйную структуру беларускай эміграцыі ў ЗША. А вось У. Шумаў і Я. Шымаў /«Гісторыя вялікага падману»/ заглыбляюцца ў саму сутнасць таталітарызму, разглядаючы яго ў розных аспектах. Па-руску можна пазнаёміцца з творамі А. Вярцінскага, А. Мінкіна, В. Хомчанкі, Х. Лялько...

Даволі прадстаўнічы раздзел «Кола чытання», хоць аператыўнасць... Але не пра гэта. Даводзілася пісаць ужо, як у «Беларусі» была прарэцэнзавана анталогія паэзіі беларускага замежжа «Туга па Радзіме» без указання ўкладальніка, аўтара прадмовы і біябібліяграфічных даведак пра аўтараў Б. Сачанкі. Зноў аналізуецца гэтае унікальнае выданне і па-ранейшаму пра Б. Сачанку ні слова. Хоць, здавалася б, пра яго аўтар водгуку самай высокай думкі: «... я мяркую, варта выдаць яшчэ адну кнігу — паэзіі беларускай унутранай эміграцыі. На жаль, у такой кнігі няма пакуль ні гэткага аўтарытэтнага складальніка, ні гэткага падкрэсленага разумення з боку дзяржаўнага выдавецтва...» Але ж назавіце чытачу прозвішча складальніка!

Па-ранейшаму з-за выдавецкіх няўвязак не ўваходзяць у графік часопісы «Беларусь» і «Маладосць». На гэты раз «Маладосці» перашкодзіла тое, што акурат друкаваліся падручнікі да пачатку новага навучальнага года. А фармат жа блізкі, падобны...

«Не праспі сваю долю» — назва рамана У. Дамашэвіча ў дачыненні да цяперашняга стану нашага грамадства набывае сімвалічны сэнс. Адначасова гэта і зваротак да кожнага з нас, хто турбуецца пра лёс Бацькаўшчыны.

**М. АНДРЭЭНКА**

Паэзія

Сяргей ГРАХОЎСКІ

*Сяргею Грахоўскаму — 80. Слаўны юбілей сустракае чалавек нялёгкага лёсу, слынны творца, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь. На яго мастакоўскім рахунку — дзесяткі кніг. Усе яны — яркія, самабытныя, ды, бадай, тыя, што расказваюць пра падзеі трыццатых гадоў і пазнейшыя, калі тварылася беззаконне, асабліва значныя. У іх С. Грахоўскі-паэт і С. Грахоўскі-празаік выступае як грамадзянін, якому пакутліва-балюча за тое, што давялося зведаць і яму самому, і ўсяму нашаму народу. Як сведка і абвінаваўца, што ўзнімае голас у абарону праўды і справядлівасці. У той жа час і ў гэтых творах і ў іншых бачыцца высокая чалавечнасць і дабрыня чалавека, які, нягледзячы на суровасць абставін, змог захаваць і зберагчы, пранесці праз гады сумленнасць і шчодрасць душы.*

*Віншуем Сяргея Іванавіча, даўняга лімаўскага аўтара, з 80-годдзем, зычым яму і далей заставацца ў актыўным жыццёвым і творчым страі!*



# АСЕННІЯ ЭЛЕГІІ

## АПУСЦЕЛЫЯ ПАРКІ

Маўчаць фантаны.
Апусцелі паркі,
Не засталося нават ліхтароў,
І толькі водзяць мопсы і аўчаркі
На павадках сваіх гаспадароў.

Трава някошаная стыне,
Іскрыцца павуціна на галлі,
На пачарнелым бэзе і язміне
Пасядуць хутка першыя гілі.

Яшчэ шуміць апалая лістота
І з кожным ранкам пахне саладзей,
Азімак-дуб не скінуў пазалоту
І журыцца, што — менш і менш людзей,

Што многія датлелі, як агаркі...
Пусцеюць душы і пусцеюць паркі...

## У СОЦЛАГЕРЫ

Я ўсё яшчэ ў соцлагеры жыву:
Кіруюць тыя ж Саўкі і Мараты
І, як тлумілі, тлумяць галаву
Марксізму дактары і кандыдаты.

Яны ж здавалі нейкія залікі,
І кожны практыку з тэорыяй злучыў.
Каб кіраваць, іх «карыфей вялікі»
Ў навуку прабівацца падвучыў.

Хоць творчае не адчувалі мукі,
Хвалілі іх таварышы і друк.
Даўно ўжо няма тае «навукі»,
Але жыруюць «дактары навук».

Яны прызначылі народных дэпутатаў,
І тыя рушылі зацята на народ,
Да мікрафонаў, да дэбатаў,
Каб толькі ўсё было наадварот.

Куды ні ступіш, гора апяць,
Бо ўсё жыву ў соцлагеры яшчэ,
І дабівае ўсеагульны стрэс:
То сняцца краты, то... казённы лес.

●

Яшчэ б адну вясну сустрэць
І дачакацца лістападу,
Пасля, як жоўты ліст, датлець
На сцежках восеньскага саду,

Дзе ўсё дачасна адвіло,
Сухое дагарэла голле,
Успомніць тое, што было
І ўжо не вернецца ніколі,

Яшчэ прайсціся басаном
Па лотаці і пыльным шляху,
Пачуць, як барабаніць дождж
Да самай раніцы па даху.

Усё пабачыць да драбніц, —
Крынічкі, рэчкі, вербалозы,
Што над вадой схілілі ніц
Расплеценыя ветрам косы.

О, як ні горка, Божа мой,
З усім навекі развітацца...
Будзь літасцівы,
і зімой
Дазволь яшчэ палюбавацца.

●

Загарэлася першая зорка,
А за ёю другая мігціць.
Мабыць, выбух апошняга корка
Не да столі, да зор даляціць,

І астатні глыток аква-віты
На растанне са светам глыбу.
Азірнуся. З пакутамі — квіты
За сваю і чужую віну.

Я стаміўся ад дум да знямогі,
Накалоўся атрутным асцём,
І знікаюць у бездань дарогі,
Што чамусьці завуцца жыццём.

## САЛАЎІНАЯ НОЧ

/УСПАМІН/

Блакітны месяц і ліловы бэз
Дурманілі табе і мне галовы,
А недзе побач непрыкметны бес[1]
Шаптаў дасюль не сказаныя словы.

Я траціў і развагу, і спакой,
Пачуўшы голас ціхі і спакусны.
Лавіў руку гарачаю рукой
І вуснамі — асмужаныя вусны.

Усё трымцела ў сэрцы і ў душы,
І ачунялі мы з палёгкай,
Калі знянацку ў начной цішы
Прачнуўся салавей і радасна зацёхкаў.

І мы стрымаць пачуцці не маглі
У тыя таямнічыя хвіліны,
І ўсё, што берaглі, не зберaглі
Чароўнай ноччу салаўінай.

Нас акрапіў расою чадны бэз,
А на галлі гайдаўся і смяяўся бес.

[1]Бес /рус./ — д'ябал.

## АПОШНЯЯ ІСКРЫНКА

Як мне шкада, што нарадзіўся рана
Пад шум дажджу у восеньскай глушы,
Што ў непагоду засмылела рана
І запяклася у маёй душы.

Яна баліць за кожную драбніцу,
Хоць добра ведаю, што я ўсяго тут госць,
Што маю права толькі памаліцца
Здалёк на вас і вашу прыгажосць,

Што сорамна рукою дакрануцца,
Каб не пакрыўдзіць і не рассмяшыць,
Здалёку непрыкметна азірнуцца
І познюю іскрынку патушыць.

Я ведаю, што хутка ўсё міне,
І прыйдзе шчаслівейшы за мяне.

## МУЗЫКА

Я музыку люблю. Арган душу вярэдзіць.
Заплюшчу вочы — над зямлёй лячу.
Ніхто не спыніць і не папярэдзіць,
Што за мелодыю душою заплачу.

Я адрываюся ад мітусні і тлуму,
Я забываю ўласнае імя,
Знікаюць клопаты, святлеюць думы,
Здаецца мне, што я ужо не я,

Што стаў сумленнейшы, чысцейшы,
лепшы,
Што ледзь не з Богам гутарку вяду.
Замоўк арган. І я, нібы аслепшы,
Вось-вось, здаецца, ў багну упаду.

З любімай музыкай да зор лячу я,
Але цяпер яе так рэдка чую.

## ВОЛЯ СЛОВА

Кіруючыя мудрыя галовы,
Што разбурылі лад стары,
Далі нібыта волю слову, —
Пішы, спявай і гавары

Ўсё, што баліць і набалела,
Калі баяўся стукача,
Выказвайся сягоння смела,
Сячы, як шабляю з пляча,

Пішы, крычы, а хто пачуе?
Хоць вершы раздавай дарма,
Іх болей цэнзар не лічуе,
Яго, нібыта, і няма.

І грознай не чутно пагрозы,
За думкі небяспечныя тваё,
Таму, што больш паэзіі і прозы
Ніхто даўно не выдае:

Няма ні фарбы, ні паперы,
Ты ўжо — ні гаспадар, ні госць,
І без Надзеі, і без Веры,
Затое «воля слова» ёсць.

## ТАЕМНАЯ ВЯЧЭРА

Ніяк з табою не нагаварубся
У поцемках і пры агні,
А ў дзверы грукату баюся
І да мяне, і да радні.

Яшчэ нясмела свецяць зоры,
А мы ў палоне дзіўных кроз,
Глядзім, як тонкія узоры
На шыбах выразаў мароз.

Мы падуладныя даверу
І дотыку гарачых рук,
Але таемную вячэру
Перапыніў няўмольны стук.

За твой спакой заўжды малюся,
Бо стуку ўсё жыццё баюся.

## НЯВОЛЯ

Самая страшная кара — няволя,
Часамі страшнейшая за імгненную смерць.
Зона маўчання, без сценаў і столі,
Дзе нельга гадамі ні плакаць, ні пець,

Дзе нельга кахаць і сустрэцца з каханым,
Дзе ўлічана кожнае слова і крок,
Дзе бачыць цябе цераз мушку нагана
Бязбожнік, гатовы націснуць курок.

Жахлівае ўсё засталося ў мінулым,
А памяць бывае душу апячэ,
Як толькі дакоціцца плачам і гулам
Няволя, якое хапае яшчэ.

Вярэдзяць душу успаміны да болю,
І я праклінаю любую няволю.

## НА СКОНЕ ВЕКУ

Цнатліваю ружоваю дзяўчынкай
Са мною засталася ты навек.
Я помню, як з прыжмураных павек
Паблісквалі іскрынка за іскрынкай,

Як пахлі залатыя валасы
Даспелымі рамонкамі і мятай,
І кожны дзень падобен быў на свята
У тыя незваротныя часы.

На сконе веку ты і я — не тыя,
Бо ўсё ужо не тое на зямлі,
І мы з табою некалі былі
І грэшныя, і трошачкі святыя.

Даўнейшага нічога ўжо няма,—
І лета іншае, і іншая зіма.

## РАВЕСНІЦА

*Маёй былой аднакласніцы*
*Таццяне Караткевіч*

Давай і памаўчым, і пасумуем,
Дап'ём апошняе віно,
Усё з табою падсумуем,
Што знойдзена і страчана даўно.

Успомнім, чым былі, якімі сталі,
Прыкінем, колькі нам яшчэ прайсці
Ужо без звону гартаванай сталі,
Што нас вяла з юнацтва па жыцці.

Не па Евангеліі, не па Карану
Вучылі нас дабру і дабрыце,
І кожны нізавошта пакараны
Паверыў, што да волі дабрыдзе.

І дабрылі. Стаміліся. І годзе.
Гасподзь, грахі бязгрэшным адпусці

На рубяжы наступнага стагоддзя,
Хоць да яго наўрад ці нам дайсці.

Без крыўды, скаргаў і без злосці
Гатоў я абавязкі ўсе зляжыць,
На юных паглядзець і пазайздросціць,
Што ім наканавана доўга жыць.

Магчыма, ў радасці і ў згодзе
За перавалам новага стагоддзя.

## ПАМЯЦІ НЕНАПІСАНЫХ ВЕРШАЎ

Я вас тады не напісаў,
Калі вы стукаліся ў скроні,
І з сэрца іскры выкрасаў
У вечным д'ябальскім палоне.

Укормленыя гайдукі
За слова смелае каралі,
І мы, і шчырыя радкі
На лютай сцюжы дагаралі.

А мог жа нечаканы верш
Суцешыць і загоіць раны...
Іх заставалася ўсё менш,
І самы лепшы пахаваны.

Там сосны выраслі даўно
І братнія датлелі косці,
І нават знаку не відно
Ад той далёкай маладосці.

Заканчваю апошнія віткі,
Ўглядаюся у сонечныя высі,
І так шкада, што лепшыя радкі
На незваротных сцежках засталіся.

## ДЗІЎНЫ СОН

Які быў сон!
Які быў дзіўны сон,
Душа з душой
Спявала ва ўнісон,
Глядзелі вочы ў вочы
Да відна,
І не было ні берагоў,
Ні дна.
Клубіўся бэз,
Шалелі салаўі,
І мы былі
З табою у раі, —
Пад сінім небам,
У густой траве
Сядзела ты
З вянком на галаве
І не чытала
Болей мне маралі,
Расінкі зіхацелі,
Як каралі,
І не было
Абрыдлай мітусні,
Ні заклікаў, ні спрэчак,
Ні хлусні,
Здавалася,
Усе сплачаны даўгі,
І ні за чым
Даўно няма чаргі...

Ды зазваніў будзільнік:
Шэсць гадзін.
«Ану, ўставай хутчэй,
Грамадзянін!»

Забыўся сон.
Спяшаюся, бягу
І станаўлюся
Ў доўгую чаргу.

## ПОСАХ

*Памяці Янкі СКРЫГАНА*

Дыміцца пасівелая трава,
У затуманеных світальных росах,
І хіліцца сівая галава
На Скрыганам падараваны посах.

Я не спяшаюся. Іду на захад сонца.
Заліты чырванню і бронзай небакрай,
Каб адшукаць на выцвілай старонцы
Адказ, як з пекла вырвацца у рай.

Я ведаю, што не знайсці адказу,
Не адшукаць збавення анідзе.
Патухне захад. Змеркне. І адразу
За зоркай зорка ў бездань упадзе.

Трава зашэрхне у світальных росах,
І нехта знойдзе заінелы посах.

## МАНКУРТЫЗАЦЫЯ

Зацыклелыя русафілы
З-пад Клецка і з-пад Капыля
Стараюцца з апошняй сілы,
Каб беларуская зямля
Аглухла зноў і анямела,
Каб зноў імперыю стварыць,

Каб нават маці не умела
Па-свойму пець і гаварыць.

Ад Воршы і да Маларыты
Яны ва ўсе званы звіняць,
Каб утрымацца ля карыта,
А ў нас апошняе адняць, —
Вытокі і асноў аснову,
Каб кожны помніць перастаў
Сваю адроджаную мову
І найхутчэй манкуртам стаў.

●

Залочанымі трубамі аргана
Гудзе на ветры шчыры бор,
Трывожна мне і на душы пагана,
Што не знайшоў сябе да гэтых пор.

Жыццё прайшло у пошуках дарэмных,
Усё збіраўся нанава пачаць,
А быў і заставаўся пад'ярэмным,
На вуснах і душы была пячаць.

Блукаў па чарналессі без звароту,
Знікалі назаўжды мае сляды,
Трашчалі і зрываліся вароты
Пад націскамі лютае бяды.

Хаваўся часам ад сябе самога,
Здавалася — нягода абміне,
Але яе пякельная дарога
Вяла беспамылкова да мяне.

Змяркаецца і вечар дагарае,
Знікае ў пушчы залаты убор,
Жалобную мелодыю іграе
На дзікім ветры пасівелы бор.

## РАЗМОВА З ПОМНІКАМ

Ізноў заканваіравалі вас?
Міліцыя і дзень, і ноч пільнуе.
Апора верная, — рабочы клас, —
І беспрацоўны, і бунтуе.

Вы так упэўнена вялі
Народ да шчасця і да згоды,
Сялянам абяцалі даць зямлі,
Рабочым — шахты і заводы,

Вы абяцалі волю на вякі,
І слова да канца стрымалі:
Зямлі па тры аршыны мужыкі
Пад піхтамі ў Сібіры атрымалі.

Рабочыя гарбелі да начы
За пайку і баланды міску
І падалі, на вахту ідучы,
І ў шахтах заінелага Нарыльска.

Народ ад страху і дрыжаў, і слеп,
Соцлагер называў сусветным «раем»,
А Вы загадвалі, што «будзе лепш,
Калі мы болей расстраляем».

Была ці не была у іх віна:
Ні тысячу, ні тры не шкода.
Вось так ішла крывавая вайна
Зацятых нелюдзей з народам.

Яны выконвалі Ваш мудры запавет,
План гадавы і план штодзённы,
І без разбору гналі на той свет
Спачатку тысячы, пасля мільёны.

З маленства мы маліліся на Вас,
Лічылі на Зямлі адзіным Богам,
А падраслі, — прабіў жахлівы час
І нам ісці ў барак «с режимом строгим».

Калі на Вас зямны сышоў спакой,
Вы пад надзейнаю аховай спіце,
А вось на помніках з працягнутай рукой,
Як Вашы жабракі, і Вы стаіце.

Калі б Вы ўбачылі, што з намі стала,
Пад воплескі і воклічы «ура!»,
Вы б самі злезлі з п'едэстала.
Дык не марудзьце, бо даўно пара.

## НЕЮБІЛЕЙНЫ

Я не святкую юбілеяў.
Хіба ж заслуга — доўга жыць?
Я калісь верыў — пасталею,
Каб праўдзе і дабру служыць.

Але дарэмна траціў сілы,
Пакуль ад гора не знямеў,
Хацеў служыць аж да магілы,
А вось прыслужвацца не ўмеў.

Сумленне шэпча: «Не тужы ты,
Калі апошні ўдарыць звон,
Не радуйся, што шмат пражыта,
Пакутуй, што нязначны плён,

Што і тваю глухую восень
Дажджы дачасна залілі,
Што ўжо нядоўга засталося
Хадзіць па змучанай зямлі.

Пакуль жывы, хоць старцу памажы
Ці песню развітальную зладжы».

Проза



Барыс ПЯТРОВІЧ

# УСПАМІН. ДЗІЧКА.

АПАВЯДАННЕ

Мне ЎЖО шмат гадоў. Значна больш, чым па пашпарце. Бо, думаю я, пакуль чалавек верыць, што лепшыя ягоныя гады яшчэ наперадзе — ён малады, калі ж пачынае лічыць, што ўсё лепшае засталося ў мінулым — ён стаў старым. А старасць — невылечная хвароба. Калі жывеш толькі ўспамінамі, а не надзеямі і марамі — тады збірайся ў труну...

Але не падумайце, што кажу я гэта пра сябе, хоць мне і сапраўды шмат гадоў — больш, чым па пашпарце, хоць і часта, вельмі часта прыгадваю я сваю дзяцінства. Сам не ведаю, што найшло на мяне, чаму пацягнула на гэтыя развагі, якія давялі мяне да... труны. Бо апошняе якраз і разбурае іх лагічнасць. Колькі б я ні прыгадваў мінулае, я ні на хвілю не набліжу тым сваю старасць. А, мажліва, і наадварот, аддалю: бо ўспамін пра дзяцінства ці не ёсць мара пра яго?

Даруйце мне гэтыя развагі, бачыцца і сапраўды ў іх нешта старэчае, хоць, сустрэўшыся на вуліцы, ніхто з вас не назаве мяне дзедам, і мала хто — дзядзькам. Я вось падумаў зараз: ці не ад таго гэтая старэчасць, што мне, з майго дзяцінства, засталося няшмат успамінаў, быццам забыліся яны за часам. І таму здаюцца цяпер далёкімі-далёкімі, адарванымі ад мяне сённяшняга... У кожнага, пэўна, ёсць свой вобраз-сімвал дзяцінства, які найчасцей прыгадваецца. У каго пад дрэнны настрой, у каго — пад добры. То можа быць любімая цацка, раструшчаная чужым ботам, альбо густое, клейкае павуцінне на гарышчы дзедавае хаты, рачулка, у якой ледзь не ўтапіўся, альбо лаўка, дзе ўпершыню спазнаў, што такое каханне... Я даўно заўважыў, што мой найярчэйшы ўспамін-сімвал — высокая груша-дзічка пасярод жоўта-спелага жытнёвага поля. Калі я прыгадваю сваё дзяцінства, то перад маімі вачыма паўстае найперш яна. Высокае, раскідзістае дрэва... Я бачу яго здалёк, з боку вёскі, і выдае яно не жывым, а нібы намаляваным, настолькі кантрастныя пераходы фарбаў — ад жоўтае да зялёнае. Як на карцінах Маціса. Зрэшты, не, гэта зусім не малюнак, гэта аплікацыя, дзіцячая аплікацыя: на жоўтае тло наклееены зялёны эліпс.

Мне цяжка адразу прыгадаць нешта іншае. Груша-дзічка — мой пропуск у дзяцінства. Як забаронены знак, як перасцярога, як стоп-сігнал спачатку выплывае гэты малюнак, і толькі потым расчыняецца брама ў далейшыя ўспаміны, найперш усё-ткі звязаныя з гэтым дрэвам пасярод поля. Мы любілі гуляць ля яго. Калі не было нікога з сябрукоў на вуліцы, значыць — яны пад дзічкай. Тут гулялі мы ў гульні, забароненыя дарослымі: на грошы, у карты; тут расказваліся самыя смешныя і самыя салёныя показкі; тут мы сварыліся, біліся і мірыліся... Вакол дзічкі штогод расло не адно — жыта, саджалі тут і бульбу, і кукурузу. Аднак запомнілася чамусьці жыта. Ад недалёкае сцяжыны, пратаптанае дарослымі напрасткі да фермы, мы стараліся прайсці да дзічкі не пакінуўшы слядоў — між каласамі, — каб захаваць таямніцу сваёй схованкі. Так прайсці па густым жыце можна раз, аднаму, але ж не кожны дзень і ўсім. І таму, як бы мы ні ўтойвалі сваё ўлюбёнае месца, маці нашыя ўсё роўна ведалі яго. Калі трэба было, яны падыходзілі да краю поля і крычалі ў бок дзічкі: «Васька!», альбо «Толік!», і Васька ці Толік адкладвалі карты і нехаця йшлі дахаты.

З вёскі гэтае я з'ехаў з бацькамі ў горад, калі мне было дванаццаць гадоў. І з таго часу не быў у ёй ні разу. Да гарадскога жыцця прывык я не хутка і таму, можна лічыць, што дзяцінства маё на гэтым скончылася. Вясковы выдатнік стаў гарадскім троечнікам, завадатар — ціхмяным і непрыкметным хлапчуком. На тое, каб пераадолець гэты круты паварот у маім жыцці, гэты бар'ер паміж вёскаю і горадам ўва мне самім — пайшло некалькі гадоў, якія ва ўсіх маіх аднагодкаў, пэўна, былі самымі шчаслівымі і бесклапотнымі... Ці не з таго часу засталося ў мяне жаданне вярнуцца назад у вёску, дзе нарадзіўся, дзе жылося так слаўна і хораша, дзе быў я сваім сярод сваіх... «Не спраўджанае дагэтуль жаданне...», — падумаў я і вырашыў, што кіну ўсё справы і заўтра ж сяду ў электрычку і паеду ў родную вёску, паеду дамоў, паеду да грушы-дзічкі, паеду... у сваё дзяцінства...

* * *

У будні дзень электрычка была паўпустою. На прыпынках амаль ніхто не выходзіў і ніхто не заходзіў. Гэта бачыў я бакавым зрокам. Бо сеўшы ля вакна — пазіраў толькі ў яго. За вакном імчалі, знікалі адны і з'яўляліся новыя краявіды. Але я не заўважаў іх. За час паездак на лецішча і назад я навучыўся засяроджвацца ў сабе і не рэагаваць ні на якія «знешнія раздражняльнікі». Тут нарадзілася і склалася большасць маіх навуковых артыкулаў, тут прадумваўся ход заўтрашніх лекцый і семінарскіх заняткаў у інстытуце. Не ведаю чаму, але дома, за сталом, давалася гэта значна цяжэй, і я часам сярод тыдня выпраўляўся на лецішча, быццам па нейкай патрэбе, а на самай справе — проста абдумаць у дарозе план і змест новага артыкула, каб потым сесці дома, у кабінеце, і запісаць, а дакладней — перапісаць, яго на чыставік. Чарнавікі заставаліся ў галаве. Я навучыўся «адключацца» на пэўны час, і не было выпадку, каб праехаў свой прыпынак задумаўшыся.

Гэтым разам, аднак, думкі мае былі далёка. Як бы ні мільгацелі за вакном краявіды, перад маімі вачыма быў адзін, той: зялёная груша-дзічка пасярод жоўтага поля. Па некалькі метраў вакол дзічкі трактарысты не заворвалі, пакідалі лапік зямлі, які заўсёды ярка зелянеў густою, упартаю травою. Колькі б мы ні тапталі яе, як бы ні выміналі, яна ўставала, адыходзіла за ноч і да самае зімы заставалася нязменнаю. Здавалася нават, што і пад снегам не адмірала яна зусім, бо з ранняе вясны была тут высокаю і зялёнаю, як нідзе. На ёй мякка было ляжаць. У спякотныя летнія дні ад яе ішла прахалода, а ў сцюдзёныя асеннія — яна саграvala нас.

Ля камля дзічкі заўсёды стаяла старая пагнутая алюмініевая міска, на якую клаўся «банк», калі гулялі мы ў «ачко» — «дваццаць адно». Яе схапіў аднойчы Мішка Кроль і замахнуўся на мяне, калі я падлавіў яго на махляванні. І тады «здзейсніў» я свой першы маленькі «подзвіг»: не кінуўся ўцякаць ад дужэйшага і на галаву вышэйшага Краля, а ўстояў, смела гледзячы яму ў вочы. І Кроль збаяўся, адкінуў міску, цвыркнуў пагардліва між зубоў слінай і сказаў: «Жыві, маляўка, адпускаю...» Аднак усе зразумелі, што ён менавіта збаяўся, спалохаўся маёй упартасці. І я з тыдзень пахадзіў у героях.

Але найбольш гульняў каля дзічкі было ў той кароткі час, калі зжыналі жыта і па ўсім полі стаялі копы саломы, яшчэ не сцягнутыя да краёў у сціртьі, а само поле не было ўзарана. Тады да дзічкі гуляць у хованкі збягалася ледзь не паўвёскі. Прыходзілі і дзяўчаты. І старэйшыя хлопцы ціскалі іх у копах, толькі піск стаяў. Усё лета насіліся мы босыя і нашыя парэпаныя ступні ператвараліся ў падэшвы, якім не страшная была ніякая пожня. Пра ёгаў, што ходзяць па цвіках і па бітым шкле, мы тады не чулі, аднак той, хто бегаў-лётаў босы па пожні, напэўна, лёгка мог бы прайсці па бітым шкле, не параніўшы ногі... Але, прабачце, я не сказаў яшчэ, што дзічка была ў камлі тоўстаю — мы ледзь-ледзь абдымалі яе, узяўшыся за рукі ўдвох, — і ад самае зямлі пачыналася ў ёй і цягнулася метраў на два дупло. Некалі нехта расклаў пад ігрушаю вогнішча і пакінуў яго — мо хто з трактарыстаў, якім абрыдла абворваць дрэва, а мо хтосьці проста забыўся патушыць агонь. Але груша не здалася, здужала і жыла з дуплом. Вось гэтае дупло і было нашай любімай схованкаю. Усе пра яго ведалі і, нягледзячы на тое, што шукаць ішлі найперш сюды, кожны раз некалькі хлопцаў кідалася да дупла. Хто першы дабягаў, той і займаў яго. Унутры дупло было чорным, аднак сажа ўжо не бралася: вышмальцавалася-выслізгалася да бляску. Дупло было скразное, навылёт, а значыць мела два ўваходы-выхады. І ў таго, хто схаваўся ў ім, заўсёды быў шанц выскачыць непазнаным і перагнаць таго, хто шукае...

Электрычка не спынялася ў нашай вёсцы. Трэба было заехаць у суседнюю і адтуль, уздоўж чыгункі, вярнуцца назад. Праязджаючы паўз сваю вёску, якая хавалася за лесапаласою, я хацеў угледзець з вакна вагона грушу-дзічку, узіраўся пільна, аднак не ўбачыў, не разлічыў з-за дрэў нават ніводнае хаты. Ідучы сцяжынаю, што некалькі разоў перабягала з аднаго боку чыгункі на другі, я падумаў: а, можа, і няма ўжо маёй вёскі, можа, раз'ехаліся ўсе людзі па гарадах, як з'ехалі некалі мы? Я захваляваўся, аднак адразу ж супакоіў сябе: сцяжына ў бок вёскі пратаптана. На ёй відаць былі і свежыя сляды, прачытаць якія я ніяк не мог. Былі яны ні то дзіцяці, ні то дарослага і паводзілі сябе неяк дзіўна — глядзелі ў розныя бакі, вілялі, а то і зусім знікалі са сцяжыны, з'яўляючыся па аднаму, быццам чалавек, які йшоў, на час рабіўся аднаногім.

Звярнуўшы ад чыгункі да вёскі, адразу за ляском я нагнаў кульгавага дзеда Дзям'яна, які, мне падалося, застаўся такім, якім быў і дваццаць гадоў назад. Спачатку я здзівіўся, а потым падумаў, што гэта, мусіць, не ён, а ягоны сын Дзям'ян, таксама кульгавы на тую ж самую нагу. То было нейкае насланнё на іхні род: у іх нараджалася толькі па аднаму мужчыну, які рана ці позна крывеў на правую нагу — яна пераставала згінацца ў калене, потым пачынала выпіраць убок дугою. І таму ў вёсцы ўсіх з іх сям'і, нават дзяўчат, называлі Крывулямі і Шлёп-Нага.

Дзям'ян мяне не пазнаў. І калі я павітаўся, абганяючы яго, толькі кіўнуў галавою: «Добрага здароўечка».

Затое пазнаў Немчык. Як толькі ўвайшоў я ў вёску, ён радасна кінуўся да мяне, просячы закурыць. Немчык падносіў да рота два пальцы, нібы з зацятай у іх цыгарэцінай, і казаў: «Быды-быды...» Ён мог казаць толькі гэтыя словы, якія азначалі ў яго ўсё. Калі нашую вёску палілі немцы і паліцаі, Немчык змог выпаўзці з падпаленае стайні і ўцячы, але застаўся з таго часу нямым. Яму, напэўна, было ўжо за пяцьдзесят, але ён заставаўся знешне хлапчукаватым — худым падлеткам, толькі з маршчыністым не дзіцячым тварам, зарослым рэдкім шчаціннем. Ён і гуляў увесь час з дзецьмі, сядзеў моўчкі каля дзяцей, якія падрасталі, раз'язджаліся з вёскі, а ён, як жывы талісман, пераходзіў да меншых — братоў, потым сыноў, а зараз — унукаў... Яго ніхто не крыўдзіў і не баяўся, яго ніхто не любіў і не паважаў, ён проста быў побач. Як нейкая рэч, як тая груша-дзічка з дуплом.

Я аддаў Немчыку пачак цыгарэтаў і, больш не звяртаючы ўвагі на ягоныя «быды-быды...», пайшоў праз вёску адразу туды, дзе стаяла раней груша-дзічка.

Вёска амаль не змянілася, не пасучаснела. Засталіся нават сям-там крытыя чаротам хлявы, з якіх мы цягалі чараціны на стрэлы для лукаў. Мне не было да каго

(Працяг на стар. 10)

# ВОДГУЛЛЕ АПЛАДЫСМЕНТАЎ

## ДА 75-ГОДДЗЯ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ АРКАДЗЯ МАЎЗОНА



Аднае раніцы ён прачнуўся вядомым. У тэатральным асяроддзі. Сярод аматараў сцэнічнага мастацтва. І — сярод звычайных мінчукоў. І раніца была незвычайная, бо напярэдадні — 9 мая — у трэцюю гадавіну Перамогі над нямецкім фашызмам у святле рампы жыў, дзейнічаў, хітраваў, загадваў, угаворваў, плакаў, абураўся чалавек, чыё імя ўжо было аслонена легендай, — Канстанцін Заслонаў. Падчас апошняга антракту, калі ўзрушаныя гледачы бавілі час на вольным паветры, над Мінскам загрымеў, загрукатаў і расквеціў яшчэ светла-сіняе неба пераможны салют. І тыя, хто быў тут, у скверы каля фантана «Хлопчык з лебедзем» і на нядаўна ачышчанай ад бітай цэглы і рудых перакручаных арматурных труб з бэлькамі Цэнтральнай плошчы, на праспекце, што насіў імя Сталіна, крычалі «Ура!» Толькі калі згаслі агні ў небе, пачаўся апошні акт спектакля.

І былі потым надта гучныя воплескі ўсёй залы, і былі выклікі на сцэну выканаўцаў роляў, асыпаных кветкамі вясны, і Барыс Платонаў не мог схаваць расчуленай слязы, калі да яго падняўся з залы чыгуначнік і нешта сказаў ціха, а мы, гледачы, зразумелі, што гэта прызнанне жыццёвай праўды ў характары вядомага сябрам па працы і па зброі героя. І каржакаваты, з амаль вогненна-рыжымі тады валасамі чалавек, які з залы прабег ў закуліссе і выйшаў на вокліч: «Аўтара! Маўзона!» — і зрабіў паклон зале, раптам трапіў у абдымкі артыстаў...

А першую спробу трапіць сюды, у тэатр, Аркадзь Маўзон... Прабачце, у 1934 годзе ён быў яшчэ Аронам Маўшанзонам... Дык вось, у шаснаццаць гадоў ён спрабуе паступіць у дапаможны склад /у статысты/ тагачаснага Першага БДТ. На пытанне экзаменатара, якім быў тады ўсемагутны мастацкі кіраўнік тэатра Леў Літвінаў, што юнак збіраецца прачытаць і паказаць, рыжы Арон адказаў. Экзаменатар схапіўся за галаву: «Малады чалавек, у беларускім алфавіце трыццаць дзве літары, кожную з якіх акцёр абавязаны ўмець вымаўляць як гук, за якім жыве і пераліваецца пачуццё. Вы згодны з гэтым? Але ж нават у слове «байка» і ў слове «ўрывак з аповесці» вы прапусцілі некалькі гукаў.

Пакрыўджаны і пасаромлены рыжы юнак пачырванеў і выкрыкнуў штосьці наконт таго, што ён абавязкова прыйдзе сюды праз год і ён, гэты ўладарны Літвінаў, запросіць яго на сцэну. І праз год сапраўды будучага А. Маўзона прымаюць у студыю пры БДТ-1, якой кіруе Л. Літвінаў. І ўсе гукі сцэнічнай мовы аказаліся натуральнымі і нават выразнымі ў вуснах студыйца, потым артыста БДТ-2 /тэатра імя Якуба Коласа/, асістэнта рэжысёра. Аднойчы, пабачыўшы ў спектаклі гэтага акцёра, Літвінаў сказаў яму: «Ні Качалава, ні Малчанава, ні Платонава з цябе не будзе. Лепш бы паспрабаваў якога іншага тэатральнага хлеба...» І сам Арон усё часцей бачыў, што лёс вызначае яму ролі другарадныя, эпізадычныя, малапрыкметныя. Хай кажуць, быццам няма дробных роляў, ёсць толькі дробныя артысты, ён быць вялікім сярод тых, хто на сцэне абвяшчае «Карэта чакае фрэйліну...», не хацеў.

Ды быў ён і з ганарліўцаў, і Літвінаву сказаў, што пройдзе не такі доўгі тэрмін — і ён будзе на «ты» з Малчанавым, з Платонавым. «Магчыма, толькі тады трэба вучыцца ўжо не вымаўляць літары, а выводзіць іх на паперы. Ведаеш, з левага боку пазначаеш «ТУЛЯГА», справа ад гэтага... «Я хацеў запытацца ў вас, ці не будзе гэта... подласцю?.. З майго, зразумела, боку...»

Рыжы Арон запэўніў свайго паважанага дарадцу: «Вы яшчэ паставіце на сцэне маю п'есу, рэжысёр Літвінаў...»

Я ведаю, якім заўзятым кніжнікам быў Аркадзь. Сам пазычаў у яго тамы Мантэня, браў, каб заканспектаваць працы Арыстоцеля, дзякаваў яму за тое, што пазнаёміў мяне з Брэхтам. І «Канстанціна Заслонава» гэты адананы тэатрам і кнігай чалавек спачатку напісаў... белым вершам. Коласаўцы тады працавалі над «Гамлетам», і А. Маўзон уваходзіў у рэжысёрскую групу В. Бебутава, займаючыся захаваннем літары і духу вымаўляемага на сцэне тэксту. Тое захапленне і дыктавала яму, што пісаць з правага боку ад імя персанажа /КРОПЛЯ. Абы-ціха.../. Упарты і настойлівы, ён авалодаў рамяством драматургічнага пісьма. Як чалавек тэатра, ведаў, што і як прапанаваць артысту, каб у пэўных жыццёвых сітуацыях той, пераўвасобіўшыся ў вобраз, натуральна вымаўляў менавіта гэтыя словы, як гук гора або радасці, шчырага прызнання ці прыхаванага пачуцця. І з-пад пяра такія дыялогі і маналогі ў А. Маўзона выходзілі, і іх падхоплівалі Б. Платонаў і Ц. Сяргейчык, Г. Глебаў і І. Шаціла, Л. Сторажава і М. Пало, Ю. Уласаў і А. Качаткова, Р. Янкоўскі і І. Ражба. Ведаючы запатрабаванні і індывідуальныя схільнасці артыстаў сталіцы і абласных тэатраў, ён пісаў ролі з разлікам на пэўных выканаўцаў. Назваўшы некаторыя акцёрскія імёны, я меў на ўвазе такія п'есы, як «Канстанцін Заслонаў», «У ціхім завулку», «У бітве вялікай», «Пад адным небам», «У доме на Сонечнай», «Толькі адно жыццё», дзе А. Маўзон акрэсліваў і афармляў сцэнічныя характары для славутага купалаўца або коласаўца і для вядучага артыста ў Брэсце ці ў Гомелі.

Літвінаву ставіць ягоных п'ес не давялося, але прывабліві для сябе змест і маральную скіраванасць праблематыкі, якія закранаў і раскрываў гэты аўтар, знаходзілі такія розныя рэжысёры, як К. Саннікаў, Л. Рахленка, А. Падабед, А. Міронскі, Г. Волкаў, М. Ульянаў, М. Сулімаў, Я. Батурын, І. Папоў. Для тэатрала, які ведае беларускую сцэну саракавых-сямідзесятых гадоў, сам пералік гэтых рэжысёраў сведчыць пра шырокі творчы дыяпазон трактовак і тлумачэнняў тых твораў, дзе А. Маўзон выводзіў, калі больш маляўніча і арыгінальна, калі з перавагай публіцыстычна-газетных прыёмаў, кантрасты і канфлікты паміж дабром і злом, паміж сумленнем і бессаромнай нахабнасцю, паміж адзінокім пратэстам і палахлівай пакорлівасцю перад уладай або натоўпам.

Толькі не гаварыце мне, быццам калі так характарызуеш п'есы А. Маўзона, абавязкова робішся апалагетам гэтага драматурга. Не, і я ведаю, што ён аддаваў даніну часу, выконваў прыкры «сацыяльны заказ» і рабіў часам не тое, што збіраўся сам-насам з аркушам паперы.

Прыклад? Калі ласка.

«У ціхім завулку» — не шэдэўр, што і казаць. У свой час гэтай драмай зацікавіўся аж Маскоўскі тэатр Ю. Завадскага, у ёй з акцёрскай стараннасцю шукалі псіхалагічнага апраўдання кожнага з учынкаў галоўных герояў Г. Глебаў і І.Шаціла ў купалаўцаў, на армянскай сцэне гэтых герояў увасаблялі славутыя майстры Б. Нерсясян і Г. Аруцюнян... Чаму? Няўжо не было тады больш адмыслова зробленых п'ес на тую ж тэматыку! Мабыць, і тэатр адчуваў, што напісаны «У ціхім завулку» — наадварот.

Спачатку А. Маўзон на хвалі тагачаснага пераадолення прыкрай «тэорыі бесканфліктнасці» меў намер вывесці на мушку выкрыцця сакратара гарадскога камітэта партыі, якому забяспечвае жыццё сумленны чыноўнік гандлёвага ведамства. А выйшла ў п'есе так, што якраз ён, Пётр Зарудны, нягоднік, казнакрад, хабарнік, разам з жонкай Таццянай Андрэеўнай звівае ў ціхім завулку ці не варожае гняздо з шыкоўнай мэбляй, з дабротамі і каштоўнасцямі, круціць інтрыгі, спрыяе прайдзісветам, здраджвае сябрам. Абрываецца кар'ера махровага падлюгі, калі ў горад прыязджае новы сакратар гаркома партыі бездакорны камуніст Іван Зарудны. Родны брат! Ён і чыніць партыйны суд над аферыстам.

Во, канфлікт дык канфлікт.

Кемлівы глядач таксама здагадваўся, што самыя амаральныя ўчынкі робяцца часцей за ўсё або самімі такімі «Іванамі», або пад іхняй апекай і абаронай. І вельмі ж смела тады прагучаў са сцэны крык Таццяны Андрэеўны: «Пеця! Гэта ж... гэта ж страшна... Ну што ты такое без партыі... Пеця!» Але, тады ў нашым грамадстве была завядзёнка: хочаш быць «чым-небудзь» ці «кім-небудзь», займей чырвоную кніжачку, галасуй, вітай, ухваляй, выкрывай, дэманструй у натоўпе такіх жа паслухмяных «Іванаў»...

Аднойчы мы з А. Маўзонам па-сяброўску спрачаліся пра нешта, і ён раптам прыгадаў Шэкспіра, які вуснамі сваіх персанажаў сцвярджаў: шаленцы, закаханыя і паэты жывяцца аднымі і аднолькавымі сокамі — сваімі летуценнямі-ўяўленнямі і фантазіяй. А людзі тэатра — абавязкова паэты ў душы, паэтычныя душы. Я не мог з ім не пагадзіцца, здагадаўшыся, куды ён хіліць, бо ведаў выказванне У. Меерхольда: калі артыст не вар'ят хоць напалову, сапраўдным творцам характва на сцэне яму не бываць! Улюбёны ў сцэну як сапраўдны шаленец, гатовы быць у тэатры хоць бы і пажарным, Арон Маўшанзон адчуваў у душы неўтаймаваную прагу творчага стасунку з тымі, хто запаўняе партэр і ложы, імкнуўся штосьці з пражытага і абдуманага давесці ў вобразнай форме да сучаснікаў і суайчыннікаў. У меру і ў сілу адведзенага яму прыродай таленту і ў меру і ў сілу свайго ўмення прабіцца з гэтым «штосьці» праз ідэалагічныя фільтры таго /!/ часу. Схематызмам грашыў. Рабіў часам чарнавыя накіды абрысаў для сцэнічных персанажаў. Выдумляў канфлікты... Але пры ўсіх выдатках сваёй творчасці ён у творчых памкненнях сваіх быў паэтам. І як паэт пакутаваў ад таго, што злачынец-час не дазваляе мастаку вымаўляць усе літары алфавіта сапраўднага мастацтва. І вымаўляў тыя, якім навучыўся пад дыктоўку таго часу.

— Я нават каменьчыкі ў рот браў, як той старажытны Дэмасфен, — прызнаваўся ён мне, калі я пераказваў яму аповяд Л. Літвінава пра яго паступленне ў студыю, — і крычаў і мармытаў з каменнем ледзь не ў глотцы. Сцэна мяне клікала. Сам не ведаю — чаму. Лічы мяне шаленцам...

Напярэдадні прэм'еры «Канстанціна Заслонава» яго запрасілі ў высокі будынак. У вузкім коле, як завуцца такія нарады, яму параілі гэта сваё «Маўшанзон» змяніць на больш гучнае і зручнае для вымаўлення. Арон, сын Восіпа, віцебскага яўрэя, выслухаў розныя прапановы. Аж да «Іванава»! І рашуча сказаў: «Калі ад гэтага залежыць прэм'ера, я выкраслю тры літары — і ні на адну болей!» Гэта была і частковая капітуляцыя, і прынцыповая пазіцыя. Сумлеву ж, з якога народа і хто былі продкі Маўзона, не магло быць. Затое ж — не «Маўшанзон»!

Такі ён, драматург А. Маўзон, мабыць, і ў сваіх п'есах.

**Барыс БУР'ЯН**

# УСПАМІН. ДЗІЧКА.

*(Пачатак на стар. 9)*

йсці ў гэтай вёсцы, якая здавалася і роднай, і чужою адначасна. Дагэтуль лічыў я яе сваёю радзімай — і ў пашпарце тое пазначана, але цяперака вочы мае і сэрца прымалі яе і не прымалі. Занадта рана, альбо занадта позна з'ехаў я адсюль. Бо горад у маёй свядомасці не мог стаць радзімай, а вёска — не паспела. Я разумею: радзіму не выбіраюць, я разумею: незалежна ад таго, прымаю яе ці не прымаю — яна ёсць, і яна — гэтая вось вёска, аднак... Лепш бы мне наогул сюды не прыязджаючь, каб не блытаць самога сябе.

Я хутка прайшоў праз вёску, не зазірнуўшы нават на вуліцу, дзе за школай, у якой некалі працавалі бацькі, павінна была стаяць нашая хата.

Вось і поле — убранае, але яшчэ не ўзаранае, шэра-жоўтае. Груша моцна пастарэла: лісцё зрэдзь плямамі зелянее між сухога галля. Час не злітаваўся і над ёю. Яна памірала... А колькі раней радзіла на ёй груш — ці не паўвёскі прыходзіла ўвосень сюды з кашалямі і мяшкамі. Мы залазілі ў самы вільчык і страсалі жоўценькія грушкі. Якія смачныя яны былі! А гнілкі! Не каштавалі мы тады ні бананаў, ні апельсінаў і тыя дзічкі-гнілкі былі для нас найсмачнейшым «фруктам». Мне захацелася зараз знайсці грушку, але ні доле, ні на галінах не было відаць ніводнай. А тады, у дзяцінстве, уся трава пад дрэвам пакрывалася дыванам з груш у некалькі сантыметраў таўшчынёю. Прыгаршчамі кідалі мы іх у кашалі і елі, елі, аб'ядаліся самі. Дзеці... Усе называюць дзяцінства вясною чалавечага жыцця, я ж прыехаў у восень, калі збіраюць плады... а пладоў няма...

Бачна было, што даўно ніхто сюды, да дзічкі, не прыходзіць. Я быццам патрапіў у старую, даўно пакінутую гаспадарамі хату. Вакол сляды запусцення, забытасці. Я адгроб апалыя сухія калючыя галіны і прысеў пад дрэвам, спінаю прытуліўся да ягоных мускулістых ног — раздвоенага дуплом камля, — заплюшчыў вочы. Добра было сядзець гэтак і нічога не думаць. Я адпачываў. Але не ад сённяшняе стомы, а ад стомы ўсіх пражытых гадоў. Цела напаўнялася лёгкасцю, я не хацеў расплюшчваць вочы, каб не пакінула мяне пачуццё палёту. Аднойчы з грушы ўпала кубло з птушанятамі, не ведаю якой птушкі. Калі мы прыйшлі гуляць у «ачко», птушаняты гучна ціўкалі, і Дзям'ян, так — Дзям'ян, які быў старэй за нас і час ад часу прыходзіў выйграваць грошы на віно, наступіў сваёй правай нагою на кубло і падавіў, расціснуў у бруд, усіх птушанят... Абарваны іх піск, піск — і адразу цішыня, як гук абарванае струны: не дзінь, а толькі дзі... — балюча прыгадаўся цяпер мне. А тады я гуляў у «ачко» як ні ў чым ні бывала. Смяяўся і спяваў — мне шанцавала — і я, здаецца, абыграў нават у той дзень самога Дзям'яна. Застаўшыся без капейкі, Дзям'ян раззлавана схапіў карты і шпурлянуў іх у дупло. Дупло... Вось яно. Яго можна дастаць рукою, памацаць яго чорнае, адпаліраванае нутро. І як мы маглі залазіць у яго, хавацца ў ім? Сюды ледзьледзь пралезе мая галава. Меншым яно, вядома, не стала. Але... Некалі і сапраўды я ў ім хаваўся. І вылазіў з другога боку... Як ільву ў пашчу, засунуў я галаву ў дупло. Пахла сырасцю, прэлым лісцём і травою. Я ўдыхнуў знаёмыя пахі і шчасліва заўсміхаўся. Гады адляцелі назад і, адданы нязнанаму даўно пачуццю, я памкнуўся наперад, палез у дупло, як той хлопчык, што некалі гуляў тут у хованкі... Раптам нешта цяжкое ўпала мне на галаву, аглушыла, пранізала розум болем. Я страціў прытомнасць, асунуўся, уткнуўся тварам у воглае лісцё і пясок на дне дупла...

* * *

«Ф'ю!..» — пад вакном пачуўся ўмоўны свіст. Потым зноў: «Ф'ю!..» Гэтак свішча Мішка Кроль — не выдзьмуваючы паветра, а ўцягваючы ў сябе. Хлопцы клічуць мяне гуляць. Пад дзічку, у хованкі. Але сёння я не пайду. Хоць і карціць паглядзець, як пужане кагосьці кавалак трактарнае гусеніцы, што падчапіў я ў дупле на ржавым дроце. Я ўявіў, як палезе ў дупло Мішка, толькі ўціснецца ў яго, і тут — «гах!» — нешта ляснецца яму пад ногі. «Воўк!» — заверашчыць Мішка і кінецца з дупла. Во смеху потым будзе... І да Мішкі пасля гэтага ўжо назаўсёды прыліпне клічка Кроль, Кролік...

Я засмяяўся сам сабе і адразу ж замоўк, нібы папярхнуўся смехам: а што калі трак упадзе не адразу, а потым, калі Мішка сцішыцца пад ім у дупле? І ўпадзе не міма, а на яго — на спіну, на нагу, на галаву... Жах! І чаму я пра гэта не падумаў раней?! Я кінуўся ўслед за хлопцамі да дзічкі.

Усе адлегласці ў дзяцінстве здаюцца доўгімі, нават кароткія. Асабліва, калі спяшаешся. І мне падалося, што бег я цэлую вечнасць. Аднак, калі я выскачыў на поле, за копамі саломы, ля грушы, нікога не было. Пахаваліся — вырашыў я, і крыкнуў: «Эй!», потым зноў: «Хлопцы!» Ніхто не азваўся. Цішыня. Я падбег бліжэй — нідзе нікога не відаць. Толькі... пад дзічкай ляжаў нейкі незнаёмы мужчына. Галава ягоная была ў дупле. Я кінуўся да яго, каб спытаць, ці не бачыў ён хлопцаў... і спыніўся напаўкроку ў жаху: галава мужчыны была разбітая той самай іржавай гусеніцай, якую я раніцай чапляў у дупле... Запеклая кроў склеіла валасы, тоўстым слоем, быццам згуслая чырвоная фарба, ляжала на твары, чырванела і на зямлі. Я патрос чалавека за плячо — ён быў мяккі, як нежывы.

За ногі я выцягнуў мужчыну з дупла і прытуліўся вухам да сэрца — яно білася. Твар чалавека падаўся мне знаёмым, недзе бачаным, і нават... падобным да майго бацькі. Але разглядваць і разважаць не было часу, трэба было ратаваць чалавека. Я кінуўся назад, у вёску, да бліжэйшае студні. Набраў вядро вады і, abломваючы пазногці і колючы пальцы, адкруціў дрот, якім было прымацавана вядро да крука. Расплёскваючы ваду на зямлю, на свае босыя ногі, я пабег да дзічкі.

Чалавек ляжаў у той жа паставе, не варушыўся і, здавалася, нат не дыхаў. Я набраў прыгаршчы сцюдзёнай вады і асцярожна выліў яму на твар, на вочы, у рот. Чалавек застагнаў. Я набраў вады і яшчэ лінуў. Мужчына трохі павярнуў галаву, але твар ягоны зморшчынеў ад болю і ён зноў абмяк. І тады я стаў раз за разам плюхаць на яго ваду з вядра. Нарэшце чалавек ажыў, павярнуў галаву, расплюшчыў вочы...

* * *

Не ведаю, колькі часу праляжаў я без прытомнасці. А, можа, і не страчваў я свядомасць, проста найшло імгненнае зацменне — на час удару. Кавалак іржавага траку — аглушыў мяне, разнёс паўгалавы. Добра, што падаў ён з невялікае вышыні. Інакш мог бы я і зусім не прачнуцца... Аднак, мусіць, усё ж я не сам апрытомнеў, мне нехта дапамог. Так, вось і твар мой мокры, і кашуля... Няўжо ад слёз? Не, здаецца, тут быў нейкі хлапчук. Я краем вока бачыў басаногага хлапчука... Ён знік за дзічкай. Гэй, мой выратавальнік, дзе ты? Ідзі сюды...

Фестывалі

# НАСТАЛЬГІЯ ПА... НОВАЙ МУЗЫЦЫ?

***Памежжа лета і восені, пачатак верасня — самая, здаецца, ціхая часіна ў мастацкім жыцці. Не сезон... Але ж хіба ў мастацтве бывае адпачынак! Ужо складзены планы канцэртна-тэатральнага жыцця, ідзе непрыкметная для староннягa вока праца па іх увасабленні. Разам з тым, асэнсоўваюцца і вынікі сезона мінулага.***

***Здаецца, гэта ж зусім нядаўна было. «Мінская вясна», камерныя праграмы якой парушылі вернікі, акупаваўшы пасля Вялікадня залу касцёла св. Роха. Чарговы фестываль старадаўняй і сучаснай камернай музыкі ў Полацку — стабільны, дыхтоўны, духоўны. З новай праграмай знанага хору пад кіраўніцтвам В. Палянскага, з першым у рамках такога фэсту сольным канцэртам арганісткі залы Сафійскага сабора К. Пагарэлай...***

***Асэнсоўваецца і падзея больш далёкая — Фестываль новай беларускай музыкі, які адбыўся ў Мінску амаль пад новы год, але вынікі якога яшчэ доўга будуць жывіць размовы-меркаванні ўсіх, каму давялося пабываць на яго канцэртах. Пра гэта сведчыць і сённяшняя згадка нашага аўтара, якую мы прапануем увазе чытачоў.***

Для таго, каб асэнсаваць нейкую важную падзею ў жыцці ды ў мастацтве, трэба паглядзець на яе з адлегласці часу. Нездарма кажуць: час — лепшы суддзя. І таму сёння, гаворачы пра Фестываль новай беларускай музыкі, не трэба спяшацца з грунтоўнымі высновамі, ставіць адзнакі, рабіць прысуды. Паспрабуем глянуць на гэтую падзею вачамі тых, хто ўпершыню трапіў на такі значны паказ сур'ёзнай беларускай музыкі.

Ці стаўся гэты фестывальны марафон /а доўжыўся ён два тыдні/ святам для іх? Адказ, безумоўна, сцвярджальны: так, таму што ў кожным канцэрце былі творы, якія прынеслі слухачам сапраўдныя адкрыцці.



*Імгненне фестывальных канцэртаў.* *Фота У. ПАНАДЫ*

Прыгадваецца першы ж фестывальны вечар. Галоўнай падзеяй на ім быў Канцэрт для цымбалаў Уладзіміра Кур'яна. Твор яркі, таленавіты, з нечаканымі эфектамі, знаходкамі ў сферы гуку, твор, які ні на хвіліну не адпускае ўвагу слухачоў. Міжволі здалося, што надалей цяжка будзе стварыць для цымбалаў штосьці больш арыгінальнае і самабытнае. Поспеху твора ў немалой ступені садзейнічала салістка Ларыса Рыдлеўская, якая грала ў той вечар надзвычай эмацыянальна, эфектна, у добрым партнёрстве з дэбютантамі сталічнай сцэны — камерным аркестрам Гарадзенскай гарадской капэлы.

А потым быў яшчэ адзін уражлівы вечар. Упершыню ў канцэртнай зале Беларускай дзяржаўнай філармоніі прагучаў Канцэрт для балалайкі і сімфанічнага аркестра Галіны Гарэлавай. Няма патрэбы дадаткова рэкамендаваць аўтара: гэта — ужо імя ў нашай музыцы. Канцэрт для балалайкі — трэці буйны інструментальны опус Г. Гарэлавай. Ці ведаюць меламаны пра існаванне твораў акадэмічнага кшталту для гэтага, здаецца, надта простага інструмента — ды яшчэ з сімфанічным аркестрам? Пытанне, бадай, рытарычнае. Бо агульнапрызнана, што балалайка добра спалучаецца з невялікім ансамблем ды яшчэ, мабыць, з аркестрам народных інструментаў. А тут — сімфанічная партытура і такая сціплая балалайка... І ўсё ж твор Г. Гарэлавай бліскуча пацвердзіў тэзіс пра тое, што для сапраўднага прафесіянала нічога немагчымага няма. У новым Канцэрце — цікавая музыканцкая ідэя, арыгінальныя знаходкі ў сольнай партыі ды ў аркестроўцы. Кампазітарка стварала яго ў творчым супрацоўніцтве з салістам Сяргеем Носавым, што, безумоўна, паспрыяла поспеху.

Сапраўдным узрушэннем для слухачоў сталася новая, 8-я сімфонія Дзмітрыя Смольскага. Знаны кампазітар сучаснасці Авет Тэртэран, які колькі гадоў таму прыязджаў на творчы форум у Мінск, адзначыў, што Д. Смольскі — безумоўны лідэр сімфанічнага жанру ў беларускай музыцы сёння. Кожная новая сімфонія кампазітара пацвярджае тыя словы. Сімфоніі Д. Смольскага — гэта драмы жыцця, якія штораз атрымліваюць непаўторнае ўвасабленне ў музыцы.

Але ў 8-й сімфоніі, бадай, упершыню гэтак блізка жыццё сутыкаецца са смерцю і, можа, упершыню так мудра і светла глядзіць кампазітар на гэтыя натуральныя стасункі вечных філасофскіх катэгорый быцця: пачатак і завяршэнне, якое зноў робіцца пачаткам. Невыпадкова ў новай працы Д. Смольскі зноў звяртаецца да самых трагічных старонак свайго любімага кампазітара — Бетховена, уплятаючы ў гукавую тканіну твора алюзіі бетховенскай музыкі, прынамсі, Алегрэта з 7-й сімфоніі. Невыпадковы і зварот да паэзіі майстра XX стагоддзя Іосіфа Бродскага, чые вершы звязваюць часткі сімфоніі між сабой. Але музыка не ілюструе паэзію, яна зліваецца з ёю — вершы вельмі натуральна пераходзяць у музыку, а музыка ўліваецца ў вершы, якія ўзмацняюць велізарную эмацыянальную напоўненасць 8-й сімфоніі.

Фестываль новай беларускай музыкі быў адметны, бадай, тым, што ў яго канцэртах упершыню так поўна была паказана нацыянальная кампазітарская школа ва ўзаемасувязях настаўнікаў і вучняў, у сутыкненні розных стыляў. Сталыя майстры й моладзь, аб'яднаўшы вопыт і пошукі, многае могуць зрабіць для еўрапейскага прэстыжу нашай музыкі, якая, мяркуючы па фестывальных залах, пачынае выклікаць слухацкую цікавасць «у сябе дома».

Падчас фестывалю давялося па-новаму паглядзець на, здавалася б, даўно вядомае. Уразіў твор старэйшага нашага кампазітара Анатоля Васільевіча Багатырова — Саната для кантрабаса. Твор высакароднага гучання, сёння папулярны не толькі ў нашай рэспубліцы, успрымаецца ён не як нейкая архаіка ці закасцянелая класіка, а як жывы голас дня сённяшняга.

Прызнаны майстра камерных жанраў Эдзі Тырманд зрабіла слухачам прыемны сюрпрыз: на фестывалі гучала яе фартэпіянная саната, яркая па музычных вобразах, віртуозная па фактуры, бліскуча выкананая Зояй Качарскай.

А з найбольш маладых аўтараў вылучыўся, на маю думку, Аляксандр Літвіноўскі, у творчасці якога арганічна спалучаюцца цікавасць да беларускай даўніны ды імкненне асэнсаваць яе з пазіцый чалавека XX стагоддзя, скарыстоўваючы вострасучасныя сродкі выразнасці. Ягоны твор — містэрыя для баса, сімфанічнага аркестра ды аргана «Францыск» — напісаны ў 1990 г. Але толькі на Фестывалі новай беларускай музыкі слухачы пачулі прэм'еру гэтага неардынарнага музычнага палатна, «ажыўленага» Акадэмічным сімфанічным аркестрам пад кіраўніцтвам Віктара Дуброўскага і салістам Алегам Гардынцом.

Зразумела, я згадала тут сёння далёка не ўсе творы, якія ўразілі або проста звярнулі на сябе ўвагу слухачоў. Думаю, і гэтай згадкі дастаткова, каб пераканацца: пры ўсіх арганізацыйных недахопах і непаразуменасцях, якія выявіліся падчас фестывалю, ён усё ж стаўся прыкметнай з'явай у культурным жыцці Беларусі. Такія форумы неабходныя для руху нашай музыкі да ўзбагачэння і абнаўлення.

**Таццяна ПЕСНЯКЕВІЧ**

# САЛАМЯНЫ ГЕРБ РЫС-АРАНЖЫСА

## З ЖЫЦЦЯ ЭМІГРАНТАЎ «ЧАЦВЁРТАЙ ХВАЛІ»

Гарадок з экзатычнай для нашага слыху назвай — Рыс-Аранжыс — адзін з жывапісных куткоў Францыі, знаходзіцца за трыццаць кіламетраў ад Парыжа на старой каралеўскай дарозе, што вядзе ў Фантэнбла. Яго старадаўні герб з каронай-крэпасцю і незвычайнай для геральдыкі кіпцюрастай сакалінай лапай, відаць, бачыў на сваім вяку нямала. Цяпер герб Рыс-Аранжыса сплецены з... беларускай саломкі. Саломка, вырашчаная на беларускай зямлі, пад яе няяркім сонцам, рэльефна вылучаецца складаным пляценнем на традыцыйна чырвоным і зялёным фоне герба, складваецца ў завіткі лацінскіх літар.

Яшчэ некалькі гадоў назад, прачытаўшы такую інфармацыю, можна было б падумаць: Рыс-Аранжыс стаў пабрацімам аднаго з беларускіх гарадоў і атрымаў такую выяву свайго герба ў падарунак ад афіцыйнай дэлегацыі. Аднак час разбурае стэрэатыпы. Кантакты з замежжам ажыццяўляюцца ўжо не толькі на афіцыйна-дзяржаўным, але і на гуманітарным узроўні. У мастакоўскім асяроддзі нярэдка цяпер можна пачуць чыёсьці імя ў спалучэнні з чужой геаграфічнай назвай: у таго выстаўка ў Берліне, той жыве ў Лондане, другі — у Парыжы. Нашы мастакі пачынаюць асвойваць культурную прастору Захаду, уносяць беларускую мелодыю ў поліфанію яго інтэрнацыянальнага мастацтва.

У гісторыі мастацтва заўсёды застанецца назва парыжскага Манмартра, які сабраў у пачатку стагоддзя на сваіх вулачках бліскучую плеяду буйнейшых мастакоў сучаснасці. Парыж, як і раней, вабіць да сябе мастакоў з усяго свету. Але сёння яны нярэдка перабіраюцца з цэнтра ў прадмесці і прыгарады — жыццё ў вялікім горадзе дарагое.

Рыс-Аранжыс — адна з такіх прыцягальных мясцін. Ён вядомы сваім эксперыментальным і адзіным у Францыі культурна-мастацкім Цэнтрам. Цэнтр — гэта старадаўнія пабудовы, што ўзвышаюцца на жывапісным беразе Сены, абнесеныя высокім парканам. Дзесяць гадоў назад гэтыя пустэльныя будынкі, што ў мінулым стагоддзі былі бісквітнай фабрыкай, а ў пачатку нашага стагоддзя — казармамі, сталі прыцягваць пад свой дах мастакоў, музыкантаў, вандроўных цыркавых артыстаў. Ангары былі прыстасаваны для правядзення музычных канцэртаў, іншыя пабудовы — для студый гуказапісу і атэлье мастакоў, скульптараў. Сюды пацягнулася моладзь з Парыжа і навакольных мястэчак.

У першую нядзелю кожнага месяца сюды з'язджаюцца на жывапісны «блышыны рынак» аматары антыкварыяту і проста пакупнікі танных рэчаў. Па традыцыі ў гэты дзень мастакі з Рыс-Аранжыса наладжваюць выставу пад адкрытым небам і адчыняюць дзверы сваіх атэлье. Наведвальнікі могуць пагаварыць з гаспадаром, выпіць з ім кубачак кавы, купіць упадабаную карціну. Майстэрні тут плаўна пераходзяць у жыллё, кватэры — у выставачныя залы, калідоры і лесвіцы становяцца экспазіцыйнай прасторай. Тут няма межаў, бо для насельнікаў жыццё — гэта творчасць, а творчасць — гэта жыццё.

Мастакі, што жывуць у гарадку, аб'ядналіся ў групу з назвай «Руш», што ў перакладзе з французскай азначае пчаліны рой. У групу ўваходзяць тры французы, адзін кітаец і тры нашы суайчыннікі — беларусы. Адным з заснавальнікаў групы з'яўляецца Мікалай Паўлоўскі.

Два гады прыязджае сюды з Мінска працаваць Тамара Паўлоўская. У канцы сёлетняга года ў адной з галерэй Парыжа павінна адкрыцца яе выстаўка. Удалечыні ад айчынных праблем, ад пісаных і няпісаных правілаў мастацтва, ад звыклага падзелу яго на прафесійнае і народнае, на станковае і дэкаратыўнае, Паўлоўская стварае там свае новыя работы. У іх спалучаецца — аказваецца, гэта спалучаема — пляценне, жывапіс, жывапісны рэльеф. Але гаварыць пра гэта, пакуль не было прэм'еры, яшчэ рана.

А вось саламяны герб Рыс-Аранжыса, сплецены рукамі патомнай беларускай саломапляцельшчыцы, увасоблены на паштоўцы, што выдадзена мэрыяй гарадка. Ідэя выдаць паштоўкі з відамі гарадка належала мастакам «Руша». Яе падтрымалі гарадскія ўлады. Ніякіх абмежаванняў у выбары матэрыялаў не было. Частку работ мэрыя набыла, у тым ліку пейзаж Мікалая Паўлоўскага з відам будынка мэрыі. Паштоўкі, што былі надрукаваны на сродкі ўладаў, цяпер можна набыць у гэтым гарадку як сувеніры. Яны маюць попыт у турыстаў і саміх гараджан. Кожны з мастакоў атрымаў ад мэрыі ў падарунак па важкім пакеце паштовак. Акрамя таго, сёлета мэрыя выдала буклет, дзе прадстаўлены мастакі, якія жывуць у Рыс-Аранжысе.

Цывілізаваныя адносіны гарадскіх уладаў з мастакамі і іншымі вольнымі артыстамі, што ўсталяваліся ў Рыс-Аранжысе, складваліся не проста і не адразу. Цяпер уладальнікі калісьці самавольна занятых пад майстэрні памяшканняў плацяць невялікую, хутчэй сімвалічную, арэндную плату, за імі агаворваецца права на доўгатэрміновую арэнду. Гэта прываблівае і мецэнатаў, якія ўкладаюць сродкі ў рамонт будынкаў, дапамагаюць мастакам, у прыватнасці, такім арыгінальным спосабам, як прадастаўленне іх карцін у арэнду фірмам, прадпрыемствам для афармлення офісаў. На прыватныя сродкі выдадзены невялікі каталог работ групы «Руш». Акрамя таго, мастакі атрымліваюць грашовую дапамогу, бясплатныя абеды. Гэта дазваляе творчым людзям свабодна займацца мастацтвам, не думаючы штодня пра хлеб надзённы.

Культурна-мастацкі Цэнтр у Рыс-Аранжысе, які склаўся спантанна, уяўляе сабой сёння свабодную камуну творчых людзей розных прафесій у мастацтве. Тут ёсць свая дырэкцыя, бюро, куды ўваходзяць выбраныя прадстаўнікі ўсіх творчых спецыяльнасцей. Яны ажыццяўляюць самакіраванне і кантакты з мясцовымі ўладамі. У Цэнтры нават выдаецца свая ўласная газета. Гэты Цэнтр будзе развівацца, нягледзячы на крызіс, які ахоплівае эканоміку Францыі. Улады будуць укладаць у яго сродкі, таму што бачаць у ім магчымасць згладзіць некаторыя сацыяльныя праблемы, звязаныя з беспрацоўем, з арганізацыяй адпачынку моладзі.




*Саламяны герб Рыс-Аранжыса, зроблены Тамарай ПАЎЛОЎСКАЙ.*

*Фота А.ІЛЛІНА*

Вопыт гуманных, цывілізаваных адносін грамадства да сваіх грамадзян, да людзей свабодных творчых прафесій цікавы і для нас. Аднак у нашай краіне, дзе яшчэ так многа іншых нявырашаных і вострых праблем, цэнтральныя і мясцовыя ўлады наўрад ці да яго звернуцца. На жаль, гэта разумеюць і самі мастакі, якія хацелі б убачыць свае творы на выставах, у музеях, на старонках якасна выдадзеных каталогаў. Гэта ўжо чацвёртая хваля, што нясе ў заходнім напрамку таленты, мастацкія каштоўнасці, і зваротнай сілы яна не мае.

**Вольга ЛАБАЧЭЎСКАЯ**

# БЕЛАВЕЖСКАЯ ПУШЧА

*(Пачатак на стар. 5)*

а беларускі бок, ведама ж, будзе толькі зазіраць ім у рот.

* * *

Ельцынскі «Ту» прызямліўся ў аэрапорце «Мінск-2» у 9 гадзін 25 хвілін 7 снежня. Хлеб-соль, іншыя пратакольныя атрыбуты — і вось картэж лімузінаў імчыць у горад.

Імчыць — гэта, дарэчы, не дзеля прыгожага слоўца сказана. Барыс Мікалаевіч бы ілюструе сваёй асобай крылатую гогалеўскую фразу — «и какой же русский не любит быстрой езды!» Што ж, калі госцю так падабаецца...

А ўвогуле Шушкевіч, аўтааматар са стажам, аддае на дарозе перавагу іншаму прынцыпу: цішэй едзеш — далей будзеш...

І гаворка іх з самага пачатку бы адлюстравала гэтую розніцу натур. Ельцын адразу ж даў зразумець, што ён і ягоная «каманда» — у самым баявым настроі. Трэба секчы гордыеў вузел, безнадзейна заблытаны Гарбачовым, неабходна моцная альтэрнатыва няўклюдна прыхарошваемай імперскай канцэпцыі Саюзнага дагавора. Добра, заўважаў ягоны субяседнік, але ці можна спадзявацца, што Краўчук увогуле пойдзе на нейкую форму аб'яднання нашых рэспублік? А калі ён катэгарычна запярэчыць?

Гэта нагадвала дзелавую гульню на тэму: «Як зацікавіць украінскага прэзідэнта?» Ягоны самалёт прыбываў у аэрапорт праз некалькі гадзін. (Дарэчы, у першыя ж хвіліны пасля прызямлення Краўчук яскрава прадэманструе сваю пазіцыю перад прэсай, адказваючы на пытанне, ці не ўгавораць-такі Украіну ўступіць у Саюз: «Ніхто нікога не можа ўгаварыць... Калі можна ўгаварыць Краўчука, то нельга ўгаварыць украінскі народ»).

Рэшту часу да прылёту Краўчука занялі афіцыйныя мерапрыемствы, дзеля якіх, згодна з версіяй для прэсы, і прыбыў сюды маскоўскі госць. Ельцын і Шушкевіч абмяняліся ратыфікацыйнымі граматамі ў сувязі з дагаворам паміж Расіяй і Беларуссю, падпісалі пагадненне аб прынцыпах гандлёва-эканамічнага супрацоўніцтва дзвюх дзяржаў. Расійская дэлегацыя ўсклала вянок да абеліска Перамогі на аднайменнай мінскай плошчы. За цырымоніяй з цікаўнасцю назірала даволі шматлюднае кола сталічных жыхароў: не кожны дзень выпадае пабачыць «жывога Ельцына». Вакол яго тады яшчэ ярка ззяў арэол жнівеньскай славы, калі, стоячы на танкавай вежы, расійскі лідэр патэтычна клікаў масквічоў на змаганне з путчыстамі. Тыя кадры ўбачыла на тэлеэкранах уся краіна. Пройдзе яшчэ нямала часу, перш чым жнівеньскія падзеі згубяць першапачатковую чорна-белую трактоўку і шмат кім пачнуць пераасэнсоўвацца, а сам Барыс Мікалаевіч атрымае не адзін балючы ўдар па рэпутацыі героя-дэмакрата...

А тады, 7 снежня, у Ельцына выдаўся пасля афіцыйных мерапрыемстваў невялікі «тайм-аут», і ён накіраваўся ва ўрадавую рэзідэнцыю ў Заслаўе, што паблізу ад Мінска.

Шушкевіч жа тым часам спяшаўся зноў у аэрапорт «Мінск-2», дзе вось-вось павінен быў прызямліцца самалёт украінскага прэзідэнта.

Краўчук, выслухаўшы прапановы, адразу ж прадэманстраваў дзелавы настрой: нашто гуму цягнуць, Станіслаў Станіслававіч — вось наш самалёт, «на ўсіх парах», месцаў хопіць, сядайце разам са сваімі памочнікамі ды і махнём адразу на Брэстчыну, а Барыс Мікалаевіч дагоніць...

Побач стаяў і беларускі «Як-40», але сапраўды: нашто марнаваць час ды адмаўляцца ад магчымасці лішніх паўгадзіны пагутарыць з Краўчуком на борце ягонага лайнера па дарозе ў Віскулі?

## АДСТУПЛЕННЕ. АЎТАРСКІ «ДОПЫТ»

*(люты 1993 г.)*

**— Ці прадбачылі Вы напярэдадні, што сустрэча ў Віскулях можа завяршыцца менавіта такімі радыкальнымі рашэннямі: вынесці бязлітасны «прысуд» старому Саюзу і ўтварыць Садружнасць трох дзяржаў, пакінуўшы Гарбачова «па-за гульнёй»?**

*— Калі зусім шчыра, то я на такое не разлічваў, дакладней — не спадзяваўся. Безумоўна, адчуваў, што Ельцын гатовы да самых рашучых крокаў у гэтым кірунку. Але ж вы памятаеце, якое рэха даносілі тады сродкі масавай інфармацыі з Украіны: толькі канчатковае аддзяленне, толькі поўная самастойнасць! І чакаць ад Краўчука той пазіцыі, якую ён у рэшце рэшт заняў у Віскулях, я, прабачце, не мог. Гэта было для мяне нечаканасцю. Гэта змяніла ўвесь падыход да справы.*

**— Цяпер хто-ніхто з палітыкаў і газетных каментатараў сцвярджае: Шушкевіч, маўляў, толькі воляй абставін апынуўся ў кампаніі двух зацятых праціўнікаў Гарбачова, якія даўно марылі яму «насаліць», і мусіў падпарадкавацца іх націску...**

*— Нагадаю: да таго часу я толькі тры месяцы быў на пасадзе Старшыні Вярхоўнага Савета. Безумоўна, у сэнсе палітычнага вопыту ні з Ельцыным, ні з Краўчуком цягацца не мог. І адчуваў, што трохі не «дарос», каб такія крокі прапаноўваць. Я абмежаваўся б, напэўна, меншымі вынікамі. Ну, а тыя два прэзідэнты прадэманстравалі гатоўнасць ісці далей. Так што — скажу шчыра — рашучасцю сваёй яны тады мяне пераўзыходзілі. Хоць чыста лагічна перад сустрэчай я выводзіў тую ж выснову: далей цягнуць немагчыма... І ўжо дарогай у Віскулі адчуў: адным камюніке, адной канстатацыяй сваіх поглядаў на сітуацыю мы не абмяжуемся.*

**— Вы не баяліся абвінавачванняў у змоўніцтве, у вераломстве, якія ў рэшце рэшт і абрынуліся з вуснаў палымяных змагароў за аднаўленне «адзінага і магутнага» Савецкага Саюза?**

*— Не, у мяне было адчуванне, што мы маем маральнае права на такія рашэнні, што мы робім адзіна магчымыя ў такіх варунках захады, каб захаваць цывілізаваныя кантакты паміж нашымі краінамі, перавесці іх гістарычныя сувязі на новую, сапраўды справядлівую падставу. Сёння ад многіх чуеш: СНД сябе не апраўдала! Але хто можа сцвярджаць, што без СНД было б лепей, што мы не дакаціліся б да югаслаўскага варыянту распаду ўнітарнай дзяржавы?*

**— І што, сапраўды, там, у Віскулях, вы фармулявалі дакументы экспромтам, маючы перад сабой толькі чысты стос паперы? Няўжо ў Ельцына, напрыклад, не было нейкіх папярэдне падрыхтаваных «шпаргалак»?**

*— Калі што і было, то я, ва ўсякім разе, гэтага не прыкмеціў і дагэтуль веру, што ўсё фармулявалася менавіта там, у Віскулях. Хіба што тэзіс аб дэнансацыі Саюзнага дагавора 1922 года быў падрыхтаваны расійскай дэлегацыяй загадзя. Я гэта адчуў па выказванні расійскага дзяржсакратара Генадзя Бурбуліса адразу ж, калі пачаўся наш дыялог.*

* * *

У поўным складзе дэлегацыі сабраліся ў віскулёўскай рэзідэнцыі вечарам 7 снежня. Апошняй, ужо зацемна, прыехала расійская. За вячэрай гаварылі аб усім, акрамя таго, дзеля чаго сюды з'ехаліся. Хоць, бадай, кожны ўжо выразна адчуваў: пачынаецца падзея, рэха якой прагучыць сапраўдным выбухам не толькі ў Крамлі, але і ва ўсім свеце.

Між тым абслуга ўрадавай рэзідэнцыі звыкла забяспечвала традыцыйную праграму прыёму высокіх гасцей. За мінулыя гады іх тут перабывала досыць. Кіраўнікі камуністычнай Беларусі любілі здзівіць «важных птушак» з Масквы ці з-за мяжы казачнай патрыярхальнай веліччу гэтага запаведнага кутка Беларусі: векавыя дрэвы, волаты-зубры, неверагодны, першабытны спакой дрэмлючай прыроды... Мусіць, гэткім жа непахісным здаваўся і той лад рэчаў, за які неаднойчы ўздымалі келіхі ў гэтай рэзідэнцыі яе ранейшыя гаспадары і госці. І, вядома ж, нікому з іх нават у благім сне не магло прымроіцца, што некалі менавіта тут збяруцца людзі, што наважацца паставіць кропку ў гісторыі непераможнай, непахіснай, як падавалася, супердзяржавы.

А знешне ўсё тут выглядала напачатку зусім як у ранейшыя часы. Адмыслова дастаўлены з Мінска шэф-кухар шчыраваў над апетытнымі стравамі, якія потым увішна падхоплівалі афіцыянткі, і ўжо былі акуратна складзены камплекты паляўнічай амуніцыі: ну хто ж, трапіўшы ў Белавежу, адмовіцца ад спакусы ўласнаручна заваліць лютага клыкастага дзіка?

Егераў, аднак, чакала лёгкае расчараванне. Большасці гасцей тым вечарам было зусім не да палявання. Сумесная мазгавая атака ішла да глыбокай ночы. Пасля таго як лідэры паразумеліся ў галоўным, іх «каманды» адпрацоўвалі чарнавыя варыянты дакументаў.

Раніцай 8 снежня справу ўзяла ў свае рукі шасцёрка кіраўнікоў: ад Расіі — Ельцын і Бурбуліс, ад Украіны — Краўчук і прэм'ер Фокін, ад Беларусі — Шушкевіч і Старшыня Савета Міністраў Кебіч. Выбралі найбольшае ў рэзідэнцыі памяшканне — більярдную залу на першым паверсе. Туды хуценька зацягнулі чатыры сталы, саставілі іх у «карэ», накрылі абрусам. Адсунутыя ўбок більярдныя сталы таксама аказаліся дарэчы: на іх раскладвалі розныя «дапаможныя» паперы, чарнавікі... Па суседству, за дзвярыма, ля якіх застылі двое мажных ахоўнікаў, знаходзіліся астатнія члены дэлегацый. Раз-пораз даводзілася запрашаць у більярдную залу то Гайдара, то Шахрая, то беларускага міністра замежных спраў Краўчанку, то яшчэ кагосьці: трэба яшчэ падумаць вось над гэтым абзацам, абмазгаваць вось гэтую фармулёўку — падключайцеся да справы... Лісты паперы з накідамі тэкстаў качавалі міма ахоўнікаў то туды, то сюды. Афіцыянткі ледзь паспявалі падносіць каву і мінералку. У рэшце рэшт у більярдную залу праплыў паднос з келішкамі малдаўскага каньяку. Гэты было тады, калі «шасцёрка» адчула: галоўныя, ключавыя думкі, можна лічыць, ужо адчаканены па ўсіх канонах. «Што ж, мы, бадай, і сапраўды заслужылі нешта трохі мацнейшае за каву!» — усміхнуўся хтосьці. Вядома, дозы выглядалі зусім сімвалічнымі: наперадзе чакаў яшчэ кавалак працы. (Потым, дарэчы, «алкагольны» аспект белавежскай сустрэчы стане адной з улюбёных тэм для найбольш зацятых нядобразычліўцаў: маўляў, трэба было няйначай як у сцельку набрацца, каб гэткае сатварыць!)

Тым часам па калідорах рэзідэнцыі, апасліва касавурачыся на ахоўнікаў, нецярпліва кружылі некалькі цудам трапіўшых сюды з Мінска журналістаў. Прафесійны нюх падказваў: будзе нешта так-о-о-е!.. Адзін з іх крадком зазірнуў праз нечае плячо ў толькі што аддрукаваную машыністкай паперчыну: «Саюз СССР... спыняе сваё існаванне». Аж дух заняло: нічога сабе «заявачкі»!

Між тым у фае перад більярднай залай адчулася нейкае ажыўленне. Доўгі стол аздобілі мініяцюрнымі дзяржаўнымі сцяжкамі трох краін. Журналісты імгненна занялі пазіцыі побач і літаральна свідравалі поглядамі дзверы більярднай залы.

Вось яны нарэшце расчыняюцца. Першы выходзіць Ельцын, за ім — астатняя пяцёрка. Садзяцца за стол і ставяць подпісы пад галоўным дакументам сустрэчы. Спахапіўшыся, мінскі газетчык фіксуе для гісторыі час падзеі — 14 гадзін 17 хвілін 8 снежня 1991 года.

Праз колькі часу кіраўнікі трох дзяржаў падымуцца на другі паверх, у апартаменты Ельцына, і Шушкевіч патэлефануе Гарбачову...

* * *

У свой час ён, Шушкевіч, тады яшчэ проста прафесар-фізік, перажыў перыяд сапраўднага, шчырага захаплення новым савецкім лідэрам, фігура якога так кантраставала з абліччам ягоных крамлёўскіх папярэднікаў — знясіленых старэчымі хваробамі людзей, што адзін за адным сыходзілі ў магілу напачатку 80-х: Брэжнеў, Андропаў, Чарненка...

У красавіку 85-га ў цяжкой, гнятучай, бы наскрозь прасякнутай тым могілкавым пахам атмасферы жыцця велізарнай краіны выразна адчуліся свежыя павевы. Газетчыкі, праўда, хутка зашмальцуюць да брыдоты метафару «красавіцкі вецер перамен», ды і самі перамены набудуць у вачах многіх жахлівы, катастрафічны выгляд, — але тады, на самым пачатку, утапічныя лозунгі перабудовы, рэфармавання камуністычнай сістэмы сапраўды заваражылі, ап'янілі — перш за ўсё інтэлігенцыю — салодкай мрояй пра новы, «гуманны» сацыялізм.

Ды што там казаць, калі пасля эпохі панавання «крамлёўскіх дзядоў» сапраўдны фурор рабіла ўжо адно тое, што новы генеральны сакратар ЦК КПСС гаворыць без паперкі і без рызыкі згубіць пры гэтым штучную сківіцу!

Пройдзе даволі шмат часу, перш чым прамовы Гарбачова пачнуць выклікаць у савецкіх грамадзян напачатку лёгкае, а затым усё нарастаючае раздражненне, бо з удасканаленнем ягонага красамоўства справы ў падначаленай яму дзяржаве будуць ісці ўсё горай і горай...

Шушкевіч жа ўпершыню зірнуў на Гарбачова іншымі вачыма пасля жахлівых дзён вясны 86-га, калі чарнобыльскі выбух абсыпаў Беларусь смяротным радыеактыўным попелам. Генсек ЦК КПСС, безумоўна, быў да драбніц інфармаваны аб жудасных масштабах трагедыі. Але мужнасці сказаць усю праўду так і не знайшоў: выступаючы неўзабаве па цэнтральнаму тэлебачанню, настойліва даводзіў, што ніякай небяспекі, можна лічыць, няма... Ужо каго-каго, а фізіка-ядзершчыка Шушкевіча такія заявы ўвесці ў зман не маглі. Ён выдатна ўяўляў, што здарылася на справе, як добра ведаў і тое, што многія наступствы можна было прадухіліць элементарнымі экстранымі захадамі (каб людзі, напрыклад, пілі для прафілактыкі ёд, які абараняе ад нуклідаў шчытападобную залозу, ушчыльнілі вокны і дзверы, па магчымасці не выходзілі на вуліцу). І грунтоўныя, падрабязныя інструкцыі на гэты конт меліся ва ўсіх штабах грамадзянскай абароны. Аднак час быў злачынна змарнаваны, бо там, на камуністычна-дзяржаўным Алімпе, найперш захваляваліся не пра лёс мільёнаў ахвяр чарнобыльскага выбуху, а, як заўсёды, пра імідж Сістэмы, пры якой, згодна са шматгадовай афіцыйнай міфалогіяй, ніякіх катастроф проста быць не можа...

Менавіта тады, у першыя дні, людзей зноў прынеслі ў ахвяру традыцыйнай Вялікай Ілжы. І беларускія, украінскія, расійскія дзеці бесклапотна корпаліся ў пяску, размахвалі чырвонымі сцяжкамі, седзячы на таткавых плячах падчас першамайскіх дэманстрацый (дні стаялі такія цёплыя, пагодлівыя, і ўсіх так цягнула на вуліцу!), — а на іх усё сыпаўся і сыпаўся нябачны радыеактыўны пыл, што праз некалькі гадоў абернецца для многіх агоніяй на ложку анкалагічнага дыспансера...

Пазней, стаўшы народным дэпутатам СССР, Шушкевіч убачыў яшчэ шмат з таго, што не даносілі да мільёнаў радавых грамадзян тэлекамеры, усталяваныя ў Крамлёўскім Палацы з'ездаў, — вытанчаную закулісную механіку выкручвання рук, жорсткага ціску на дэмакратычную апазіцыю, на тых людзей, што напачатку так шчыра паверылі Гарбачову і якіх ён потым, калі прастора для кампрамісаў паміж рэфарматарамі і артадоксамі пачала катастрафічна звужацца, усё часцей і часцей з'едліва называў «так званымі дэмакратамі», раз за разам усё выразней ад іх адмяжоўваючыся. Не дадало сімпатый да Гарбачова і ягонае спантаннае, няўзважанае абяцанне Захаду ў нерэальна імклівым тэмпе вывесці савецкія войскі з краін былога «сацыялістычнага лагера». Бо расплачвацца за наступствы гэтага шырокага жэста давялося найперш менавіта Беларусі, і без таго самай мілітарызаванай савецкай рэспубліцы, куды хлынулі з захаду новыя палкі і дывізіі — тысячы ды тысячы людзей у пагонах, што, як і ўсе астатнія смяротныя, хочуць есці і мець дах над галавой.

Ну, і, нарэшце, — тая восень 91-га, калі новаспечаны кіраўнік беларускага парламента адчуў на пасяджэннях Дзяржсавета ў Маскве ўсю моц гарбачоўскага прэсінгу, накіраванага на тое, каб падмяць волю астатніх і навязаць-такі свой варыянт аб'яднання рэспублік. Дзяржсавет патрэбен быў яму толькі як шырма для



*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

ўзаемаадносінах станавілася ўсё шырэйшай. А паміж Віскулямі і Крамлём была ўжо непераадольная бездань...

* * *

Тых, хто заседзеўся ля тэлеэкранаў позна вечарам 8 снежня, адначасова бы тарганула электратокам. Імгненна зляцела дрымота, людзі ўскоквалі з канап, каб пабольшаць гук...

Беларускае тэлебачанне паведамляла пра вынікі белавежскай сустрэчы.

Фразы, што гучалі з тэледынамікаў, шмат каму падаваліся ірэальнымі, фантастычнымі, іх сэнс ніяк не хацеў укладвацца ў свядомасці. Саюза больш няма... створана Садружнасць трох незалежных дзяржаў... каардынацыйны цэнтр — Мінск.

Безумоўна, тое, што стары, збудаваны па сталінскай мадэлі Саюз асуджаны, тады ўжо разумелі, бадай, усе. Але мала хто мог прадбачыць, што разрыў з мінулым будзе менавіта такім — маланкавым, дзёрзкім, ашаламляльным...

І няўжо Гарбачоў капітулюе? Хто-ніхто апасліва адсоўваў фіранку: можа, ужо выязджаюць на вуліцы бронетранспарцёры?

Шушкевіч вярнуўся ў Мінск апоўдні 9 снежня. Журналісты ўжо каравулілі літаральна ля трапа. Далажылі: у замежных сродках масавай інфармацыі — натуральны фурор, «радыёгаласы» і тэлетайпныя стужкі няспынна даносяць усе новыя заявы палітыкаў і каментарыі экспертаў, дзе вылучаецца нота трывогі за магчымае развіццё падзей...

Шушкевіч выглядаў спакойна і ўпэўнена:

— Ці так драматычна, як гэта бачаць за мяжой, пагадненне змяняе сітуацыю ў краіне і ў свеце?.. Нам неабходна было знайсці дастойны варыянт для таго, каб, атрымаўшы сапраўдную суверэннасць, не раз'ядноўвацца граніцамі, праводзіць самастойную, але ўзгодненую з суседзямі палітыку. Вы ведаеце, што ў апошні час сітуацыя ў краіне стала крытычнай. Народ Украіны адназначна выказаўся за незалежнасць. Расія абнародавала сваю праграму жорсткіх эканамічных рэформ, якія не могуць не закранаць інтарэсы яе суседзяў... Думаю, не толькі мяне хвалявала пытанне: ці можна зрабіць так, каб не ўзводзіліся агароджы паміж Беларуссю і Украінай, Беларуссю і Расіяй? Мы, здаецца, знайшлі адказ і на гэта пытанне... У нас ёсць вера і надзея, што да гэтага пагаднення далучацца іншыя рэспублікі... Мяркуем, што да яго могуць далучыцца і тыя дзяржавы, якія не былі суб'ектамі былога СССР.

Праз колькі часу, перачытваючы гэтае інтэрв'ю, надрукаванае ў беларускай прэсе пад гучным загалоўкам «36 гадзін, якія ўскалыхнулі свет», ён з сумнаватым гумарам зазначыць: і нас тады не абмінула бальшавіцкая мроя пра «сусветную рэвалюцыю»! Прыбалтыка, нягледзячы на ўсе захады, ідэяй далучэння да Садружнасці не загарыцца. Ды і ўнутры СНД справы пойдуць не так гладка, як хацелася. Расія і Украіна пачнуць зацята, абменьваючыся пагражальнымі заявамі палітыкаў, спрачацца за Чарнаморскі флот, потым — за лёс размешчанай на Украіне ядзернай зброі былога СССР. На межах рэспублік стануць паспешліва будавацца мытні, а друкарскія станкі пачнуць тыражаваць сурагаты нацыянальных валют — украінскія карбованцы, беларускія рублі-«зайчыкі», кыргызскія сомы... Паміж краінамі СНД будуць падпісвацца ўсё новыя эканамічныя пагадненні, але колькасць гэтых дакументаў упарта не захоча пераходзіць у іх якасць. І раз за разам Шушкевічу давядзецца трываць жорсткія, бязлітасныя ўдары апанентаў — тых, каму менавіта белавежскія рашэнні пададуцца той скрыняй Пандоры, адкуль раптам пасыпаліся ўсе беды. Ашалеламу ад дарагоўлі і чэргаў у крамах простаму люду будуць нагадваць пра танную каўбасу і гарэлку часоў СССР. А купка камуністаў, сабраўшыся ў пушчы ў гадавіну сустрэчы трох лідэраў, з імпэтам заб'е ў зямлю тры асінавыя калы...

Ну, з тымі, урэшце, усе зразумела. Куды больш крыўдна будзе, што і многія дэпутаты беларускага парламента хутка забудуцца, як дружна прагаласавалі яны ў свой час за ратыфікацыю падпісанага іх кіраўніком пагаднення, і ператворацца ў яго гнеўных крытыкаў.

А ў той дзень, 10-га снежня, Шушкевіч і сам не чакаў, што справа вырашыцца гэтак імкліва. Спадзяваўся на трохі іншы, больш «лагодны» варыянт: калі ўдасца пераканаўча давесці парламентарыям сэнс белавежскага кроку, то Вярхоўны Савет адобрыць асноўныя палажэнні пагаднення і даручыць сваім камісіям дапрацаваць дэталі, каб потым ужо зрабіць канчатковы разгляд. Але абмен думкамі напачатку ў кулуарах, а потым і на парламенцкім пасяджэнні засведчыў нечакана рашучы настрой дэпутатаў: калі ўжо наважыліся на галоўнае, дык ці варта, маўляў, секчы хвост у некалькі прыёмаў — давайце ўжо адным махам!

Вынікі галасавання выглядалі эфектна: за ратыфікацыю — 263, устрымаліся — 2, супраць — толькі 1.

То быў, бадай, момант, калі прадстаўнікі самых розных парламенцкіх плыняў фенаменальна сышліся на глебе агульнай незадаволенасці палітыкай Гарбачова. Калі нацыянальна-дэмакратычная апазіцыя, напрыклад, націскаючы кнопкі галасавання, з асалодай помсціла прэзідэнту СССР за ягоныя імперскія амбіцыі, то носьбіты артадаксальных, кансерватыўных поглядаў разлічваліся такім чынам за ягоную «здраду справе КПСС», за абрыдлую нерашучасць, палавіністасць у барацьбе супраць «сепаратыстаў» і ўвогуле «так званых дэмакратаў». Тыя, хто марыў пра рэванш за страту «сацыялістычных заваёў», употай разважалі, відаць, што не бывае ліха без дабра: калі ўжо Цэнтр не здолеў гэтыя заваёвы абараніць, то, можа, якраз суверэнітэт дазволіць стаць гаспадарамі становішча ў асобна ўзятай невялікай рэспубліцы, дзе ўсё знітавана старымі наменклатурнымі сувязямі. Між іншым, далейшая хада падзей пакажа, што спадзяванні тыя былі не такімі ўжо і беспадстаўнымі. Магутнае кансерватыўнае лобі, адчуўшы ў парламенце сваю сілу, будзе не аднойчы зводзіць на нішто намаганні рэфарматараў, «выкручваць рукі» Старшыні...

Тады ж, 10 снежня, быў поўны трыумф Шушкевіча. На працягу дня ён раз-пораз звязваўся па тэлефоне то з Масквой, то з Кіевам, і тое, аб чым яму паведамлялі, выразна сведчыла, што і ў расійскім, і ва ўкраінскім Вярхоўных Саветах «працэс пайшоў» з гэткай жа імклівасцю і ашаламляльным поспехам.

Аднак да лунання ў аблоках было далёка. Як-ніяк, Прэзідэнт СССР заставаўся рэальнай фігурай і неўзабаве пасля «нямой сцэны» падчас тэлефоннага дыялогу з Шушкевічам авалодаў сабой. У сродках масавай інфармацыі прагучала ягоная прасякнутая гнеўнымі нотамі заява. Гарбачоў абвяшчаў белавежскія рашэнні авантурыстычнымі і незаконнымі, абмовіўшыся, праўда, што ўдзел Украіны ў сустрэчы падаецца яму добрым сімптомам, адыходам ад гранічна сепаратысцкіх настрояў. «Кожная рэспубліка мае права выхаду з Саюза, але лёс шматнацыянальнай дзяржавы не можа быць вызначаны воляй кіраўнікоў трох рэспублік», — зазначыў Гарбачоў, імкнучыся, напэўна, сыграць на амбіцыях лідэраў Малдовы, Закаўказзя, Сярэдняй Азіі.

Якраз з імі і вёў у гэты час інтэнсіўныя тэлефонныя перамовы беларускі Старшыня. Потым ён прызнаецца, што ніколі ў жыцці не праводзіў столькі часу са слухаўкай у руцэ. Важна было як мага хутчэй схіліць усіх патэнцыяльных партнёраў да ідэі Садружнасці. А тут, як на грэх, гэтая мядзведжая паслуга журналістаў, што імгненна раструбілі на ўвесь свет пра «новы саюз славянскіх дзяржаў». Вось і вылузвайся цяпер са скуры, даводзячы, што ніякай славянскай фанабэрыяй тут і не патыхае...

Неўзабаве сродкі масавай інфармацыі пачалі паведамляць: за Садружнасць выказаліся Назарбаеў, Муталібаў, Тэр-Петрасян, Акаеў...

Гарбачоў яшчэ працягваў свае філіпікі, пагражаў, што звернецца «непасрэдна да народа»... Але сама гэтая фразеалогія, у той час як нават зацятыя фундаменталісты пазбягалі ўжо тэзісу пра «адзіны савецкі народ», выклікала міжволі іранічныя ўсмешкі. І шмат хто адчуваў, што ўсё гэта проста блеф. У рэшце рэшт і сам Прэзідэнт СССР зразумее, што пачаў выглядаць фігурай трагікамічнай. І, да ягонага гонару, зробіць, бадай, адзіна дастойны ў тым двухсэнсоўным становішчы крок — уласнымі вуснамі адрачэцца ад свайго тытулу. Далёка не ўсе, дарэчы, адзначаць як след гэты ўчынак. Між тым, хто ведае, што магло б усчацца ва ўзбуджанай, знерваванай «перабудовачным» бязладдзем, нашпігаванай страшэннай зброяй краіне, каб у Гарбачова не стала тады цвярозасці мыслення, каб ён адчайна наважыўся ісці лоб у лоб да апошняга!

## АДСТУПЛЕННЕ. АЎТАРСКІ «ДОПЫТ»

*(люты 1993 г.)*

**— І ўсё ж ці не падаецца Вам, Станіслаў Станіслававіч, што фармальна Гарбачоў меў нейкую рацыю, заяўляючы, што трыма росчыркамі пяра нельга вырашаць лёс шматнацыянальнай краіны? Як-ніяк у яе і сапраўды ўваходзілі не толькі славянскія рэспублікі...**

*— Нагадаю: аб дэнансацыі Саюзнага дагавора 1922 года абвясцілі тры з чатырох рэспублік, якія ў свой час яго і падпісалі. І ва ўсякім разе пасля ратыфікацыі белавежскага пагаднення парламентамі Беларусі, Украіны і Расіі ўсе юрыдычныя праблемы, я лічу, былі знятыя. Ну, а крыху пазней, у Алма-Аце 21 снежня, як вы ведаеце, у СНД уступілі яшчэ восем рэспублік і такім чынам кропкі над «і» былі расстаўлены канчаткова.*

*А ўвогуле я прапанаваў бы зірнуць на сітуацыю з іншага боку: можа, неправамоцным быў якраз той, стары Саюз, утвораны сілай, бальшавіцкім прымусам? І мы проста адшукалі хай сабе, можа, і не стопрацэнтна дасканалы, але ўсё ж варыянт цывілізаванага выйсця з гэтага гістарычнага тупіка і аднаўлення справядлівасці. Скажыце, хто ў свой час пытаўся ў беларусаў, які шлях ім больш даспадобы?*

* * *

І сапраўды — не пыталіся. Гвалтам загналі ў таталітарны бальшавіцкі «рай», а неўзабаве каванымі ботамі сталі выбіваць з душаў усе беларускае, з асаблівым садысцкім імпэтам абрушваючы ўдары на самых неардынарных, таленавітых — на эліту нацыянальнай культуры. Здавалася, што змрок ахутаў шматпакутную зямлю беларусаў назаўсёды, што жалезныя абдымкі крывавыхэрнага цмока не расціснуцца ніколі... І кінуты ў сібірскі лагер паэт-беларус Шушкевіч, вядома ж, нават у самых дзёрзкіх думках не мог сабе ўявіць, што менавіта ягонаму сыну наканавана праз паўстагоддзя з лішкам стаць адным з тых, хто вынесе канчатковы прысуд ужо калапсуючай савецкай імперыі.

**«...Канстатуем, што Саюз ССР, як суб'ект міжнароднага права і геапалітычная рэальнасць спыняе сваё існаванне... 8 снежня 1991 года... За Рэспубліку Беларусь — С.Шушкевіч...»**

ЛіМ-часапіс

МУЗЫКА

## АНШЛАГ, АНШЛАГ!..

**Гала-канцэртам адкрыўся XXIV сезон у Дзяржаўным тэатры музычнай камедыі. Апошнім часам аншлаг у гэтай зале зрабіўся з'яваю... звыклаю. Чаму? Чытач, канечне, ведае, калі стала сочыць за нашымі публікацыямі пра жыццё сталічнай музкамедыі. У жыцці гэтым, нягледзячы на смутны час, адчуваецца радаснае абнаўленне. З'яўляюцца новыя імёны на афішах, па-новаму пульсуе творчае жыццё прызнаных майстроў сцэны, ладзіцца плённае супрацоўніцтва з беларускімі кампазітарамі, цікавыя пастановачныя ідэі ажыццяўляюць замежныя партнёры. Тэатр шчодра працуе для дзяцей. У тэатра — шчодрыя спонсары. У тэатры — доўгачаканы набытак: новыя музычныя інструменты...**



**Дарэчы, «абноўлены» голас аркестра натхнёна гучаў і ў першы вечар гэтага сезона: музыканты размясціліся на сцэне і пад кіраўніцтвам дырыжораў А. Сасноўскага ды А. Лапунова гралі самую розную музыку. Тут і «Адажыо» з «Маленькага прынца» Я. Глебава, і арыя Раберта з «Іяланты» П. Чайкоўскага /саліст У. Пятроў/, і, канечне, аперэта! Гучалі фрагменты з твораў І. Кальмана, А. Стрэльнікава, У. Кандрусевіча... Публіка горача вітала артыстаў: Н. Гайду, В. Мазур, Л. Станевіч, Н. Равінскую, А. Ісаева, П. Рыдзігера, А. Ранцанца, В. Мінгалёва ды інш. А калі ў 2-м аддзяленні аркестр заняў сваё звычайнае месца, вызваліўшы сцэну, жанр аперэты дапоўнілі й некалькі чыста харэаграфічных нумароў: балетная трупа мае ў тэатры адметную самастойную працу. Гала-канцэрт вялі С. Раманоўская ды В. Шыбуня. У зале сярод шматлікай публікі было нямала афіцыйных асоб, у тым ліку й Старшыня Вярхоўнага Савета С. Шушкевіч.**

**С. Б.**

*Фота В.СТРАЛКОЎСКАГА*

## ТЭАТР НАРАДЗІЎСЯ

**— Песня ў нас заўсёды была вByратавальніцай, як і бульба. У Беларусі больш чым у іншых дзяржавах выпушчана выданняў песень. Зараз усё больш гучаць і беларускія народныя песні, і прафесійныя, — сказаў паэт С. Законнікаў на першым выступленні новага тэатра — Беларускага тэатра песні, якое адбылося ў Доме літаратара 17 верасня. Гэта дата — дзень нараджэння новага калектыву ў рэспубліцы, у якога ёсць свая эмблема і скарочаная назва — БТП і яго мастацкі кіраўнік Ігар Лучанок.**

**Цёплыя словы ў адрас нараджэнца гаварылі народны паэт Беларусі Р. Барадулін, У. Някляеў, галоўны рэжысёр рускага тэатра Б. Луцэнка, кампазітар Э. Зарыцкі і начальнік упраўлення выхаваўчай работы МА РБ палкоўнік Я. Нікулін і іншыя. Вечарыну вялі Алена Спірыдовіч і Аляксандр Вавілаў.**

**У вялікім канцэрце прынялі ўдзел студыя «Сябры» і яе кіраўнік А. Ярмоленка, заслужаныя артысты рэспублікі І. Краснадубскі, М. Жылюк, Г. Радзько, А. Рудкоўскі, І. Шуміліна /фартэпіяна/, спевакі В. Крываносава, В. Стральчэня, У. Цімашэвіч, Ліка /салістка ансамбля «Верасы»/, кампазітары У. Буднік і А. Чыркун, а таксама фальклорны ансамбль «Церніца» Палаца культуры і спорту чыгуначнікаў.**

**Неўзабаве адбудзецца другое выступленне тэатра ў Цэнтральным Доме афіцэраў.**

**П. ГАРДЗІЕНКА**

ВЫСТАВЫ

## ЮБІЛЕЙНАЯ СПРАВАЗДАЧА

**У мінскім Палацы мастацтваў экспануецца выстава жывапісца Івана Мядзведзева, прымеркаваная да яго 80-годдзя. Уражваюць партрэты — скульптара З. Азгура, мастака Я. Чамадурава, архітэктараў Г. Заборскага, Г. Сысоева, А. Войнава, іншых. Прадстаўлены і першыя творы мастака — краявіды Ленінграда /1945 г./, Вільні, дзе ён доўгі час працаваў, Міншчыны. У апошнія гады ў работах І. Мядзведзева пераважаюць выявы беларускіх мястэчак. Прываблівае разнастайнасць пластычнага вырашэння работ. Жывапісец выкарыстоўвае тэхнічныя магчымасці гуашы, акварэлі, пастэлі.**

**П. Г.**

БЕЛАРУСКАЕ ЗАМЕЖЖА

## «ЗАПІСЫ...», ВЫПУСК ДВАЦЦАТЫ

**У Нью-Йорку пабачыў свет юбілейны выпуск «Запісаў Беларускага інстытута навукі і мастацтва». Як вядома, яны пачалі выходзіць у 1952 годзе. За тры гады было выдадзена шэсць нумароў. Аднавіліся «Запісы...» у 1962 годзе ў Мюнхене, дзе пабачыла свет яшчэ пяць кніг, апошняя — у 1970 годзе. З 1974 года «Запісы...» зноў прапісаліся ў Нью-Йорку.**

**Дарэчы, у юбілейным выпуску змешчаны алфавітны паказальнік /паводле прозвішчаў аўтараў/ найбольш значных публікацый за ўвесь час. Праўда, па-англійску. На англійскай мове апублікаваны і многія матэрыялы гэтага выпуску, у прыватнасці, артыкул пра творчасць Н. Арсенневай.**

**Ёсць і беларускамоўныя публікацыі: успаміны Я. Лешчанкі «Казённы дом і далёкая дарога», артыкул А. Бергман «Яшчэ раз пра Антона Луцкевіча», згадкі А. Латышонка пра малавядомыя факты з біяграфіі вядомага беларускага святара і нацыянальнага дзеяча ў Амерыцы Я. Тарасэвіча; рэцэнзія З. Кіпель на кнігу Я. Ісаевіча «Літаратурная спадчына Івана Фёдарава», што выйшла ў Львове; факсіміле некаторых твораў Я. Купалы і вядомага «Тэстамэнта» /урыўкі/ У. Жылкі; кароткі жыццяпіс К. Езавітава, адрэдагаваны ім уласнаручна, а таксама «Навукова-культурная хроніка» жыцця беларускай эміграцыі за 1984—1990 гады, складзеная В. Кіпелем.**

ДРУК

## «НАША НІВА», N 15

**Чарговы нумар віленскай беларускай газеты «Наша Ніва» крыху затрымаўся з выхадам — рэдакцыя чакала пераклад першае песні «Боскае камедыі» Дантэ. Гэты твор друкуецца разам з Пралогам да «Дзевяці дантаўскіх эсэ» Х. Л. Борхеса.**

**У праблемнай частцы газеты разглядаюцца некалькі важных для сучаснае беларушчыны момантаў: дыферэнцыяцыя культуры як атрыбута нацыянальнае меншасці і прафесійнага мастацтва /гэтаму прысвечаныя рэдакцыйны «Дзённік прыватнага чалавека» і вялікая гутарка ў рэдакцыі з мастаком Лявонам Тарасэвічам/; развіццё беларускае гістарычнае навукі ад «патрыятычнае гістарыяграфіі» да еўрапейскага універсалізму /артыкулы Генадзя Сагановіча і Алега Дзярновіча/; «архітэктурная свядомасць» беларусаў і яе адлюстраванне ў нашай канфесійнай сітуацыі /Антон Сіюль/.**

**Агульная тэма гэтага нумара «НН» — «Прадукты няспелага часу». Гэта тэма нерэалізаваных ідэй і задумаў, адкладзеных на няпэўны час. Сярод тэкстаў на гэтую тэму — эсэ Адама Глобуса «Наважыўся, але не зрабіў...»**

ЛіМ-часапіс

# ПАЎСТАЕ ПЕРАД НАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНА...

## АБ ЧЫМ ГАВОРАЦЬ НАЗВЫ РЭК І РЭЧАК

***Аб беларусах можна сказаць і так: народ, які жыве ў вярхоўях Дняпра і Нёмана, на Прыпяці і па сярэдняй цечы Дзвіны, абапал Вялікага Еўрапейскага водападзелу. Яго Бацькаўшчына — краіна не толькі бязмежных лясоў і балот, квітнеючых паплавоў і ўрадлівых палёў. Гэта яшчэ і вялікі азёрна-рачны абшар: паўтары тысячы рэчак даўжынёй больш 15 км і пяцьсот азёр, калі не лічыць занадта малыя. У свой час кожны вадаём атрымаў назву /гідронім/. Сёння не ўсе яны зразумелыя, многія гучаць не па-беларуску. Гэта сведчыць, што папярэднікамі беларусаў былі іншамоўныя плямёны. Але і ў апошніх меліся папярэднікі. Нішто не знікае бясследна, але адшукаць сляды мінулага звычайна вельмі цяжка. Хто пакінуў свае аўтографы /гідронімы/ на беларускай зямлі, на якой мове размаўляў, як змянялі назвы рэк іх пераймальнікі? Усё гэта не проста цікава. Адказы на гэтыя пытанні высвятляюць паходжанне плямён і народаў, этнічную гісторыю. Кожная нацыя натуральна імкнецца да гэтага.***

***Многа перашкод пераадольваюць лінгвісты, каб высветліць паходжанне і сэнс тых слоў, якія зрабіліся гідронімамі, вылучыць фарманты /суфіксы і канчаткі/, якімі карысталіся пераймальнікі, каб наблізіць першапачатковае слова да сваёй мовы, каб яно гучала больш-менш падобна на сваё. Размова аб гэтым наўрад ці калі-небудзь скончыцца. Удасканальваюцца метады аналізу, узбагачаюцца веды, усё болей дакладна азначаюцца гідронімы. Тэма бясконцая. Таму спынімся толькі на назвах вялікіх рэк /і некаторых іншых/, якія сведчаць аб старажытным насельніцтве.***

СОТНІ ТЫСЯЧ ГАДОЎ назад, яшчэ не на вачах людзей, неслі свае воды велічныя Пра-Дняпро і Пра-Нёман. Калі ледавік перакрываў Балтыку, іх воды аб'ядноўваліся адным Чарнаморскім басейнам. «Усе рэкі цякуць у мора, але мора не перапаўняецца; да таго месца, адкуль рэкі цякуць, яны вяртаюцца, каб цячы зноў», — гаворыцца ў Бібліі /Эклесіяст, 7/. Безліч разоў вада поўніла рэкі і адхлынала. Наступалі і адыходзілі да поўначы ледавікі. Скрозь іх водклады прабіваліся рэчышчы, тысячагоддзі рэкі распрацоўвалі і паглыблялі даліны, перш чым яны набылі знаёмыя абрысы і далі прытулак чалавеку. Адбылося гэта каля 10500 гадоў назад, калі надышоў сучасны геалагічны перыяд /галацэн/. Спачатку чалавек з'явіўся толькі на некаторых участках далін вялікіх рэк, потым распаўсюдзіўся на гэтых далінах, затым стаў цікавіцца навакольнымі рэчкамі, азёрамі і, нарэшце, міжрэччамі. На тэрыторыі Беларусі першае сталае, аўтахтоннае насельніцтва ўтварылася 7—8 тысячагоддзяў назад. Скрозь першасныя лясы-пушчы, паўз гібельныя багны людзі праклалі першыя сцяжынкі — уздоўж рачных берагоў. Гэта былі спачатку адзіныя, затое надзейныя арыенціры. Пастунова кожнае ўрочышча /рэчка, возера, балаціна, куток лесу/ набыло сваю назву. Атрымалі яе ад першапраходца з вострым зрокам, блізкага да прыроды. Ён прыкмячаў усё: глыбіню і колер, пах і смак вады, хуткасць цячэння, наяўнасць крыніц, ямін на дне, пяску, жвіру, камення, характар берагоў, віды рыб, якія пераважна трапляюцца ў рачной глыбіні, пароды дрэў, разнавіднасці звяроў і птушак, што водзяцца ў прыбярэжжы. Самая яркая прыкмета, якая вылучала вадаём з ліку суседніх, падобных, ператваралася ў назву. І была яна настолькі трапнай, што потым захоўвалася вякамі. Каб не выклікаць блытаніны, людзі, як эстафету, перадавалі яе адзін другому нават тады, калі сэнс самой назвы губляўся. Дзякуй ім за захаванне каштоўнейшых гістарычных крыніц!

Па старажытных назвах вызначаюцца этнасы, якія некалі жылі і зніклі. А назвы рэчак, зразумела, на мовах старажытных плямён, мелі пэўны сэнс: Альшанка, Балацянка, Белая, Бобрык, Бродніца, Быстрыца, Кабылянка, Каменка, Клёнаўка, Крынічніца, Кулікоўка, Ласосеўка, Пясчанка, Салёная, Чорная, Шчупачоўка, Ямніца... Раскрыць яго часам даводзіцца толькі пры дапамозе складанага лінгвістычнага аналізу і часам не зусім пераканаўча. Так высветлілася, што ў абшары панавання балцкай гідраніміі назва Тур'я ўзнікла не ад тура—быка, звера лясных чашчобаў, «таура», а ад балцкага слова «турас» - «дрыгва». Таму Тур'я — Дрыгвянка. Вядома некалькі Дунаек. Іх назва — не перайманне ад Дуная, а ад слова «дунайс» — «глеістая мясціна». Рэчку, якую цяпер называюць Лясная, спярша называлі Лесна, а ў летапісны час — Лосна. Хітрая была Хітра, а да гэтага Хідра. Сінюха — былая Зілупэ /«упіс», «упэ» — «рака» на балцкай мове/.

Самая буйная ў рэгіёне рака часта так і называлася. Гаварылі фіна-угры, егіпцяне, старажытныя індаеўрапейцы «рака», г. зн. адпаведна Ака, Ніл /Хапі/, Дон — і ўсе суродзічы, ведалі, аб якой рацэ ідзе размова. Праўда, цяжкасці ўзнікалі тады, калі ў яе вялікім па плошчы басейне жылі розныя плямёны, і кожнае звала раку па-свойму. Не адразу зразумелі, што Істар /назва іранская, «паток»/ ёсць працяг Данубія /Дуная, назва лацінская/. З цягам часу адна назва замацоўвалася за ракой, а іншыя забываліся. Потым гісторыя магла паўтарыцца.

Вялікую раку ўсходняга славянства Дняпро, Днепр, Непр старажытныя грэкі, а ўслед за імі і рымляне называлі таксама Данапрас, Данепрыс, Барысфен, туркі — Узу, Узы, Юз-г, сучасныя ўкраінцы, калі ў «лірычным настроі» — Славуцічам.

Не пазбег гэтага і Нёман. На карце Пталамея /2-е ст. н. э./ ён адзначаны як Хрона, Хронан. Яго ведалі як Кронан, звалі Мемель і, магчыма, Гутал, а ў сярэднявеччы — Нямо, Нямот, Немул. Для літоўцаў гэта Нямунас.

Аб тым, што з сівой даўніны была вядомая Дзвіна, сведчыць шматлікасць яе назваў: Родан, Рудон, Эрыдан /усюды ёсць паўтор «дан»/, на карце Пталамея — Рубон, у ніжнім цячэнні яе маглі назваць Танаіс, Турунт, Хазін, Херзін. Для старажытных германцаў гэта была Дзіна /Дзюна/, Вена, Віна, у латышоў Даўгава /«мнагаводная»/, у рускіх, беларусаў — Дзвіна. Блізкія назвы маюць прыток Віліі /Меркіса/ Двіноса і прытока Одры Дзіўна.

Мела розныя назвы і рака заходніх славян Вісла — Вістула /«сутокі вод»/, Вістла, Віскла. У пачатку эры паёй праходзіў бурштынавы шлях — праз славутыя Мараўскія вароты /між Карпатамі і Судэтамі/ у басейн Дуная. Аднойчы яе назвалі Вандал — адзначылі вандроўку аднайменнага германскага племя з вельмі падмочанай рэпутацыяй.

Шматлікасцю назваў можа выхваляцца і Волга — Аракс, Арак, Арака, Раха, Рха, Ра, Ацільь, Іціль, Йул... Не пазбег гэтага і Дунай, галоўная рака Заходняй Еўропы, мара многіх плямён і народаў, якая выклікала зайздрасць шмат якіх заваёўнікаў. Рымляне называлі яго Данувій /Данубус/, германцы і кельты — Донаў, готы — Донаві /Дон + аві/, індаіранцы — Істар, у 9-м ст. — Доўнай, балгары — Дунав, венгры — Дуна, на карце 1769 г. — Данубіо, румыны — Дунэря, туркі — Туна.

Дон называлі інакш: Танаіс, Танат, Танаквісль /Дон + вісла/... За Донам пачыналася Азія.

Чытач, напэўна, заўважыў чаргаванне гукаў «Д» — «Т» і «А, О» — «І, У». Зразумела, гэта невыпадкова.

У мове старажытных індаеўрапейцаў слова «дану», «дэн» азначала «цячэнне», «рака». Менавіта ў гэтым сэнсе ўжываецца слова «дон» у старажытнаіндыйскім творы «Авеста» і ў сучаснай асецінскай мове /з іранскіх/. Таму многія лінгвісты лічаць яго індаіранскім, пакінутым скіфамі. І памыляюцца. Тры рэчкі з назвай Дон ёсць нават у Англіі, Дандр, Одон, Тон — у Францыі. Там індаіранцы не жылі. Зыходнае слова «дан» захавалася ў назвах рэк Дан у Партугаліі, Дане ў Літве, на ўскраінах арэала, дзе назіраецца заўсёды і большая кансерватыўнасць. У Скандыі на мяжы з фінамі цячэ Танаэльв /па- фінску Тенайокі/. Можна сцвярджаць, што менавіта старажытныя індаеўрапейцы спачатку назвалі раку Дон, а асеціны толькі захавалі гэтае слова ў яго першасным сэнсе. Адсюль вынік — вялікія рэкі паўднёва-ўсходняй Еўропы названы задоўга да скіфаў. Акрамя Дона, сярод іх Данец /Сіргіс/, Днепр /Дон-еп-р/, Днестр, або Данастрыс /Дон + Істар/ і, зразумела, Донау /Дунай/. Індаіранцы потым «падправілі» гэтыя назвы як змаглі.

Такім чынам, новы аргумент падмацоўвае сцвярджэнне многіх даследчыкаў, што Прычарнаморская /Цыркумпантыйская/ вобласць была радзімай старажытных індаеўрапейцаў. Яны з'яўляліся паўночнымі суседзямі сяміцкіх народаў Блізкага Усходу.

Для назвы вялікіх паўднёвых рэк спатрэбіліся ўдакладненні. Дняпро — «Рака—ненажэрніца» /«еп» — «жэрці»/. Назва зразумелая, калі ўлічыць наяўнасць вельмі небяспечных парогаў у нізоўях ракі: Ненасыцец, Пражэрлівы... А, можа, больш старажытная назва «Дан-апр» — «Рака глыбокая».

Вытокам Дняпра старажытныя грэкі лічылі, відаць, Бярэзіну, таму востраў пры яго вусці быў гэтак і названы: Беразань /Берзань/. Другая назва Барысфен утрымлівала тыя ж зычныя гукі. У гэтым выпадку і гандляры лепш ведалі Бярэзіну. Тады галоўны Дняпроўскі шлях, што накіроўваўся ў Прыбалтыку, перасякаў сярэдзіну Беларусі, і Неман адыгрываў большую ролю, чым Заходняя Дзвіна. Ці не аб гэтым сведчыць назва Стэрфень. Праз тысячагоддзе ён меў ужо некалькі адгалінаванняў: па Прыпяці — у Буг і Шчару, Зэльвянку, праз Смаленшчыну — у Дзвіну, Ловаць. Галоўным шляхам «з вараг у грэкі» ў ІХ—XIII стст. зрабілася Дзвіна, у якую было параўнаўча лёгка трапіць па Бярэзіне, Друці, Лучосе. А з Дзвіны — у Балтыйскае /Варажскае, Свеўскае, Ругенскае, Рускае, Славенскае/ мора /Венедскі заліў, Остзэе/ з яго славутым Гоцкім берагам. Нездарма ў басейне Дзвіны рана склалася Полацкая /Крывіцкая/ дзяржава, за якую потым паміж Кіевам і Ноўгарадам вяліся доўгія і крывавыя спрэчкі. Гэта дзяржава змагла абараніць сваю незалежнасць амаль на 200 год.

Назва ракі Бярозы /Бярэзіны/ паходзіць не ад славянскай назвы дрэва, а ад балцкага слова «берзас», «бержас», што азначае светлае месца, вадаёмбалаціну сярод змрочнага лесу. Яго першаасновa — агульнаіндаеўрапейскае слова «берк» — «бялець», «свяціцца». Яно добра захавалася ў мове германцаў: «бірке» — «бяроза».

У тых жа германцаў галосныя гукі «і, у, ю» часткова выціснулі былыя «а, о». Узнікла назва Дзіна для Заходняй Дзвіны. У басейне гэтай ракі ёсць рэчкі Дзвінка, Дзіва, Дзівацьь, азёры: Догіньскае, Дзвінне, Дзевінскае. Падобная «боская» накіраванасць многіх назваў прыцягвае асаблівую ўвагу. Хутчэй за ўсё назва паходзіць ад «дэваяна» з індаіранскай мовы. «Дэвы», «дзівы» — рачныя багі — разбуральнікі. «Дэваяна», а значыць, Дзвіна — «Дарога багоў», або «паўночны шлях», які вядзе да іх. Нехта засумняваецца. Здаецца, скіфы тут ні да чаго: жылі занадта далёка, недзе ў стэпах. На самай справе яны панавалі ў Дняпроўскім Левабярэжжы на працягу ўсяго 1-га тысячагоддзя да н. э. Яны не толькі адбілі напад /514 г. да н. э./ магутнай арміі персідскага цара Дарыя, але ў 530—400 гг. да н. э. буйнымі сіламі самі нападалі на лужыцкія гарадзішчы на тэрыторыі Польшчы і палілі іх да самай р.Одры. На шляху туды скіфы праходзілі Валынь, пераадольвалі Дняпро, Гарынь, Стаход, Буг, Віслу.., сутыкаліся з балцкімі плямёнамі, аб чым сведчаць запазычанні ў мове апошніх. І гэтае сутыкненне пачыналася ў басейне Дзясны — з дняпроўскімі балтамі, якія потым зніклі. Не мінулі скіфы і Палесся. Бронзавыя трохгранныя наканечнікі скіфскіх стрэл знойдзены на гарадзішчах на поўдзень ад Рэчыцы, каля Турава і Пінска, два курганы насыпаны пры вусці Прыпяці. Адбіткі ўплыву скіфскай культуры выразна бачны ў мілаградскай культуры ранняга жалезнага веку Палесся.

Свяшчэнныя тэксты далёкай Індыі, старажытнага Ірана змяшчаюць звесткі аб краіне, якая ляжала на поўнач ад Скіфіі і цягнулася ла самага Малочнага /ільдзістага, туманнага/ мора. У гэтай краіне ўздымаюцца горы Рыпы, і вялікія рэкі цякуць адтуль на поўдзень — Доны. А вось па паўночным схіле другія рэкі нясуць воды да вяршынь Меру і Хара /Беразайці/, на якіх жывуць Багі. Там на небе палыхаюць ззянні, а сонейка не заходзіць паўгода. Туды і вядзе «дарога багоў»: абедзве Дзвіны дазваляюць трапіць за палярны круг /калі ўлічыць Батнічны заліў/.

Ніжняе цячэнне Дзвіны здаўна размяжоўвае балтамоўных і фінамоўных людзей і, відаць, пэўны час было нічыйнай зямлёй. Потым і тут пачаліся сваркі: «мутна цячэ Дзвіна ў палачан пад грозным клікам Літвы паганай». Параўнаўча позна, у 1201—1203 гг., выйсце з Дзвіны было перахоплена іншаземцамі: пабудаваныя крэпасці Рыга, Гольм, Ікскюль.

Зразумела, у Левабярэжжы Дняпра індаіранскіх гідронімаў больш за ўсё: Сейм /«цьмяна-шэры», Сеймерэ цячэ ў Іране/, Харманьь, Харопуць, Эсмань, магчыма, Бася /«басач» — «вялікая»/, Вейна, Вець, Іпуць, Карма, Колпіта /«кал» — «чорны», «брыдкі»/, Нёманка, Стомець, Хароша. У далёкім наваколлі з некаторай упэўненасцю да іх можна аднесці Буг, Варту /«Краіна»/, Кшну ў Польшчы, Істру пад Масквой, Прут, Індурку, Пруціску ў басейне Нёмана, Портху, прыток Пцічы, Кармін, Стаход /Стахуд, Станог/ на Валыні...

Разам з тым падкрэслім, што ў Верхнім Падняпроўі ёсць і больш раннія, ячшэ старажытнаеўрапейскія гідронімы. Яны засталіся ад тых індаеўрапейцаў, якія ўжо былі жыхарамі Еўропы, але не падзяліліся яшчэ на асобныя галіны /балтаў, германцаў, іранцаў.../. Адзначым некаторыя з іх. Дзіўна, але мовазнаўцы не заўважылі некалькі гідронімаў з характэрнымі фармантамі: Алісаўка /Алісія/, Ілія, Прыпілія ў Панямонні, Арціслаўка /Арцісія/, а таксама рэчка Арыя на Магілёўшчыне, Мадорка каля Рагачова /Модра ёсць у басейне Дуная, Модр — прыток Сены ў Парыжы, Модар упадае ў Рэйн/. Як тут не ўспомніць загадкавы трэці цэнтр, вакол якога групаваліся ўсходнія славяне — Артанію, аб якой гавораць арабскія крыніцы. Да старажытнаеўрапейскіх далучаюць гідронімы Амоня, Лань, Лупа, Ола, Ольса, Піна, Сена, Сола, Салон і інш.

Найбольш значнае ў Еўропе згрувашчанне такіх /яшчэ дабалцкіх/ гідронімаў выяўлена ў басейне Нёмана. Напэўна, у сваім шляху да Балтыкі праз яго праходзіў адзін з асноўных патокаў перасяленцаў — старажытных індаеўрапейцаў. Значыць, ён хлынуў і праз цэнтральную Беларусь. Нездарма тут сустракаюцца парныя назвы: Бяроза /Дняпроўская і Нёманская/, дзве Свіслачы, гідронімы Ізва, Ізледзь, Іса, Іслач, Іспалоха /«іс» — «лёд»/. З тых часоў ніжняе цячэнне Нёмана набыло назву Мемель /Мамоль/ — утворана ад агульнаіндаеўрапейскага «мель» — «чорны». Рака Мемель — «Чорна—чорная». На мове хетаў, праўда, «мельмаль» — «крупа». Таго ж паходжання словы «зям-

**Уладзімір ІСАЕНКА,**
**кандыдат гістарычных навук**

ля», «імгла», «магіла», «гамола», толькі больш познія. Цікава, што адзін з рукавоў Нёмана Гіль /Гільгэ/ — мулісты, цьмяны, а другі па кантрасце Рус /Руснэ/ — светлы. Магчыма, па гэтай прычыне потым і пайшла назва «Чорная Русь». Дарэчы, «рус» — «возера» ў кельтаў /адсюль «русла», «русалкі»/. Два возеры з падобнай назвай ёсць у Літве і Прусіі. «Русцэла» — «ручай» у італьянцаў. Не трэба забываць, што як кельты, так і германцы былі моцна лацінізаваныя. «Рус» — «вёска» па латыні, а першыя вёскі будаваліся, як вядома, пры вадзе. Лес побач выпальвалі, месца яшчэ больш святлела. Этнонім «рус» спачатку не меў да славян дачынення. «Рус» — гэта зусім не «рускі» — «належачы русу». Назоўнік не тоесны прыкметніку. Але размова аб гэтым асобная.

Пяройдзем да асноўнай назвы ракі. Гідронімы з коранем «нем-/нім-» распаўсюджаны дастаткова шырока. У германцаў «немен» — «брацъ», і тады «Неман — «рабаўнік». Кельцкія жрацы-друіды пакланяліся Дубу ў свяшчэнным гаі — «немусе». Кельты падтрымлівалі культ Немон—багіні, жонкі лютага бога вайны, якая патрабавала ахвяр, нават чалавечых. У грэкаў Німфа — боства крыніцы. «Немус» у лацінскай мове — «празмерны», «аграмадны». У грэчаскай «німос» — «імя». Нарэшце, у іранцаў Ману — рачное боства, звыклая другая частка ў назве ракі. Дык, можа, гэта была рака «Імянітая», «Знамянітая», «Багаслаўная»? Чытач можа спыніцца на любым з прыведзеных тлумачэнняў. Мне падабаецца першае. Як бы там ні было, відаць, Нёман прыняў нямала крывавых свяшчэнных або ваенных ахвяр ад розных плямён і народаў, што жылі на ягоных берагах — наш бацюхна Нёман.

Што тычыцца іншых назваў? У вярхоўі Віліі /Вяллі, Меркіса/, буйнога прытока Нёмана, ёсць возера Кратоніс, а ў басейне Сервечы — возера Кроман і рэчка Кроманка. «Кром» — верхавіна, высокае дрэва, у лацінян «кроній» — пагорак /адсюль «карона»/. Нездарма, відаць, ля вытокаў Нёмана размешчаны найбольш высокія мясціны Беларусі. «Хром» — «жоўты», «каляровы». На карту 1540 г. нанесена возера Хронас.

Назва Гутал /Гуттал, Гудал?/ дапушчае шэраг меркаванняў. У балтаў «ал» — «крыніца», «вадаём». А вось «гут», «гуд», «худ» магло азначаць і этнонім «гот» і словы «бык» /адсюль «гавяда», «худоба»/, і «раб» /ваеннапалонны/, і «выкрадальнік жанчын». Хутчэй за ўсё Гутал — «Гоцкая крыніца». Паміж іншым, літоўцы да гэтага часу завуць беларусаў «гудамі», а звычай умыкаць чужых жанчын быў шырока распаўсюджаны сярод старажытных індаеўрапейцаў /свае абыходзіліся дорага/. На Мядзельшчыне апавядаюць пра вогненнае страшыдла: Хут прыносіць гаспадару чужыя снапы і золата. А, можа, Нёман — «Крыніца бога»? «Гот» — «бог» у нямецкай мове, «год» — «бог» у готаў.

Не толькі гэты след у гідраніміцы Беларусі пакінулі кельты з германцамі. Назвы прытокаў рэчкі Лясной Люта, Точыя хутчэй за ўсё кельцкія. На першай знойдзены буйны клад рымскіх манет, а паблізу, у Брэсце, раскапаны гоцкі могільнік 2-га ст. н. э. — здзіўляючая адпаведнасць. І далей на ўсход сустракаюцца гідронімы таго ж паходжання: Буймір, Гарваха, Люцымер, Льва /многа «эльваў» у Швецыі/, Нобель /Нобль/, Стыр /«бык», «настырны», гідронімы «стур» у Нарвегіі/, Руфа, Цыр. Дарэчы, палешукі вымаўляюць замест «ы» — «у» /бук, мула, а не бык, мыла/. Тры светлазорыя азёры ляжаць ля вытокаў Прыпяці: Лука /«светлае», па латыні/, Люцымер /германскае/, Свіцязскае /славянскае/.

Яшчэ з агульнаіндаеўрапейскай мовы тлумачыцца сэнс назвы «Прыпяць»: «Рака моцна, скрозь наследзіўшая» /«пры» — «моцна», «усюды»; «петс» — «пядзя», «след»/. Выключна трапная назва. Вядома, што басейн Прыпяці амаль тое самае, што Палессе.

Менавіта тут Герадот /5 ст. да н. э./ размяшчаў велізарнае мора. Готы, якія пачалі вялікае перасяленне ў 1—2 стст. н. э., абышлі вялікую лясіста-балоцістую мясцовасць «Ойум» /«Айум»/, — пракладалі на поўдзень ад яе шлях ад ніжняй Віслы праз Валынь і басейн Воркслы да Прыазоўя. Калі глянуць на геамарфалагічную карту Палесся, бачна, што ўсё правабярэжжа ракі глыбока перапрацаванае, прасякнутае старарэчышчамі яе буйных прытокаў. Мясцовыя назвы Струмень, Струмель, Трыпяць, Дрыпядзь, Врыпетс. «Страум», «страч», «струм», «шторм» — «паток» — з нямецкай мовы было запазычана славянамі — «страмяніна».

Заўважым, што слова «пры» ў балцкай мове ператварылася ў «друтас» і захавала той жа сэнс — «магутны» /Друйка, Друць, Друя, Дрывяты, Дрыдза, Дрыса, Дрысвяты/. Вадаёмы з падобнымі назвамі звычайна ляжаць між крутымі марэннымі пагоркамі апошняга, Валдайскага /Паазерскага/ ледавіка, хутка збіраюць многа вады і ўтвараюць бурлівыя, разбуральныя патокі.

Загадкавая назва ў ракі Сож. Каб наблізіцца да яе тлумачэння, трэба зазірнуць у гісторыю двух велізарных этнічных аб'яднанняў Усходняй Еўропы — індаеўрапейцаў і фіна-ўграў. Калі зыходзіць са старажытнага слоўнікавага фонду, першыя жылі спачатку ў краіне лісцвяных і хвойных лясоў, дзе йшлі дажджы і падаў снег, былі лета і зіма, другія — на таежных рэчках, у значна больш суровых кліматычных умовах. Потым надышоў час развітання са сваёй «прарадзімай». Першыя хвалі старажытных індаеўрапейцаў накіраваліся каля пяці тысяч гадоў назад на Іранскае нагор'е і далей, у Індастан /плямёны арыяў/. Наступныя пранікненні адбыліся ў Сярэднюю Азію, дакаціліся да вярхоўяў Обі і паўднёвага Урала. Дзеля справядлівасці адзначым, што некаторыя даследчыкі абгрунтоўваюць адваротную паслядоўнасць рассялення — на тысячагоддзе пазней. У бязмежных стэпах Азіі, якія былі больш урадлівымі, чым зараз, яны нагадвалі мільёны галоў быдла, коней, авечак /сваё асноўнае багацце/, узраслі колькасна. Патрабаваліся новыя абшары. Яны былі на Захадзе, у краіне кавыльных стэпаў, што раскінулася за Волгай, дзе заходзіць сонца і ёсць свяшчэнная крыніца жывой вады... Некалькі разоў потым у гісторыі паўтараўся гэты сюжэт, толькі ўжо не з індаеўрапейцамі ў галоўнай ролі.

Асноўныя масы індаеўрапейцаў /але не першыя/ каля чатырох тысяч гадоў назад пераадолелі свой Рубікон — рубеж Волгі і папоўнілі насельніцтва паўночнага Прычарнамор'я /украінскія стэпы/. Яны па-ранейшаму жылі і перамяшчаліся ў дамах-павозках на суцэльных драўляных колах, якія цягнулі 2—4 пары быкоў, умелі перапраўляцца праз рэкі. Разам з тым яны авалодалі мастацтвам верхавой язды, вытворчасці баявых калясніц на колах са спіцамі, пачалі займацца металургіяй і земляробствам. Усё гэта надавала ім значныя перавагі. Адпаведна ўдасканалілася, узбагацілася мова, вераванні, культы, узмацніўся ўплыў на суседзяў. Ну а рассяленне прыводзіла як да новага суседства, так і да развіцця дыялектных асаблівасцей і запазычанняў /субстратаў/ у сваёй мове.

У сваім непераадольным хвалепадобным руху на новыя землі індаеўрапейцы сутыкнуліся з жыхарамі паўночных лясоў, Прыўралля і верхняй Волгі — фіна-уграмі. Апошнія былі вымушаны рассяляцца толькі на захад, да вытокаў Волгі, Фінляндыі, Эстоніі, берагоў Рыжскага і Фінскага заліваў. Не пазбеглі іх прысутнасці і беларускае Паазер'е, Прусія, усходняе пасожжа, басейн Дзясны — ускраіны іх арэалу. Фіна-угорскія гідронімы адрозніваюцца ад індаеўрапейскіх спецыфічнымі фармантамі, а нярэдка і каранёвай часткай слоў /Вора, Вятша, Еша, Зеха, Кіра, Маруга, Мера, Орша, Рыдыга, Сара, Суя, Тулва, Удога, Утуга, Чармісца, Чарыш, Чудзінка, Чудніца, Шоша, Югна, Югра і інш./. Месцапалажэнне падобных гідронімаў дастаткова добра супадае з размяшчэннем стаянак плямён фіна-угорскай культуры /«грабенчата-ямкавай керамікі»/. Сярод іх Нямыкары пад Смаленскам ля вытока Сожа, Бярэшча побач з возерам Окана /«Йоккі» — «рака»/ у Лепельскім раёне, некалькі помнікаў выяўлена ў даліне ракі Свольны /Асвейскі раён/, раскопкі адбываліся на Скеме ля вёскі Нарач. Стаянкі былі пабudаваны 2500—2300 гг. да н. э. Зразумела, гэта і час надання гідронімаў.

Мовазнаўцам варта звярнуць увагу на падваенне свісцячых і шыпячых гукаў, оканне, якія характэрны для многіх фінскіх гідронімаў /Жыжма, Зуша, Сосва, Сысала, Шоша, Шушвэ, Шэшма/. Менавіта падобныя прыкметы ўласцівы і гідроніму Сож. Спроба выводзіць яго ад прускага /заходнебалцкага/ слова «сежа» — «дождж» не з'яўляецца пераканаўчай. Самі прусы маглі запазычыць яго ў сваіх заходнефінскіх суседзяў. Гэта тым больш верагодна, што на паўночным усходзе Еўропы, дзе жылі менавіта фіна-угры, вядомы гідронім Сежа, як і Асуза, Валманга, Ор, Нямюга, Орша, Пра, Проня, Ра, Сара, Сорацъ, Угра, Чачора, Шоня, Шуя. Хутчэй за ўсё Сож — проста «вада», вялікая вада, «жыжа». Слова «шож» у мове марыйцаў /фіна-угры/ азначае «зерне», «кроплі» /?/ падобна таму, як і слова «шуж» у сучасных іранскіх мовах Паміра. Дарэчы, у індаеўрапейцаў і фіна-ўграў нямала ўзаемных моўных запазычанняў. Крыху дзіўна, што слова «ор'я /арый/ у фінскіх мовах — «раб», а не «пан», як у далёкім Самалі. У цюркскіх плямён — «ар'ая» — «святы». Кітайцы былі ўпэўнены, што рака Шошуй падзяляе свет мёртвых і свет жывых.

Шляхі-дарогі, арэал старажытных індаеўрапейцаў адзначаны гідронімамі на «мен-/мін-», /Мена, Ментна, Ментынь/, «мар-/мер-/мір-/мор-» /Маргва, Марынец, Мерачанка, Меркіс, Міраб, Міранка, Мормаль, Морач/, «нар-/нер-/ нор-» /Нара, Нараў, Нарач, Нарва, Норынь/, «тар-/тэр-/тур-» /Тара, Тартак, Церуха/ і некаторымі іншымі, дастаткова спецыфічнымі. Гэта перакрэслівае спробы вылучаць нейкія гіпатэтычныя Няўрыду, Таўрыду, Туранію.

Разгледзім, напрыклад, назвы тыпу Гомель /«чарнагорны»?/ і Альда /«рака»/. У басейне Эсы /«бродніцы»/ ляжыць возера Гомель, ручай Гомель /Гомій, Гомей/ у аднайменным горадзе, рэчка Гумаль у басейне Гарыні — сугучны рэкам Гомільша /Сев. Донец/, Гомальсу /Турцыя/, Гомаль /Афганістан/, Гомаці /Індыя/. Ад слова «альда» ўзнікла назва рачнога чоўна: «альдзія» ў балтаў, «ладдзя» ў славян. Калі ўлічыць звыклае чарґаванне гукаў, аднолькавага паходжання Ясельда /Яцольда/, прыток Прыпяці, Сольда /Сакольда/ у басейне Заходняга Буга, Мальда, Эльда на поўначы Германіі, Альтаэльв у Швецыі, возера Олтуш у Маларыцкім раёне, рэчка Олту і возера Сальда ў Турцыі, Олт — прыток Дуная, Альта ў Левабярэжжы, Солда ў басейне Обі, Алдан — прыток Лены. Адзначанымі вышэй гідронімамі акрэсліваецца, як бы заслуплены старажытны арэал індаеўрапейцаў-арыяў. У яго межах тры тысячагоддзі назад вылучыліся германцы на паўночным захадзе і поўначы — пераважна ў Скандынавіі /«нардычная група»/, індаіранскія плямёны, якія падступілі да Дняпра, — на ўсходзе. У прасторы між імі, ад Віслы і Прусіі да Дзвіны, Валдая, Акі — балты. На поўдзень ад балтамоўных плямён /заходніх, усходніх, верхнедняпроўскіх/, у Вісла-Дняпроўскай прасторы, ад Карпат да Кіеўшчыны — славяне. Цэнтральная Еўропа — калыска кельтаў. У часы найбольшага росквіту /450—200 гг. да н. э./ яны дасягнулі Атлантыкі на Захадзе, верхняй Віслы і ніжняга Дуная на ўсходзе.

Вялікае ўздзеянне кельтаў /латэнскай культуры/ заўважаецца ў зарубінецкай і іншых культурах напярэдадні нашай эры. Адбылося іх судатыкненне з дака-іліра-фракійскімі плямёнамі, арэал якіх уключаў Валынь і Падолію, басейны Паўднёвага Буга і Днястра. На поўдні Еўропы яшчэ ў часы першага, «дагістарычнага» перасялення замацаваліся грэкі і будучыя раманскія народы.

Яшчэ заўвага. Нейкі асобны, ізаляваны гідронім можа быць выпадковым: проста сугучным чужой мове, або словам, некалі запазычаным з яе. Зусім іншая справа, калі ў абмежаванай мясцовасці сустракаецца група /не менш трох/ аднаэтнічных гідронімаў. Гэта ўжо сведчыць аб заканамернасці, дакладнасці этнічнага азначэння. І тады нават няпэўныя суседнія гідронімы можна далучыць да выяўленай групы і выкарыстаць у далейшых высновах. Гэтак да раней адасобленай назвы Сож можна далучыць Рыдыгу, Сарочынку, Удогу /«-уга» — фінскі фармант/, а таксама Мерэю, Проню /Пра, Пропасць/, Чачавец, Чыхаўку. У раёне, дзе цякуць Друйка і Дрыса, гідронімы Водзьга, Волта, Вята, Мерыца, Сар'янка сведчаць аб фіна-угорскай прысутнасці.

Не толькі моўныя запазычанні, субстраты гавораць аб межаванні і ўзаемадзеянні розных этнасаў. Часам вылучаюцца яўна поліэтнічныя гідронімы /Ардзежанка, Ардышоўка, Волчас, Варонуса, Зерамнянка, Ілжанка, Каладэрві, Лентухова, Лужасянка, Нерайшанка, Сародынька, Серакаратнянка, Тушмініца, Чарапеціца, Чарствяты/. Іх разгляд дазволіў бы высветліць паслядоўнасць засялення пэўнай тэрыторыі /па ўскладненні гідроніма/.

А пакуль што ў журчэнні і хвалях рэчак, зіхценні празрыстых крыніц, загадкавых назвах велічных рэк паўстае перад намі Бацькаўшчына.

Нейкі дасціпны чытач скажа: «Дык якая агульная выснова?» Вось яна: у гідраніміі няма вялікіх і малых рэк, як у мове і культуры няма вялікіх і малых народаў.

# ЯФІМ САДОЎСКІ



13 верасня 1993 года на 86-ым годзе жыцця памёр Яфім Садоўскі.

Яфім Ілыч Садоўскі нарадзіўся 4 студзеня 1908 года ў Мінску ў сям'і служачага.

Вучыўся ў сталярнай майстэрні, у прафтэхшколе, скончыў агульнаадукацыйныя курсы. Быў супрацоўнікам газет — «Савецкая Беларусь», «Рабочий», «Советская Белоруссия». У 20-я гады — член групы рускіх літаратараў «Звенья». Служыў у Чырвонай Арміі /1930—1932/.

У першыя гады Вялікай Айчыннай вайны — ваенны карэспандэнт на Заходнім і Цэнтральным франтах. У 1943—1970 гг. — зноў супрацоўнік газеты «Советская Белоруссия», дзе стаў майстрам газетнага жанру — інфармацыі.

Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Літаратурную дзейнасць Яфім Садоўскі пачаў у 1923 годзе. Як і большасць літаратараў — з паэзіі. Разам з Г. Ладным выдаў зборнік вершаў «Полустанок» /1927/. Выйшлі зборнікі апавяданняў «Скрыпка і ордэн» /у перакладзе на беларускую мову/, «Я вижу» /1939/, «Ясные дали» /1951/, «Жизни и судьбы» /1962/, а таксама кніжкі нарысаў, брашуры «Рукамі ўдарнікаў» /1931/, «У барацьбе за паліва» /1931/, «Дзесяць дзён, якія прынеслі перамогу цэхам» /1931/, «Записки молодого бойца» /1932/, «Раўняцца па героях» /1932/, «Герой Савецкага Саюза Аляксандр Ісачанка» /1946/, «Гістарычныя помнікі Беларусі» /1958/, «Люди и подвиг» /1965/. Склаў зборнік «Маякоўскі ў Беларусі» /1957/, напісаў сцэнарыі дакументальных фільмаў «Наваселле», «Па малых рэках».

Ва ўсіх сваіх творах ён славіў працу, чалавека працы, які ўпрыгожвае зямлю. Яго героям уласцівы няўрымслівасць і чэснасць, грамадская актыўнасць, чым быў надзелены і сам аўтар.

Светлая памяць пра Яфіма Ілыча Садоўскага назаўсёды захаваецца ў сэрцах тых, хто жыў, працаваў побач з ім.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

# ЗАХАР БІРАЛА



14 верасня 1993 года пасля цяжкай і працяглай хваробы на 87 годзе жыцця памёр член Саюза пісьменнікаў Беларусі паэт Захар Бірала.

Захар Якаўлевіч Бірала нарадзіўся 2 лютага 1906 года ў вёсцы Раўнаполле Пухавіцкага раёна Мінскай вобласці ў сялянскай сям'і. Пасля школы працаваў, вучыўся на рабфаку пры БДУ, у Мінскім дзяржаўным педагагічным інстытуце, які скончыў у 1934 годзе. Працяглы час выкладаў беларускую мову і літаратуру на Міншчыне ў школе. Далейшы лёс Захара Біралы склаўся трагічна — ён беспадстаўна быў рэпрэсаваны сталінскім рэжымам і працаваў далёка ад Радзімы на лесанарыхтоўках. У 1940 годзе Захара Біралу рэабілітавалі. Ён прымаў удзел у Вялікай Айчыннай вайне. Быў цяжка паранены. Вярнуўшыся з арміі, выкладаў беларускую і рускую мовы і літаратуру ў Мар'інагорскім сельскагаспадарчым тэхнікуме.

Літаратурную дзейнасць Захар Бірала пачаў рана — яшчэ ў дваццатыя гады. Друкаваў вершы ў газетах «Беларуская вёска», «Чырвоная змена», «Савецкая Беларусь», часопісе «Малады араты» і іншых выданнях. Першая кніжка пісьменніка «Смех і радасць вёскі» выйшла ў 1929 годзе. Убачылі свет кнігі Захара Біралы — «Цвітуць кветкі», «У пажарным парадку», «На светлым чорнае», «Прыляцела птушка», «Ружы і крапіва» і іншыя. Асабліва паспяхова працаваў пісьменнік у жанры гумару і сатыры.

Добры працаўнік, зычлівы і спагадлівы чалавек, Захар Бірала карыстаўся вялікай павагай сярод пісьменнікаў. Быў актыўным прапагандыстам беларускай літаратуры, шмат зрабіў у справе выхавання нашай моладзі.

Захар Бірала атрымаў урадавыя ўзнагароды за ўдзел у Вялікай Айчыннай вайне і старанную працу на педагагічнай ніве.

Светлы вобраз Захара Біралы назаўсёды застанецца ў сэрцах тых, хто яго ведаў, працаваў разам з ім.

**Саюз пісьменнікаў Беларусі**

Перапіска

*Паважаная рэдакцыя! Вырашыў напісаць вам свае думкі аб рускай літаратуры ў Беларусі, хоць зусім не ўпэўнены, што мае словы дойдуць да чытачоў. А сказаць хачу пра рускіх пісьменнікаў. Журналісты «ЛіМа» з гісторыі ведаюць, што Белая Русь — частка роднай зямлі рускага чалавека, а для рускіх людзей, што жывуць ад Брэста да Хоцімска, з'яўляецца Радзімай. Таму не лічу кепскім казаць аб дачыненні рускай літаратуры да Беларусі як роднай яе народу.*

*З Беларуссю звязана дзейнасць і жыццё многіх рускіх пісьменнікаў, пачынаючы з аўтара «Слова аб палку Ігаравым» і Георгія-Францыска Скарыны. Альбо возьмем Аляксандра Купрына. У Беларусі, пра беларускую дзяўчыну Алесю ён напісаў адзін з прыгажэйшых у свеце твораў. Ягоная «Алеся», відавочна, твор літаратуры Беларусі. Дык чаму ж тады Купрын не мае падставы лічыцца пісьменнікам Беларусі, хаця і рускім, а не беларускім? Гэтак можна сказаць і пра А. С. Пушкіна і ягоныя творы «Дуброўскі», «Станцыйны наглядчык», «Мяцеліца», многія вершы. Дарэчы, Пушкін нарадзіўся на зямлі, якая ў мінулым звалася Белай Руссю — таксама, як і зямля Янкі Купалы ці Уладзіміра Караткевіча.*

*Гэтак можна гаварыць і аб Сімяоне Полацкім, Іване Фёдараве, які працаваў на Беларусі, Пятру Мсціслаўцу, Гаўрыле Дзяржавіне ды Іване Лажэчнікаве, якія на дзяржаўных пасадах абаранялі народ Беларусі і культуру беларускага народа.*

*З Беларуссю звязаны жыццё і творчасць Міхаіла Ісакоўскага, Канстанціна Сіманава, Мікалая Кругавых, Ганны Кананавай, Елізаветы Палтэс, Валерыі Маргуліс, Леаніда Галубцова. Усе яны не рускамоўныя, а рускія пісьменнікі Беларусі.*

*Можна і болей прывесці імёнаў, але, мяркую, даволі і гэтага, каб сказаць, што руская літаратура не можа заставацца падчаркай у роднай маці-Беларусі. Я не адчуваю адмоўных адносін беларусаў да рускіх і рускай літаратуры, але з боку творчай інтэлігенцыі, дзяржаўных і палітычных дзеячаў такія адносіны ёсць.*

*На мой розум, падзел на беларускую, рускую і іншыя літаратуры не вельмі і патрэбны, хіба што для спецыяльных дысцыплін. А ў жыцці лепш знаць сваімі і Адама Міцкевіча, і Мікалая Гогаля, і Якуба Коласа, і Івана Стаднюка, і Івана Мележа, і Кандрата Крапіву, і Івана Шамякіна, і Саламею Нярыс, і Канстанцыю Буйло. Ды колькі іх, прыгожых талентаў, чыя творчасць не дзеліцца па нацыянальнасцях!..*

**В. ВОРАНАЎ**

*г. Бабруйск*

# ПРА СВАЁ, СВАЯЦКАЕ, СУСЕДСКАЕ І АГУЛЬНАЕ

Шаноўны Віктар Аляксандравіч!

Цяпер, калі да жаху звыклым стала вырашаць усе пытанні безаглядна-ваяўніча, Ваш ліст у штотыднёвік прыемна ўражвае як прапанова спакойна падумаць і памяркоўна асэнсаваць тое, што амаль нікога не пакідае абыякавым.

Мяркуючы па ўсім, Вы сур'ёзна заклапочаны і жадаеце разабрацца ў зменах асэнсавання беларуска-рускіх літаратурных сувязей. Я таксама імкнуся да гэтага і спадзяюся, што мы, шукаючы ісціну разам, паразумеемся. Дзеля перастрахоўкі, відаць, нам не лішне было б улічыць папярэдні адмоўны вопыт і не брацца вырашаць нічога «раз і назаўсёды».

Праблема ж, да якой мы звярнуліся, не толькі глабальная па прыродзе, але і зменлівая па гістарычным напаўненні, апроч таго заслоненая рознымі ідэалагічнымі міфамі як даўнейшага, так і навейшага часу, скажоная стэрэатыпамі, у тым ліку забабонамі прафесійна-даследчыцкага асяроддзя, не кажучы ўжо пра агітацыйна-прапагандысцкае.

Выбачайце, але штосьці з прыгаданага нейкім бокам паўплывала, мабыць, на Вас, калі Вы сваю апорную тэзу фармулюеце такім чынам: «На мой розум, падзел на беларускую, рускую ці другую літаратуры не вельмі і патрэбны; хіба што для спецыяльных дысцыплін. А ў жыцці лепш знаць сваімі і Адама Міцкевіча, і Мікалая Гогаля, і Якуба Коласа...»

На першы погляд, Ваш розум — не толькі паслядоўны, але і прагрэсіўны. Тым болей што і масавая свядомасць, і «спецыяльныя дысцыпліны» карыстаюцца такім паняццем, як «сусветная літаратура» і шэрагам блізказначных. Але ж... Але ж спачатку трэба вызначыцца, што мы разумеем пад літаратурай наогул. Калі ўспрымаем яе проста як пэўны фонд тэкстаў, мусова пераадольваць шматлікія недаўменні: паводле якіх законаў такі фонд назапашваецца, наколькі ён усеахопны і універсальны, каму і на якіх падставах дазволена яго вызначаць, калі ён можа /павінен/ пераглядацца і г. д., бясконца.

Вы, як чалавек дасведчаны, можаце прывесці, бадай, шмат азначэнняў больш-менш агульна прынятых. Толькі важна, каб не абмінулі і такое: літаратура ёсць адлюстраванне свядомасці — індывідуальнай /аўтара/ і калектыўнай /народа/. Часцей за ўсё акцэнт ставіцца на першым. Ды нельга забывацца, што самастойная літаратура афармляецца пры наяўнасці адметнай мовы ў канкрэтнага народа. Літаратура, адпаведна праз мову, служыць сродкам самаідэнтыфікацыі этнасу. Падкрэслім, праўда, не адна літаратура і не заўсёды «напрасткі».

Я цалкам падзяліў бы Вашу трывогу: «Нашто падзяляць?», каб гэта залежала ад суб'ектыўных толькі чыннікаў. Аднак варта звярнуць увагу на гістарычныя заканамернасці падзелу. Таму, відаць, першачарговая задача — абачліва, без ідэалагізацыі, з якога боку б яна ні падпіхвалася, паразважаць і правільна ўсвядоміць межы **свайго, сваяцкага, суседскага, супольнага**. Канкрэтызуючы Вамі ўзнятае пытанне, трэба высвятляць, як складвалася і развівалася агульная ўсходнеславянская літаратура, калі і чаму размяжоўвалася, наколькі разыходзіліся яе адгалінаванні, наколькі ўдавалася ім сцвердзіцца.

Няпроста ва ўсім гэтым разабрацца. І ў пэўнай меры Ваш ліст можна ўспрымаць як слушны закід навукоўцам: чаму дагэтуль не выпрацавалі надзейных поглядаў? Ды лепш, бадай, лічыць яго заклікам шукаць трывалыя меркаванні надалей. Хоць бы ў прыватных момантах. І таму якраз да іх, непасрэдна Вамі закранутых, давайце звернемся.

Няма сэнсу дыскутаваць з Вашай заўвагаю наконт таго, што Купрын напісаў пра беларускую дзяўчыну Алесю адзін з прыгажэйшых сусветных твораў. А разам з тым ніяк нельга пагадзіцца, што з гэтага вынікае, быццам бы «Алеся» — «відавочна твор літаратуры Беларусі», а тым болей, што сам Купрын «мае падставы... лічыцца пісьменнікам Беларусі». У якасці галоўнага крытэрыю Вы ўзялі **тэму**, падмацоўваючыся, акрамя згаданага, прыкладамі з творчасці А. С. Пушкіна. Я б мог дадаць яшчэ шмат прыкладаў такога, а, магчыма, і больш пераканаўчага зместу: «Рускім афіцэрам у Польшчы» А. Герцэна, «Рагнеда» К. Рылеева, «Літвінка» і «Баярын Орша» М. Лермантава, «Чыгунка» і «Каму на Русі жыць добра» М. Някрасава, «Лес шуміць» У. Караленкі... Але яны непрыдатныя, каб рабіць высновы такія, як у Вас. Зноў-такі, паводле гэткіх прынцыпаў, Янку Маўра можна было б залічыць у нова-гвінейскія ці вогненназямельскія пісьменнікі шматлікіх сённяшніх фантастаў — у марсіянскія альбо таукіцянскія... Ды гэта ўжо калі не штукарства, дык, перапрашаю, і не пошук ісціны.

Другая вызначальная прыкмета, па-Вашаму, — генеалогія, месца нараджэння творцы. Баюся, што Вашы развагі наконт Пушкіна і тут мала каго пераканаюць. Па-першае, імя гэтае нельга адназначна ставіць у адзін шэраг з Фёдаравым, Мсціслаўцам ды Полацкім з элементарных патрабаванняў гістарызму. Па-другое, у Пушкіна не было таго, што мае дачыненне да беларуска-іншанацыянальнай «пераходнасці». Тут больш дарэчы маглі б успрымацца імёны Ф. Булгарына, В. Сянкоўскага, Ф. Дастаеўскага, І. Саланевіча, як і А. Міцкевіча, У. Сыракомлі, Г. Сянкевіча і многіх іншых. Ну, а калі браць Вашу метадалогію ў адцягненым выглядзе, не магу не падзяліцца адным уражаннем. У размове з армянскім філолагам неяк давялося пачуць, што армянін часткова — У. Маякоўскі. А даказвалася гэта той акалічнасцю, што ягоны бацька да пераезду ў Грузію /менш як за дзевяць месяцаў да нараджэння будучага паэта/ служыў у Арменіі. Устрымаюся ад каментарыяў, думаю, што мы з Вамі да такіх доказаў ставімся падобна. Хоць і разумеем, што пэўныя супярэчнасці ў такіх выпадках былі і будуць. Іх не здыме ні юрыдычнае фіксаванае грамадзянства, ні пашпартная інфармацыя, ні прапіска. Напрыклад, Яраславам Смеляковым падкрэслівалася: «Я по паспорту — белорус», а разам з тым: «Я русский по виду и сути», «Я русский по духу и плоти».

Тут, магчыма, не без карысці звярнуць увагу на розныя тыпы сувязі з некалькімі нацыянальнымі культурамі. Так, небеспадстаўным уяўляецца азначэнне «яўрэйская творчасць па-руску» /Ш. Маркіш/. Але зноўтакі нельга заплюшчваць вочы на тое, што пры змене мовы, грамадзянства /тут важней — культурнага асяроддзя/ як правіла адбываецца трансфармацыя светапогляду, прынамсі, дачыненняў да канкрэтных культур, да іх спалучэння-сутыкнення. Вядома, скажам, што Ежы Касіньскі, Уладзімір Набокаў, Іосіф Бродскі называлі сябе амерыканскімі пісьменнікамі. Вельмі цікава было б звярнуцца да прыкладу з Чэславам Мілашам, ураджэнцам і выхаванцам Віленшчыны, паходжаннем з шляхты часоў Вялікага княства Літоўскага.

Але не будзем адхіляцца ўбок і вернемся да вылучанага Вамі пытання — «руская літаратура ў Беларусі» — з пункту гледжання моўнай палітыкі ранейшай і цяперашняй. На маю думку, уважлівага, аб'ектыўнага і талерантнага падыходу чакаюць з'явы, якія трэба называць — па аналогіі з прынятым мовазнаўчым тэрмінам — дву/шмат/літаратур'ем. Адпаведна, не трэба брацца за выхапленае з агульнага кантэксту беларуска-рускае пытанне. Ужо таму, што яно мае самы ўскладнёны канкрэтна-гістарычны змест, а ў той жа час выглядае даволі проста ў параўнальным плане, тыпалагічна. Разумеючы, што дзяржаўнай павінна стаць мова беларуская, ніхто ж не прапаноўвае забараняць іншыя ў якасці моў творчасці. Дарэчы, за апошнія дзесяцігоддзі сітуацыя склалася так, што недзе кожны пяты прафесійны пісьменнік у нас за мову творчасці меў рускую, ды ўвогуле не знайсці такіх, хто б ёю не карыстаўся. Іншая справа, што за кожнага асобнага пісьменніка, паходжаннем беларуса ці яўрэя, паляка ці рускага, мы з Вамі не маем правоў вырашаць, да якой літаратуры яму належаць. Паўтару: я спадзяюся на талерантнасць і аб'ектыўнасць усіх, хто мае дачыненне да гэтай справы ў тэорыі і практыцы. І веру, што Вы таксама, як і многія іншыя, прымаеце такі падыход з улікам двухбаковасці. Бо калі пайсці шляхам звадак, узаемапагарды, то мала застанецца да здзяйснення парады ў стылі чорнага гумару: «Дзіця аб зямлю — і канец хрэсьбінам»...

Каб не склалася ўражанне, што Ваш ліст і мой адказ — дыялог двух глухіх, дадам: разумею, Вы не ўсё выказалі, я, паверце, таксама, але мы папрабавалі і надалей будзем старацца паважаць не толькі асабістыя доказы.

**З пашанай**
**Іван ЧАРОТА**


ЛіМ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА

ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (першы намеснік галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), Юрась СВІРКА



АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснікі галоўнага рэдактара -- 33-25-25; 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.



*Пры передруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*



Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Наклад 12.000. Нумар падпісаны 23.09.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12